ЭЛЕМ КЛІМАЎ

ДЗЕЦІ ЯСЕНІНА

# Наша Гісторыя

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 www.nn.by

№ 9 (14) – 2019

ISSN 2617-2305

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

ГІСТОРЫЯ HOMO SAPIENS ЗАВЯРШАЕЦЦА?



І ТЫРАНЫ МОГУЦЬ БЫЦЬ НАІЎНЫМІ. ЧАМУ СТАЛІН ПАВЕРЫЎ ГІТЛЕРУ?



1939: ЧЫРВОНАЯ АРМІЯ Ў ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

НЕЧАКАНАЕ АДКРЫЦЦЁ

# КАРОНА ВІТАЎТА

КОМІКС!

СУПЕРБЕЛАРУСЬ. НЕЙМАВЕРНЫЯ ПРЫГОДЫ СЯМ’І ПРАГРАМІСТАЎ

16+


Насі
Беларусь з сабой
ДБРДЗНЬ
БАРАНІ СВАЁ
Набыць футболкі гэтых ды іншых серый можна ў крамах:
**Мінск**, «Мой модны кут» (Цэнтр Маскоўска-Венскі, павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро Якуба Коласа, пр. Незалежнасці 58)
**Мінск**, Symbal.by (пр-т Машэрава, 18, з 10:00 да 20:00 без выхадных)
**Мінск**, «Рагна» (вул. Сухая, 4)
**Мінск,** Vishivanka.by (ГЦ «Няміга-3», цокальны паверх, 73 павільён)
**Брэст**, «Князь Вітаўт» (вул. Савецкая, 55)
**Гродна**, «Цудоўня» (вул. Кірава, 3)
Або замаўляйце праз **Symbal.by**.

Наша Гісторыя
9/2019
history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Паўліна Скурко, кандыдатка гістарычных навук

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Тацццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — партрэт князя Вітаўта з экспазіцыі Троцкага замка. Аўтар — Ёнас Сідаравічус.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X, УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** nn@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 09.09.2019.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 0752/19.
Наклад 5073 ас.

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Акварэль-прынт». Вул. Радыяльная, 40-202, 220070, г. Мінск. УНП 101282916. ЛД 02330/78 ад 03.03.2014.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/16 ад 21.11.2013 г.

## Ад рэдакцыі

Стоячы сёлета 24 жніўня пры сваім намёце на свяце грузінскай культуры «Тбілісоба» ў Мінску, мы прапаноўвалі людзям, якія да нас падыходзілі, паўдзельнічаць у жартоўным галасаванні «Хто з вялікіх князёў быў самы-самы?». Кандыдатаў было сямёра: Альгерд, Вітаўт, Віцень, Гедымін, Жыгімонт Кейстутавіч, Міндоўг, Ягайла. А працэдура галасавання — надзвычай простая: лічыш, што самы-самы вось той, то вазьмі з талеркі цукерачку ды кінь яе ў пакуначак з іменем упадабанага героя. А іншай можаш і сам пачаставацца :)

Галасаванне жартоўнае, і дэфініцыі таго, што такое «самы-самы», ніякай не было. Тым, хто пытаўся, так і адказвалі: агульнага крытэрыя няма, што самі ў гэта азначэнне ўкладзяце, тое і добра будзе. Галасуйце, так бы мовіць, сэрцам. Так і галасавалі. А вынік, калі ўвечары цукеркі падлічылі, аказаўся такі: Вітаўт — 82, Гедымін — 29, Міндоўг — 24, Альгерд — 15, Ягайла — 10, Віцень — 9, Жыгімонт Кейстутавіч — 3.

Таму, што перамог Вітаўт, ды яшчэ з такім вялізным адрывам, — адзін сабраў мала без чаго столькі, колькі ўсе канкурэнты разам! — няма чаго дзівіцца. Імя гэтага князя здаўна авеяна рамантычнай легендай. Менавіта з ім асацыюецца найбольшая веліч нашай сярэднявечнай дзяржавы — і ў сэнсе тэрыторыі, што ўваходзіла ў яе склад (менавіта пры Вітаўце ВКЛ было дзяржавай «ад мора да мора»), і ў сэнсе яе палітычнага ўплыву.

Вітаўт для сённяшніх беларусаў — і абаронца краіны ад знешніх ворагаў (перамога пад Грунвальдам над крыжакамі 15 ліпеня 1410 года), і змагар супраць пагрозлівай для суверэнітэту ВКЛ занадта прасунутай «брацкай інтэграцыі» з Польшчай, і актыўны прадаўжальнік усходняй палітыкі сваіх дзядзькі і дзеда Альгерда і Гедыміна, скіраванай на тое, каб менавіта Вільня, а не Масква стала цэнтрам аб'яднання ўсходнеславянскіх земляў. Ну, як такога не любіць?

Адно што толькі шчасце Вітаўту не заўсёды спрыяла: і параза на Ворскле ў 1399-м крылы не ў час падрэзала, і сыноў сабе на змену выгадаваць лёс не судзіў, а пад канец жыцця нядобразычліўцы яшчэ і каранавацца не далі...

Зрэшты, не так усё і проста з той каранацыяй. Легендаў ды пагалосак пра яе ходзіць шмат, а як прыгледзішся, то толкам асабліва не надта што і вядома. Ці так усё было на самай справе, як нам уяўляецца: Вітаўт горача хацеў каранавацца, угаварыў імператара Святой Рымскай імперыі Жыгімонта Люксембургскага, каб той на гэта пагадзіўся, а польскі кароль Ягайла быў катэгарычна супраць і не даў таго зрабіць? Даследчык таго часу Сяргей Палехаў у гэтым нумары «Нашай гісторыі» дзеліцца сваімі апошнімі адкрыццямі і паказвае, што на самай справе адносіны ў гэтым трохкутніку былі куды больш складаныя: і Вітаўт не так ужо і хацеў, і Ягайла не так ужо быў і супраць, а Жыгімонт тую карону ледзь не сілком упіхваў. А куды тая карона, што да Вільні не даехала, падзелася і што з ёй было далей? Пра гэта таксама ў артыкуле ёсць.

Карацей, будзе цікава. Не пераключайцеся!


4
ALEXANDER VITOLDUS MAGNUS DUX LITHVANIAE
FUNDATOR PRÆPOSITURÆ BRESTENSIS ANNO POST
CHRISTUM NATUM 1412 FERIA 6ª ANTE
FESTUM ASSUMPTIONIS B V MARIAE


24


COME AND SEE...
16


56


66


42


74




86


70


92

# Дзе падзелася карона Вітаўта



НЕЧАКАНАЕ АДКРЫЦЦЁ

**Пфальцкая карона** — найстарэйшая каралеўская карона Англіі, 1370-я. Падобную карону везлі Вітаўту.

**Піша кандыдат гістарычных навук Сяргей Палехаў.**

#### «А ці быў той Міндоўг, невядома»

Першым быў Міндоўг. Аб'яднальнік і кіраўнік-«самаўладнік» Літвы (як называлі яго ў летапісах), ён змог дабіцца ад папы каралеўскай кароны. Аднак пасля забойства Міндоўга яго наступнікі, у большасці паганцы, не каранаваліся. Бо гэта запатрабавала б хрышчэння ў каталіцтва або уніі з Рымам. У дыпламатычнай перапісцы вялікія князі літоўскія тытулаваліся каралямі (а Альгерд увогуле царом, што ў канцылярыі Канстанцінопальскага патрыярхата перакладалі словам «васілеўс»), але гэта былі толькі словы. Для прызнання за Вялікім Княствам Літоўскім пэўнага месца ў сям'і еўрапейскіх каралеўстваў трэба было не толькі хрышчэнне, але і згода імператара Святой Рымскай імперыі і папы.

Так, з папскага благаслаўлення каралеўствамі сталі Балгарыя Калаяна (1204), Арагон Педра II (1205), Сербія Стэфана Неманіча (1217), Літва Міндоўга і Русь Данілы Раманавіча (1253). Пасля гэтага ўзвядзенне ў каралеўскі ранг надоўга спынілася. Наступным каранацыі дамогся брандэнбургскі курфюрст Фрыдрых III, які стаў «каралём у Прусіі» Фрыдрыхам I толькі ў 1701 годзе са згоды імператара Леапольда I.

Хоць перамовы між папамі, імператарамі і патэнцыйнымі каралямі не спыняліся. Можна ўспомніць не толькі перапіску з Альгердам і Кейстутам пра каранацыю пры ўмове хрышчэння. Кароны ад папы Сікста IV у 1483 годзе дабіваўся і маскоўскі князь Іван III. Праўда, ужо праз шэсць гадоў ён пагардліва адмовіўся прыняць карону ад імператара Фрыдрыха III. У Маскве паступова зацвярджалася ўяўленне, што яе кіраўнік і сам роўны імператару.

## Каранацыя была мэтай жыцця Вітаўта? Хутчэй за ўсё, не

Паганская ж Літва, якая заставалася краінай вуснага слова, хутка забылася пра свайго першага караля. Калі ў пачатку XV стагоддзя на перамовах з польска-літоўскай дэлегацыяй дыпламаты Тэўтонскага ордэна нагадалі, што Міндоўг запісаў ордэну некаторыя літоўскія землі, дэлегаты адказалі: няясна, ці быў наогул калі-небудзь у Літве такі валадар, а калі і быў, дык наўрад ці меў уплыў і права распараджацца землямі. Хоць, з іншага боку, паслам выгадней было сказаць так, чым аддаваць свае тэрыторыі на падставе дамоваў 150-гадовай даўніны.

#### Тры спробы

Самая вядомая спробаператварыць Вялікае Княства Літоўскае ў каралеўства звязаная з імем Вітаўта. Але ці было імкненне стаць каралём справай яго жыцця? Наўрад ці. Асабліва калі ўлічваць, з якімі цяжкасцямі вялікі князь сутыкнуўся, калі з'явілася рэальная перспектыва каранацыі.

Не будзе моцным перабольшаннем сказаць, што гэта Вітаўт зрабіў з Літвы сапраўднае Вялікае Княства. Ён цэнтралізаваў дзяржаву, замяняючы ўдзельных князёў паслухмянымі намеснікамі і ваяводамі, упарадкаваў велікакняскі двор, стварыў сістэму рэпрэзентацыі (напрыклад, выкарыстоўваў гербавую і тронную пячаткі), клапаціўся пра падвышэнне міжнароднага прэстыжу ВКЛ.

Тым самым на процілеглым баку Еўропы займаліся валадары Бургундыі, «вялікія герцагі ▸



**Сяргей Палехаў**
Кандыдат гістарычных навук, даследчык Вялікага Княства Літоўскага з Расіі.
Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута расійскай гісторыі Расійскай акадэміі навук, старшы навуковы супрацоўнік Расійскай акадэміі народнай гаспадаркі і дзяржаўнай службы.
Аўтар кнігі «Наследники Витовта. Династическая война в Великом княжестве Литовском в 30-е годы XV века» (Масква, 2015), намеснік адказнага рэдактара расійска-беларускага выдання крыніц «Полоцкие грамоты XIII — начала XVI века» (т. 1–2, адк. рэд. Г. Л. Харашкевіч, Масква, 2015).
Цяпер рыхтуе да выдання зборнік крыніц «Дыпламатычны кодэкс Свідрыгайлы».




**Жыгімонт Люксембургскі ў шапцы, якую яму падарыў Вітаўт.** У 1410 годзе Вітаўт на з’ездзе з Жыгімонтам падарыў яму мноства сокалаў, коней, вырабаў з шоўку і футра, у тым ліку 12 сабаліных шапак, дзве з якіх былі ўпрыгожаныя жамчужынамі. У адной з іх багемскі майстар пазней намаляваў Жыгімонта.

▸ Захаду». Але і яны, нягледзячы на ўвесь бляск сваёй улады і старанні, так і не сталі каралямі.

За амаль саракагадовае кіраванне Вітаўта ў крыніцах знойдуцца толькі тры эпізоды, якія сведчаць пра яго спробы атрымаць карону. У 1398 годзе на балі пасля заключэння Салінскай дамовы з Тэўтонскім ордэнам літоўскія князі і баяры выгукнулі Вітаўта каралём. Пагаворвалі, што кароны для яго ад папы Баніфацыя IX мае намер дабівацца Ягайла. Але ў 1399-м Вітаўт пацярпеў паразу ў бітве з татарамі на Ворскле, а пазіцыі Ягайлы ў Польшчы пасля смерці жонкі Ядвігі (дзякуючы якой ён і стаў каралём) моцна пахіснуліся. Абодвум уладарам стала не да таго.

У другі раз Вітаўт атрымаў прапанову каранавацца ад венгерскага караля Жыгімонта Люксембургскага ў 1410 годзе, калі вёў вайну з Тэўтонскім ордэнам. Але каранацыя азначала б разрыў саюзу з Польшчай, хаўрусніцай ВКЛ у барацьбе з крыжакамі, і Вітаўт на гэта не пайшоў. Ён паспешліва пакінуў Жыгімонта і пастараўся прадставіць гісторыю палякам у выгадным святле.

Самай драматычнай стала трэцяя спроба, зробленая ў 1429–1430 гадах.

Звычайна падкрэсліваецца, што ёй папярэднічала спакойнае і паспяховае для Вітаўта дзесяцігоддзе. Пасля 1422 года, калі Тэўтонскі ордэн адмовіўся ад Жамойці, Вітаўт ужо не быў так зацікаўлены ў польскай дапамозе. Валадар Літвы мог зноў звярнуць погляд на ўсход, дзе пасля смерці вялікага князя маскоўскага Васіля I на трон узышоў малы Васіль II, унук Вітаўта. Досыць роўныя адносіны склаліся і з Ардой.

Але гэта — толькі адзін бок медаля.

## Той, хто хацеў каранаваць Вітаўта

Выглядае, што была асоба, больш за Вітаўта зацікаўленая ў стварэнні Літоўскага каралеўства, — венгерскі, рымскі і чэшскі кароль Жыгімонт Люксембургскі, фармальны кіраўнік Святой Рымскай імперыі. Імператарам ён стане толькі ў 1433 годзе, але і да таго Жыгімонт лічыў сябе кіраўніком хрысціянскага свету.

Адсутнасць імператарскай кароны была не адзінай праблемай Жыгімонта. У 1419 годзе пасля смерці брата Вацлава IV ён атрымаў у спадчыну Чэхію, ахопленую гусіцкай рэвалюцыяй. Гусіты спусташалі яго ўладанні, з імі не ўдавалася дамовіцца. А з поўдня насядалі туркі. Жыгімонт як венгерскі кароль быў разбіты імі пры Нікопалі ў 1396 годзе, пасля чаго асманскія султаны бралі крэпасць за крэпасцю.

Жыгімонт вельмі хацеў заручыцца падтрымкай Вітаўта ў барацьбе з гусітамі і асманамі. Ён стараўся задобрыць яго ласкавымі словамі і прэстыжнымі прапановамі. У жніўні 1429-га Жыгімонт прыняў Вітаўта ў Ордэн Дракона — прэстыжнае аб'яднанне еўрапейскіх манархаў (падрабязней пра яго глядзіце артыкул Улада Швядовіча «Дракула кіраваў Вялікім Княствам Літоўскім?» у нумары 3/2019 «Нашай гісторыі»). А ў каранацыйных дакументах параўноўваў літоўскага князя з «апосталам Госпаднім» і называў «шчытом хрысціян супраць язычнікаў».



**Сімвал Ордэна Дракона.** Мюнхен, Баварскі нацыянальны музей.

## Нечаканая прапанова

У пачатку 1429 года ў Луцку на Валыні адбыўся з’езд еўрапейскіх манархаў. Апроч Вітаўта і Ягайлы з іх дварамі, у Луцкі замак прыехалі Жыгімонт

Люксембургскі з жонкай Барбарай Цылейскай, дваром, венгерскімі і чэшскімі баронамі, а таксама луцкае духавенства - каталіцкі і праваслаўны епіскапы ды нават армянскі епіскап і равін. Зоркай форуму, канечне, быў Жыгімонт. Ніводзін кіраўнік Святой Рымскай імперыі раней не заязджаў так далёка на ўсход.

Абмяркоўвалі бягучыя пытанні: барацьбу з туркамі і гусітамі, унію Праваслаўнай і Каталіцкай цэркваў. Аж раптам размову перарвала нечаканая прапанова Жыгімонта — каранаваць Вітаўта каралеўскай каронай.

Ягайла пагадзіўся, хоць Вітаўт заклікаў яго не спяшацца ў такім сур'ёзным пытанні — параіцца з прадстаўнікамі польскага істэблішменту. (Вітаўт звярнуўся да брата па-літоўску — пэўна, каб іх не зразумеў рымскі кароль, які ведаў як мінімум чэшскую і мог разумець іншыя славянскія мовы.)


WIKIMEDIA COMMONS

## Росту малога, рукі рознай даўжыні

Вітаўт целам быў дробны, галава ў яго была круглая, правая рука значна даўжэйшая за левую, пісаў польскі гісторык Ян Длугаш. Ён яшчэ заспеў людзей, якія бачылі вялікага князя літоўскага на свае вочы, — нават бацька Длугаша ўдзельнічаў у бітве пад Грунвальдам. Але такія фізічныя недахопы, адзначаў храніст, Вітаўт кампенсаваў надзвычайнай энергіяй, загартаванасцю і працавітасцю. Да апошніх дзён жыцця ён ездзіў конна. Нават у далёкі паход на Пскоў 80-гадовы вялікі князь выправіўся верхам.

**Злева** — самая ранняя выява Вітаўта XVI стагоддзя.

**Ніводзін кіраўнік Святой Рымскай імперыі не заязджаў так далёка на ўсход, як Жыгімонт Люксембургскі**

Ягайла меў свой інтарэс у стварэнні Літоўскага каралеўства. Ён у той час якраз дамагаўся ад польскай шляхты гарантый, што пасля яго смерці польскі сталец успадкуе адзін з яго сыноў. Магчыма, польскі кароль разлічваў, што пасля смерці Вітаўта, які сам сыноў не меў, літоўская карона пяройдзе да кагосьці з Ягайлавічаў. А паколькі Літва і Польшча мелі саюзныя адносіны, палякам давядзецца абраць літоўскага караля таксама і польскім... Аднак дарадцы-палякі рашуча запярэчылі, і Ягайла адклікаў сваю згоду.

Адно за адным ездзілі пасольствы Вітаўта ў Польшчу, а Ягайлы — у Літву. Палякі настойвалі, што стварэнне спадчыннага Літоўскага каралеўства супярэчыць Гарадзельскай уніі 1413 года, паводле якой ВКЛ пасля смерці Вітаўта павінна было перайсці да польскага караля. Яны пагражалі вайной, шантажуючы літоўскі бок. Вітаўт адказваў, што выступае за захаванне добрых адносін, але настойваў, што Літва заўсёды была свабоднай і нікому не падпарадкоўвалася.

У дадатак узнікала фармальная зачэпка: ці можа рымскі кароль, яшчэ не стаўшы імператарам, ствараць новае каралеўства? Спрэчка разгарэлася паміж юрыстамі Венскага і Кракаўскага ўніверсітэтаў. У выніку палякі дамагліся ў папы Марціна V забароны на царкоўную частку цырымоніі — памазанне Вітаўта. Але Жыгімонт даводзіў, што памазанне і не абавязковае для каранацыі, спасылаючыся на парадак, прыняты каралямі Шатландыі, Кастыліі і Сіцыліі.

## Прадзедава карона

Ужо ў маі 1429 года Жыгімонт Люксембургскі пісаў Вітаўту, што кароны, аздобленыя каштоўнымі камянямі, гатовыя. Звесткі пра тое, як яны выглядалі, знайшоў нямецкі гісторык барон Вольфганг Штромер фон Райхенбах, аўтар манаграфіі аб фінансах ▶

**Такім пабачылі Луцкі замак** Вітаўт, Ягайла і Жыгімонт Люксембургскі зімой 1429 года.

SHUTTERSTOCK.COM / PETRUK VIKTOR

Нюрнберга, які і сам паходзіў з тамтэйшага патрыцыянскага роду. Ён звярнуў увагу на сведчанні пра заклад кароны, якая, відавочна, прызначалася для Вітаўта. У расходных кнігах Нюрнберга гаварылася, што карона важыць 11 марак і ½ лота (прыкладна 2,5 кілаграма), у ёй 50 рубінаў, 56 сапфіраў і адзін ізумруд, уся яна абсыпаная жэмчугам, а ў чатырох месцах — спалучэннем рубінаў і пяці жамчужын.

Кароны, хутчэй за ўсё, па звычаі таго часу, выглядалі як дыядэмы, увянчаныя зубцамі.

У ліпені 1429 года ордэнскі саноўнік Клаўс фон Рэдэвіц пасля аўдыенцыі ў Жыгімонта ў Прэсбургу (цяперашняй Браціславе) таксама адзначыў, што кароны для Вітаўта і яго жонкі ўжо гатовыя: адна з іх некалі належала імператару Генрыху, другая — рымскаму каралю Рупрэхту (1400–1410), і абедзве яны набытыя за нечуваныя 50 тысяч гульдэнаў (для параўнання, карону, падрыхтаваную для каранацыі бургундскага герцага Карла Смелага ў 1473 годзе, якая так і не адбылася, разам з Ордэнам Падвязкі ацэньвалі ў 60 тысяч гульдэнаў).

Закладаць ліхвярам карону ў Сярэднявеччы было звычайнай справай. Валадары ахвотна закладалі і дарылі інсігніі (каштоўныя знакі ўлады), асабліва тыя, што належалі іх папярэднікам. Нарэшце, у адным нядаўна знойдзеным праекце каранацыйнага дакумента Жыгімонт заяўляў, што каронай, прызначанай для Вітаўта,

## Жанчыны Вітаўта

Той жа Длугаш адзначаў, што Вітаўт меў большую, чым належыць кіраўніку такога ўзроўню, пажадлівасць да жанчын і схільнасць шукаць прыгод з кабетамі. Ён, піша храніст, мог кінуць войска ў чужой зямлі, у разгар вайны, і на спецыяльна падрыхтаваным кані паскакаць дамоў да жонкі «або да сваіх наложніц».



WIKIMEDIA COMMONS

**Другая жонка Вітаўта Ганна.**



**На гэтай пячатцы з меланхалічным Вітаўтам можна пабачыць княжаскую моду таго часу** (плашчы, накідкі ў некалькі слаёў — самыя багатыя людзі маглі сабе дазволіць выкарыстоўваць столькі тканіны на адзін убор). Можна спадзявацца, што аўтар пячаткі паспрабаваў перадаць і партрэтнае падабенства — у 1407 годзе Вітаўту было пад 60 гадоў.

карыстаўся ягоны прадзед — імператар Генрых. Гаворка ідзе пра Генрыха VII, якога Дантэ ў «Боскай камедыі» змясціў у раі пад імем выратавальніка Італіі Арыга.

Каранаваўшыся імператарскай каронай у 1312-м, Генрых заявіў пра свае правы на найвышэйшую ўладу ў Еўропе. Для Жыгімонта, які таксама ўяўляў сябе «сусветным манархам», права стварыць новае каралеўства — Літоўскае — было праявай гэтай усёмагутнасці.

## Два пасольствы

Хутка ажыццявіць рызыкоўную задуму перашкодзіла хвароба. Рымскі кароль пакутаваў на падагру і якраз перажыў чарговы яе прыступ (у Ватыканскай бібліятэцы захаваўся рукапіс з рэцэптамі лекаў, якімі яго лячылі). Толькі ў пачатку ліпеня ён дабраўся да Вены і азнаёміўся з меркаваннем юрыстаў, якія абгрунтавалі яго права ствараць новыя каралеўствы. У доўгім лісце ён як мог стараўся развеяць сумневы Вітаўта. А яны былі: разрываць саюз з Польшчай вялікаму князю зусім не хацелася.

З Вены Жыгімонт выслаў два пасольствы ў Літву. Першае, у якім ехаў італьянскі юрыст, доктар Джанбатыста Чыгала з Генуі ў суправаджэнні сілезскага немца Жыгімонта Рота, везла трактаты юрыстаў Венскага ўніверсітэта, інструкцыю для паслоў аб ходзе ўрачыстай цырымоніі, а галоўнае — каранацыйную грамату, у якой гаварылася аб наданні каралеўскага тытула Вітаўту і яго спадкаемцам ды стварэнні Літоўскага каралеўства, нікому не падначаленага.

За першым пасольствам ехала другое, якое везла самі кароны, даспехі, аздоблены шоўкам шацёр і іншыя багатыя дары. Па задумцы Жыгімонта, удзельнікі пасольства ▸

### Як апранаўся Вітаўт

Крыніца пра ўборы Вітаўта — запісы з рахункавых кніг велікакняскага і польскага каралеўскага двароў, дзе пазначана, якая тканіна закуплялася і якая адзежа шылася з яе для валадароў ВКЛ. На штодзень Вітаўт насіў палатняную сподню кашулю, сукню з каўнярам або жупан, суконныя порткі і абутак з сукна або скуры. Зверху ж апранаў кажух лісіны, сабалёвы, з вавёрак ці з гарнастаяў або «суконны плашч, падшыты сукном іншага колеру». Для каптанаў Вітаўта закуплялі таксама чорны ядваб, аксаміт, франчэ. Адзначаецца, што строі шыліся па французскай модзе. Аздоба для ўбораў замаўлялася англійскага вырабу.
Таксама ў рахунках Ягайлавага двара згадваецца скроены для Вітаўта шэры аксамітны каптан, падшыты ватаваным палатном са схаванай спадыспаду кальчугай, якая бараніла ад замахаў. Так што можна засумнявацца ў словах Длугаша пра тое, што Вітаўт мала зважаў на адзежу, аддаючы перавагу авечаму кажуху, падшытаму сукном, на які ён падчас афіцыйных мерапрыемстваў накідваў плашч.



WIKIMEDIA COMMONS

Генрых VII у каралеўскай кароне здзяйсняе паход на Рым. **Яго праўнук Жыгімонт Люксембургскі абяцаў такую карону Вітаўту.**




▸ прадстаўлялі розныя яго ўладанні: архібіскуп магдэбургскі Гюнтэр фон Шварцбург і герцаг баварскі Эрнст — Святую Рымскую імперыю, біскуп заграбскі Ёган Альбен і шматлікія венгерскія бароны на чале з гофмайстрам Ласла Тамашы і надарам (палацінам) Міклашам Гараі — Венгерскае каралеўства, князь Пржэмка Опаўскі і магнат Олдржых з Рожмберка — Чэшскае каралеўства. Гэтыя паслы і павінны былі каранаваць Вітаўта і Ульяну, а затым прапанаваць ім вечны саюз з валоданнямі Жыгімонта.

Чаму Жыгімонт выправіў абодва пасольствы самым небяспечным шляхам — праз Польшчу? Рымскі кароль думаў, што палякі не асмеляцца напасці, кажуць адны гісторыкі. Іншыя лічаць, што ён спецыяльна ставіў каранацыю пад пагрозу, бо на самай справе не вельмі і хацеў стварэння Літоўскага каралеўства. Думаецца, прычына была больш празаічная: Жыгімонт спяшаўся. Дата каранацыі, свята Нараджэння Дзевы Марыі (8 верасня), была ўжо прызначана. У Літву збіраліся госці з розных краін: магістры Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў Паўль фон Русдорф і Цысэ фон дэм Рутэнберг, вялікі князь маскоўскі Васіль II і цвярскі Барыс Аляксандравіч, разанскія і навасільска-адоеўскія князі, паслы візантыйскага імператара Іаана VIII Палеалога (першым шлюбам жанатага з дачкой Вітаўта), дацкага

## Рыцар да абеду, блазан пасля абеду, а сам шпіён?

У перапісцы Вітаўта згадваюцца блазны, якія весялілі яго двор. Аднаго з іх звалі Генэ (*Henne*), яго пазычыў вялікаму князю тэўтонскі магістр. Раз, не вытрымаўшы блазнавых выбрыкаў, Вітаўт даў яму поўху. У адказ Генэ скінуў свой блазенскі касцюм і абвясціў, што князь пасвяціў яго ў рыцары (поўха давалася падчас пасвячэння). Вітаўт дамовіўся з блазнам, што да абеду той мог быць спакойным і мудрым рыцарам, а пасля абеду зноў рабіўся смешным дурнем. Мянушка «рыцар да абеду, блазан пасля абеду» замацавалася за Генэ, з гэтага ў сваіх лістах адзін аднаму жартавалі Вітаўт і магістр. Раней гісторыкі называлі Генэ ордэнскім шпіёнам, але цяпер лічыцца, што справаздачы магістру ён пісаў з ведама Вітаўта.

### Карлікі Вітаўта

Яшчэ адной забавай тагачасных еўрапейскіх двароў былі карлікі. Мода на іх у ВКЛ нібыта прыйшла з ордэна. У тэўтонскіх дакументах захаваліся згадкі пра карлікаў, якімі абменьваліся вялікі магістр і Вітаўт. Магістр згадваў «рускага карліка дастатковага веку, што не валодае літоўскай мовай», якога князь збіраўся паслаць у ордэн, згадваецца і карлік Нікла — падарунак магістра Вітаўту.




**Вітаўт.** Партрэт XVIII стагоддзя з брэсцкага аўгусцінскага манастыра.

караля Эрыка Памеранскага, малдаўскага ваяводы Аляксандра Добрага і татарскага хана Улуг-Мухамеда. Летапісец-сучаснік пісаў, што на ўтрыманне гасцей ішло «па трыста бочак мёду, а ялавіц трыста, а бараноў і вепрукоў па трыста». Неабходна было паспець любой цаной. Таму і быў абраны самы кароткі шлях — не праз Венгрыю і Малдавію, а праз Новую Марку і Прусію, якія падзяляў вузкі перашыек польскіх уладанняў.

Здавалася, што ўсё пралічана. Каралеўскія інсігніі везла другое пасольства, а з польскім каралём Жыгімонт разлічваў усё-такі дамовіцца: «Калі пан кароль польскі дасць ім бяспечны праезд — добра; калі ж не, дык не», — пісаў ён Вітаўту. Хутка высветлілася, наколькі легкадумнымі былі гэтыя словы.

### Засада на Маркграфскай дарозе

Тым часам Вітаўт упэўніўся ў сваім жаданні каранавацца і адкідаў усе спробы Ягайлы адгаварыць яго. Вітаўт раздражнёна пісаў магістру Тэўтонскага ордэна, што ў яго няма паперы, каб адпісваць польскаму каралю.

Тады Ягайла, параіўшыся з вяльможамі, наважыўся на адчайны крок. На польскай тэрыторыі, якая аддзяляла Новую Марку ад Прусіі, на Маркграфскай дарозе, каля ўрочышча Турава Гара, пасольствы чакала цэлае войска велікапольскай шляхты. Палякі наляцелі на першае пасольства, збілі паслоў, адабралі ▶

WIKIMEDIA COMMONS

**Бібліятэка Мелькскага абацтва ў Аўстрыі**, якая паслужыла прататыпам манастырскай бібліятэкі ў «Імені ружы» Умберта Эка і ў якой быў знойдзены адзін з праектаў дакумента пра каранацыю Вітаўта.

## Хваробы

Пад канец жыцця валадароў Усходняй Еўропы апанавалі хваробы. У лістах адзін аднаму яны многа ўзаемна скардзіліся на здароўе, згадваючы ліхаманку, хваробы вачэй, боль у жываце, слабасць. Магістр Конрад фон Юнгінген прасіў у Вітаўта невялікага коніка, на якім мог бы ездзіць, пакуль цалкам не ачуняе. Вітаўт пісаў магістру, што ён з жонкай Ульянай хварэў на ліхаманку і толькі праз тры тыдні змог сесці ды прайсціся.

Добрыя дактары былі рэдкасцю, і валадары імі таксама абменьваліся. Нямецкі доктар Гайнрых на загад магістра ў 1426 годзе жыў у ВКЛ і лячыў княгіню Ульяну.

У той самы год хварэў і Ягайла, зламаўшы нагу падчас палявання на мядзведзя. Крыжацкі назіральнік адзначаў у 1426-м, што «яго вялікасць аслабеў за кароткі перыяд». Гэта, аднак, не перашкодзіла Ягайлу, якому было каля сямідзесяці год, налета займець сына Казіміра.

▸ дакументы (дзякуючы гэтаму яны і дайшлі да нашых дзён) і адпусцілі ў Прусію, адкуль паслы дабраліся ў Літву.



WIKIMEDIA COMMONS

**Пахаванне Вітаўта.** Мініяцюра з сярэднявечнай хронікі Эберхарда Віндэке «Гісторыя імператара Жыгімонта». Вена, Аўстрыйская нацыянальная бібліятэка.

Другое пасольства, даведаўшыся пра лёс першага, нейкі час чакала ў Франкфурце-на-Одэры, але ўрэшце вырашыла не рызыкаваць каштоўнымі каронамі і павярнула назад у Нюрнберг.

Жыгімонт прапанаваў Вітаўту прывезці кароны бяспечнейшым шляхам, можа, нават па моры, і пагражаў Польшчы вайной. А Джанбатыста Чыгала і Жыгімонт Рот, якія дабраліся да Вітаўта ў Вільню, падраджаліся вырабіць інсігніі на месцы. Але ўсё было дарэмна: вялікі князь распусціў гасцей і памірыўся з Ягайлам. Вітаўт прасіў Жыгімонта, каб той, калі ўсё-такі надумае даслаць кароны, зрабіў гэта па-ціхаму, і скардзіўся на «бессэнсоўныя і стамляльныя расходы», якіх хацеў бы пазбегнуць. А неўзабаве па дарозе ў Трокі Вітаўт зваліўся з каня і праз некалькі дзён, 27 кастрычніка 1430 года, памёр.

Новы вялікі князь Свідрыгайла і яго дарадцы нецярпліва чакалі, што Жыгімонт усё ж дашле карону. Але рымскі кароль вельмі стрымана паставіўся да ідэі каранаваць непрадказальнага Свідрыгайлу. (Больш пра гэтага князя — у «Нашай гісторыі» нумар 1/2018.)

### Куды ж падзелася карона?

Яшчэ ў XVI стагоддзі, калі праект стварэння Літоўскага каралеўства паўстаў у чарговы раз, аўтар «Хронікі Быхаўца» запісаў, што палякі перахапілі карону Вітаўта, рассеклі і прыклалі да мітры кракаўскага біскупа. І гэта падавалася цалкам верагодным, тым больш што загадкавая «літоўская карона» згадваецца ў інвентарах кракаўскай біскупскай кафедры таго ж XVI стагоддзя. Аднак насамрэч лёс кароны Вітаўта склаўся інакш.

Група літоўскіх аматараў гісторыі спрабуе выдаць за карону Вітаўта рэшткі кароны, што захоўваюцца ў Нюрнбергу. Але яе насіла ў лепшым выпадку якая-небудзь статуя, а не жывы кіраўнік дзяржавы.



WIKIMEDIA COMMONS

**Дом нюрнбергскага купца Ортліба**, у якім карона захоўвалася пасля таго, як яе не змаглі даставіць Вітаўту.

Усяго праз паўгода пасля смерці Вітаўта Жыгімонт заклаў карону гарадской радзе Нюрнберга і купцу Ульрыху Ортлібу. Купец з такой нагоды ўпрыгожыў балюстраду свайго дома гербамі рымскага караля, рымскага папы, сямі курфюрстаў і імперскага горада Нюрнберга.

Пасля Жыгімонт яшчэ некалькі разоў закладаў і перазакладаў кароны бюргерам Нюрнберга, Базеля і Рэгенсбурга — нават калі ён стаў валадаром хрысціянскага свету, грошай яму ўвесь час бракавала, з-за чаго з яго кпілі сучаснікі. Апошні раз карона згадваецца



Футарал для кароны Святой Рымскай імперыі. XIV стагоддзе. **У падобным футарале везлі і Вітаўтаву карону.** Вена, Свецкая скарбніца.

### Леў з Сурвілам

Яшчэ адной еўрапейскай модай таго часу былі звярынцы — паляўнічыя паркі, у якіх трымалі розных звяроў, найлепш экзатычных. Ягайла выпісаў для кракаўскага Вавеля з Фларэнцыі нават ільва з ільвіцаю і атрымаў падрабязныя інструкцыі, як іх утрымліваць, каб яны пладзіліся. Вітаўту ў падарунак жывога льва адправіў тэўтонскі магістр. Даставіць яго ў Трокі меўся Ганус Сурвіла — рыцар-крыжак літвінскага паходжання.

1 студзеня 1435 года, калі зяць Жыгімонта, аўстрыйскі герцаг Альбрэхт V, паабяцаў дапамагчы яму выкупіць яе ў ліхвяроў. На момант смерці Жыгімонта (1437 год) карона даўно перастала асацыявацца з імем Вітаўта і планамі стварэння Літоўскага каралеўства.

Што здарылася з каронай, застаецца толькі здагадвацца. Відаць, яе разабралі на каменьчыкі і перапрацавалі — тады гэта было звычайнай справай. ◆



## «Тут былі, ад Вітаўта пачынаючы, каралеўскія паляванні»

Артыкул пра Бершты (8/2019) атрымаўся сапраўды вельмі цёплы, аптымістычны, патрэбны. Дзякуй вялікі!

Сяргей Токць сапраўды ўнікальны: беларусы праз яго пачынаюць навукова вывучаць свае вёскі.

Дадам, што вёска, дзе жыў настаўнік Сініла, называецца Засада, бо вакол шмат паляўнічых назваў: Зубрава, Арлова Гара, Козі Хрыбт, Зубраўка, Сабакінцы, Шчанцы, Козі Брод, Кабялі, Арлова Гняздо, Воўчы Ямы, Казлішкі, Казлоўна, Барсуковічы ды іншыя. А гэта таму, што тут былі, ад Вітаўта пачынаючы, каралеўскія паляванні. Пушча ад Аўгустова да Вільні называлася Берштаўская, або Гарадзенская. Самы вялікі па плошчы лес рэгіёна. У вёсцы Шчанцы існавала каралеўская псярня з паляўнічымі сабакамі, якіх выхоўвалі пушчанскія стральцы.

А з маім дзедам Аляксандрам, чый фотаздымак змешчаны пры артыкуле, па словах мамы, было так: ён набачыўся рускага крывавага бунту ў Піцеры ў 1917-м і ў Грамадзянскую.

Таму, калі зразумеў, як шмат бальшавіцкіх агентаў у беларганізацыях, як працуюць маскоўскія грошы, не вагаўся, з кім будаваць Беларусь. І застаўся ў меншасці беларускага руху, што бачыла партнёра не на Усходзе, а на Захадзе.

Але праз пару гадоў было чарговае расчараванне: палякі яго пасадзілі на пару гадоў за былое змаганне за беларускамоўную школу ў Берштах...

**Аляксандр Мілінкевіч, Мінск**

## Чаму я люблю Чэхава

Калі ў мяне спытаць, чаму я люблю Чэхава, то верагодней за ўсё я пачну казаць нешта няўцямнае і банальна-пашлаватае. І яно якраз мае найменшае дачыненне да праўды. А ўсё таму, што мне і самому сабе цяжка гэта неяк кампактна растлумачыць. Хутчэй за ўсё, мяне вабіць і цікавіць своеасаблівае чэхаўскае светаадчуванне, якое кропкавым адбіткам лягло на яго тэксты. Там, у гэтым светаадчуванні, намяшана шмат, але важнейшае, прынамсі для мяне, — магчымасць бачыць у паламаным, хваравітым, недасканалым, часам смешным чалавечым сусвеце не сігнал для лямантавання і «місіі», а дадзенасць, сярод якой неабходна жыць, рухацца, дыхаць, сумаваць, і захапляцца, і безупынна нешта шукаць, нешта няўлоўнае, невымоўнае, сваё.

Пра ўсё гэта падумаў яшчэ раз, пакуль чытаў цудоўны артыкул Ганны Севярынец у апошнім нумары «Нашай гісторыі» (8/2019). Дзякуй!

**Міхаіл Сяргеенка, Мінск**



## Як утвараліся мянушкі на Смаргоншчыне

Я сама родам са Скідзельшчыны. Усе Скідзель ведаюць, бо там адзін з чатырох у Беларусі цукровых заводаў. Потым некаторы час жыла ў Шчучынскім раёне на мяжы са Скідзельшчынай. А цяпер жыву ў вёсцы Сялец на Смаргоншчыне.

Цікавілася гісторыяй назваў вёсак — у Шчучынскім раёне вакол былі Еўлашы, Пратасоўшчына, Вароны, Доўгая, Намейкі, Багданы, Кухары, Кузьмы, Вайкалы, Балі, Ляцк, Ляцк Высокі, Ляцк Нізкі. А вёскі размешчаныя купкамі, так блізютка адна ад адной, што Кухары, Вайкалы, Багданы, здавалася, гэта адна вёска. Пераважна прозвішчы людзей і назва вёскі супадалі.

У вёсцы Багданы амаль кожны другі меў прозвішча Багдан. Паспрабуй уяві, пра якога Багдана гаворка, калі яшчэ і імёны супадаюць. Але народ кемлівы, знойдзе выхад з любога становішча — прыдумалі кожнаму сваю мянушку. Нехта востры на язык назваў, і гэта назва прыліпла, замацавалася за Іванам, каб выдзеліць яго сярод іншых Іванаў. І не толькі замацавалася, а стала перадавацца з пакалення ў пакаленне.

Я вазьму прыклад з вёскі Сялец, дзе цяпер жыву (Смаргоншчына):

– Янка: Янкавы, Яськавы, Янусевы, Ванюшыны ці Ванюшавы;
– Павел: Паўлюк, Паўлючок, Паўлюсь, Павэлак;
– Міхал: Міхась, Міхалка, Міхальчык;
– Пятро: Пётра, Пятрусь, Петручок;
– Лявон: Ленусь, Лёнька, Лявончык.

Былі ў вёсцы, вядома, розныя ўмельцы, якія займаліся пэўнай справай, — ім давалі прозвішчы ад роду заняткаў. У Сяльцы ёсць Рымаравы (рымар — гэта чалавек, які шыў збрую для коней з сырамятнага рэменя). Ёсць Краўцовы (Краўцова Манька), іх дзед шыў кажухі для ўсёй акругі. Вінцусь Шаўцоў — яго бацька ладзіў абутак. Сям'ю Шапель называлі «Дворныя», бо раней служылі на пана ў двары, а калі пабудавалі хату ў Сяльцы і пераехалі сюды жыць, то



**«Ігар прысеў на праспекце пачытаць “Нашу гісторыю”»**, — даслаў фота наш чытач Казік Грынук.

і засталіся Дворнымі. Была і Бортнічыха. Я думаю, яе продкі былі пчалярамі, хоць у самой жанчыны не было ніводнага вулля.

Ёсць сям’я Картаплянікаў. А гісторыя іх такая. За вёскай яшчэ захаваліся рэшткі падмурка дома, дзе жыў граф. Гэты граф разводзіў розныя сарты бульбы, а дзед Андрыцы Эдмуся быў даверанай асобай у графа па доглядзе бульбы. У вёсцы бульбу называлі «картопля» — вось і выйшаў Картаплянік. Яшчэ пры першых саветах (у 1939–1941-м) у гэтым графскім доме была школа. І цяпер захаваліся таўшчэзныя сцены з каменю падсобнага памяшкання. Там на сцяне пазначана: 1903 год. А на паўднёвай сцяне захаваўся нават рэпе́р, які паставілі тут у 30-я гады. Гэту будыніну называлі «мураванка». Я прыехала сюды ў 1970-я, то яшчэ пры мне калгас захоўваў тут мінеральныя ўгнаенні.

А яшчэ была мянушка Баручыха, бо ў гэтую сям’ю прыйшла дзяўчына з Бараўцаў (Маладзечанскі раён).

Ёсць у вёсцы і вулічныя прозвішчы, якія ўтварыліся ад перакручаных на свой лад уласных назваў. Як прыклад, сям’я Хвалюсевы. Быў Фелікс, на яго казалі Хвелікс, а таксама Хвелісь і Хвалюсь. Так і замацавалася.

Або яшчэ прыклад: быў Браніслаў Сатурнавіч, а Браніслава сталі зваць Цытурна. І па сёння яны Цытурнавы.

Або ёсць у вёсцы тры Генавэфы (па пашпарце). То адна і засталася Генавэфа, другая стала проста Геня, а трэцяя — Генечка. Трэба ж адрозніваць, пра каго ідзе гаворка.

Добрая традыцыя была, бо кожная сям’я павінна мець адметнасць. Людзі вёскі пастаянна маюць стасункі паміж сабой. І цяпер захаваліся талокі — пры копцы бульбы. Гэта збліжае людзей. Адзін аднаму заўсёды патрэбны: дапамагчы, падзяліцца праблемай ці проста пагаварыць. Цяпер стасункі ў гарадах сталі зусім іншымі, далёкімі. Гараджане нават не ведаюць ні прозвішчаў, ні заняткаў сваіх суседзяў, што жывуць на адной лесвічнай пляцоўцы. Цяпер аднаго чалавека ад другога засланіў тэлевізар, інтэрнэт.

**Яўгенія Кулевіч**

## Дзеці чытаюць «Нашу гісторыю»

Гісторыю пра слімака Танаку і яго прыгоды Ксюша чытае і перачытвае з розных нумароў, а Дамініка слухае, а пасля гартае часопісы і пераказвае, што запомніла.

**Вольга Нядзвецкая, instagram**

**Ад рэдакцыі.** Шкада, дарагія чытачы, што мы не можам паказаць вам гэта відэа з дзвюма цудоўнымі дзяўчынкамі. Адна засяроджана чытае ўголас, другая ўважліва слухае, пасля заўважае: «Мяшочкі, мяшочкі!..» (гэта, відаць, пра груз, які вязуць варагі-слімакі)

«Ціха, а то какаву не прыгатую!» — строга супакойвае старэйшая сястра, якой хочацца хутчэй дачытаць да канца.

Дарагія дзяўчаткі, дзякуй! Нам і Танаку гэта вельмі-вельмі прыемна!






# Элем Клімаў

# Чалавек, які зняў бе

**Ён зняў самы жахлівы фільм у гісторыі кінематографа. Ён цудоўна ўсведамляў, што гэтую карціну будзе фізічна балюча глядзець людзям. З гэтымі словамі ён падышоў да суаўтара сцэнарыя, Алеся Адамовіча. Адамовіч пагадзіўся. Так, сапраўды, наўрад ці нехта зможа яго глядзець. «Значыць, няхай не глядзяць. Але мы павінны яго зняць». Піша Аляксей Бацюкоў.**

Інтэнсіўнасць жаху ў фільме «Ідзі і глядзі» настолькі высокая, што першым часам хадзілі чуткі, нібыта выканаўца галоўнай ролі — падлетка Флёры — працаваў пад гіпнозам, страціў розум падчас здымак, пасівеў у трынаццаць гадоў.

Зняты больш за 30 гадоў таму, «Ідзі і глядзі» да гэтага часу лічыцца непераўзыдзенай класікай, ён на першых радках рэйтынгаў фільмаў пра вайну і найлепшых фільмаў у гісторыі кінематографа. З прагляду гэтага фільма пачынаў рыхтаваць здымачную групу да працы над карцінай «Спіс Шындлера» Стывен Спілберг, яго ўплыў назіраецца таксама ў стужках «Выратаваць шарагоўца Раяна» і «Тонкая чырвоная лінія», да прыхільнікаў «Ідзі і глядзі» сябе далучалі Квенцін Таранціна і Шон Пэн.

Сусветнае прызнанне. Але гэта словы, ад якіх не нараджаецца гонар, бо гэта — сусветнае






TUT.BY

# ларускі апакаліпсіс

прызнанне таго болю, які беларусы перанеслі.

Тэхнічныя, мастацкія рашэнні і прыёмы Элема Клімава сапраўды былі крокам наперад для сусветнага кінематографа. І занадта радыкальным крокам для цэнзараў Дзяржкіно. Яшчэ на стадыі абмеркавання сцэнарыя Клімаў сустрэў татальнае неразуменне. Сцэна, у якой галоўныя героі карціны прадзіраюцца праз багну, была ахарактарызаваная як «прапаганда эстэтыкі бруду», растоптванне мурашніка старастам вёскі — як «прынізлівае ўпадабненне нашага народа мурашам», забойства каровы на полі — «натуралізмам» і «смакаваннем», і так далей, і так далей.

### Дзеці адлігі

Элем Клімаў нарадзіўся ў 1933 годзе ў Сталінградзе. Магчыма, бацькі далі яму імя па актуальнай тады традыцыі («Энгельс, Ленін, Маркс»), а магчыма, і не: малодшы брат Герман настойваў, што імя Элему выбралі ў гонар галоўнага героя рамана Джэка Лондана «Час-не-чакае» Элама Харніша.

Вайна падышла да самага яго ганку — васьмігадовага Элема і яго маці з братам-немаўлём эвакуявалі са Сталінграда на Урал падчас наступлення немцаў. У памяці будучага мастака засталася сцэна начной паромнай пераправы: «Калі цягнік загрузілі на паром, каб пераправіцца цераз ▸



**Элем Клімаў і Ларыса Шапіцька** з сынам Антонам. 1974 год.

▶ Волгу, з сярэдзіны ракі я пабачыў, як гарэў горад. А навокал вада ўспухала ад бомбаў. І таксама гарэла». Пазней гэты ўспамін стане адным з матываў здымаць свой самы вядомы фільм.

Ён спакойна мог бы не стаць рэжысёрам: Клімаў скончыў Маскоўскі авіяцыйны інстытут і нават пэўны час адпрацаваў інжынерам-канструктарам. Але ў гэты ж самы час ён адкрывае для сябе мастацтва экрана — супрацоўнічае з Цэнтральным тэлебачаннем і Усесаюзным радыё. А ўрэшце кідае працу і паступае ў інстытут кінематаграфіі.

Тут ён сустракае дзяўчыну, за якой хадзіла і будзе потым хадзіць слава адной з самых прыгожых жанчын у савецкім кінематографе — Ларысу Шапіцька. Маладзейшая за яго на пяць гадоў украінка з данецкага Арцёмаўска напачатку і думаць не хацела пра рамантычныя адносіны: уся цалкам яна аддавалася кіно. Гэтая адданасць кіно, як бы пафасна ні гучала, стане іх супольнай апантанасцю да канца жыцця.

Шанец наблізіцца да дзяўчыны выпадзе Клімаву, калі яна на сваім выпускным курсе, у 1963 годзе, падчас працы над дыпломным фільмам «Спякота» («Зной») у Кіргізіі захварэе на жаўтуху. Клімаў далікатна прапанаваў сваю дапамогу і завяршыў працу над яе фільмам. У тым жа годзе яны ажаніліся.

## Клімаў і Шапіцька былі самай бескампраміснай сямейнай парай у савецкім кіно

Тандэм Клімава і Шапіцька стане самым яркім і бескампрамісным у савецкім кіно. Абое — перфекцыяністы, зацятыя працаголікі, яны адначасова і спаборнічалі, і натхнялі адно аднаго. Дыпломная праца Клімава «Ласкава запрашаем, ці Пабочным уваход забаронены» з яе гратэскным адлюстраваннем хрушчоўскай эпохі, выклікала фурор у маскоўскай публіцы. І першыя прафесійныя праблемы. Яшчэ на стадыі падрыхтоўкі сцэнарыя супраць яго рэалізацыі выступіў сам рэктар інстытута

кінематаграфіі Аляксандр Грошаў. На шчасце, ён быў не самым уплывовым чалавекам ва ўласным інстытуце, і працу над фільмам Дзяржкіно дазволіла. Хоць і ўсяляк імкнулася перастрахавацца. Таму на здымкі да Клімава выязджала дадатковая камісія адглядаць зняты матэрыял, і рэжысёру ўвесь час працы над фільмам прыходзілася вытрымліваць уколы падазрэнняў: «у сцэне з “пахаваннем” бабулі ці не Хрушчова вы так метафарычна “хаваеце”?». Нарэшце, прыхільнікі творчасці Клімава дамагліся, каб фільм паказалі самому Хрушчову, і толькі пасля яго станоўчай ацэнкі ён атрымаў пракатнае пасведчанне. Але ненадоўга — даволі хутка фільм знялі з пракату.

Наступны фільм Клімава — «Прыгоды зубнога доктара» — адразу ж ляжа на паліцу за высмейванне савецкай рэчаіснасці. Пад цэнзурны нож трапіць і праца яго жонкі — у фільме «Ты і я» ёй забароняць




Постар да фільма Ларысы Шапіцька **«Узыходжанне»**.

здымаць Уладзіміра Высоцкага і Бэлу Ахмадуліну, фільм выйдзе з Юрыем Візбарам і Алай Дзямідавай.

## Узыходжанне

У 1973 годзе ў пары народзіцца адзінае дзіця — сын Антон. Праз два гады пасля нараджэння сына Ларыса Шапіцька возьмецца за экранізацыю рамана Васіля Быкава «Сотнікаў». Фільм атрымае назву «Узыходжанне» і стане неймаверна паспяховым — гэта першы савецкі фільм, што атрымаў «Залатога мядзведзя» на Берлінскім кінафестывалі. Але шлях яго да экрана таксама ляжаў праз забароны. Рэцэнзенты палічылі, што экзістэнцыйнай драме пра двух беларускіх партызан рэжысёрка надае форму біблейскай прыпавесці. «Паглядзіце, — заўважалі яны, — як падобны ваш Сотнікаў да Хрыста». А Рыбак — відавочна Юда. Да таго ж гэты перазвон, што так і рвецца аднекуль у кадр... Пятро Машэраў асабіста ўмяшаўся ў справу — і карціну пусцілі на экраны.

Увесь гэты час Элем Клімаў вельмі мала здымае. Пару сюжэтаў для кіначасопіса «Фіціль», дакументальна-пастановачны «Спорт! Спорт! Спорт!». Тэма спорту, дарэчы, не выпадковая ў яго творчасці: сын настаўніцы фізкультуры, ён сам захапляўся спортам, захапіў і малодшага брата Германа — той стаў майстрам спорту міжнароднага класа, уваходзіў у зборную СССР па лёгкай атлетыцы.

Яшчэ — пакутная «Агонія» пра апошнія дні Грыгорыя Распуціна, запланаваная ў Дзяржкіно аж у 1966-м, прынятая з чужых рук, перапрацаваная з нуля, перазнятая ў 1973–1974-м і ўрэшце ўсё роўна пакладзеная на паліцу на некалькі гадоў.

Нарэшце Клімаў — амаль адначасова з працай жонкі над «Узыходжаннем» — вырашае таксама зняць свой ваенны фільм. Узгадваў, што прыняў гэтае рашэнне з-за дзіцячых успамінаў пра заліты агнём Сталінград. А таксама з-за напружанасці, што вісела ў атмасферы ў часы халоднай вайны. Метад выбару матэрыялу для працы і ў яго, і ў Ларысы Шапіцька можна назваць інтуітыўным: карціна павінна паўстаць неяк сама, нарадзіцца з трывожнай нявыказанасці, паўстаць перад творцам і не даць яму больш сілаў ні на што іншае. Шукаючы варты матэрыял для тэмы фільма, аднойчы Клімаў прачытаў «Хатынскую аповесць» незнаёмага яму аўтара — Алеся Адамовіча. Яна стала першым штуршком, можна сказаць, першым уваходжаннем у матэрыял. Потым ён чытае «Я з вогненнай вёскі» — і яго працінае гэты боль, пульсацыю якога ён перанясе ў карціну.

Ён чытае гэты дакументальны раман некалькі разоў. Потым будзе глядзець дакументальныя запісы сведак, сустрэнецца з людзьмі, якія ўсё гэта перажылі. Яго працінаюць вочы старога, што стаяў у адным з тых хатынскіх хлявоў, калі немцы сказалі: «Хто без дзяцей — выходзі!» І ён не вытрымаў, выйшаў, пакінуўшы ў хляве жонку і малых дзяцей.

## Сышла на досвітку

У гэты самы час Ларыса Шапіцька становіцца зоркай сусветнага кінематографа. Прэміі ад Міжнароднай федэрацыі кінапрэсы і экуменічнага журы за «Узыходжанне», запрашэнне ў журы Берлінскага кінафестывалю. А Дзяржкіно забараняе Клімаву здымаць фільм. Першапачаткова драма ▸

## «Вакол бацькоў была містычная аўра»

Антону, сыну Клімава і Шапіцька, цяпер 48 гадоў. Мамы не стала, калі хлопчыку было 6, яго выхоўвалі тата і бабуля. Антон скончыў міжнароднае аддзяленне факультэта журналістыкі МДУ, потым працаваў музычным журналістам. Спрабаваў сябе ў прадзюсіраванні артыстаў: Лінды і Міхаіла Шуфуцінскага. Піша прозу. Збіраецца выдаваць бацькаву спадчыну: не толькі фільмы, але і вершы, гутаркі, нерэалізаваныя сцэнарыі. У адной з гутарак Антон падзяліўся вершам Элема Клімава:

«Кино, кино. Для меня по крайней мере оно закончилось давно.
Вот почему я и открыл на склоне лет себе другие двери.
О чем я сожалею? Что мне рожать природой не дано.
А так мне хочется отца возобновить! Ларису, Пушкина, Васю Шукшина, застреленного зайца на опушке.
Всех возродить, кого-то нового родить.
Но не дано, одно кино».

Цяпер Антон многа піша пра бацькоў, успамінае цікавосткі. Напрыклад, пра тату: больш за адзін фільм у год яму не падабаўся, тата меў выдатнае пачуццё гумару, яго любілі жанчыны… Або пра маці: яна была неверагодна прыгожай, жыла багатым духоўным жыццём і пры гэтым вельмі сачыла за модай, захапляла сваім стылем нават французаў. Верыла ў рэінкарнацыю — перасяленне душ…
«Вакол бацькоў заўсёды была нейкая містычная аўра. Вось прыклад, які мне распавядаў сам бацька. Падчас адной з маміных паездак у Галівуд акцёр Дональд Сазерленд падарыў ёй наручны электронны гадзіннік. Мама аддала яго бацьку. Аўтакатастрофа, у якой загінула мама, бацьку прыснілася, і менавіта напярэдадні: у сне на чорную “Волгу” ляцеў грузавік. Бацька прачнуўся ад жаху. Паглядзеў на гадзіннік — ён ляжаў побач на тумбачцы. Гадзіннік спыніўся. Як потым высветлілася, роўна ў той час адбылася трагедыя. Я веру ў такія рэчы, у тое, што свет эзатэрычны і рэальны пераплецены…»



Элем Клімаў падчас здымкаў **фільма «Ідзі і глядзі».**

ФОТА ЯЎГЕНА КОКТЫША

называлася «Забіце Гітлера», і гэтая назва задумвалася як шматзначная: забіце яго таксама і ў сабе. Сцэнарый, напісаны сумесна з Адамовічам, быў горача падтрыманы Машэравым, але гэтая падтрымка знікла, калі Машэраў з'ехаў на лячэнне ў Маскву. Ужо была сабраная здымачная група, ішоў выбар натуры і падбор акцёраў. Падлетка Флёру мусіў іграць 15-гадовы хлопец з Сібіры, які здолеў на пробах перадаць неверагодныя пакуты свайго героя.

А Дзяржкіно не зацвердзіла сцэнарый. Акрамя эстэтыкі бруду, рэцэнзентам не спадабалася сцэна са спаленнем вёскі — паколькі яна не перадавала «размах партызанскага руху», сцэна з адмовай Флёры стрэліць у вобраз немаўляткі-Гітлера — паколькі яна праяўляла «усёдаравальніцтва, абстрактны гуманізм і някласавы падыход». Ультыматыўныя патрабаванні Дзяржкіно прыбраць усе спрэчныя сцэны Клімаў адвяргае, бо гэта забівала сэнс усяго фільма. Змаганне з цэнзарамі прыводзіць рэжысёра да нервовага зрыву, хваробы — цела пакрываецца язвамі, ён ледзьве можа хадзіць.

Паміж паспяховай Шапіцька і зацкаваным Клімавым здараецца непаразуменне, ён на нейкі час сыходзіць з дому. Але ненадоўга: жонка знайшла неабходныя словы. Клімаў зноўку вяртаецца да працы — яму яшчэ раз даручаюць пераздымаць «Агонію».

1979 год. Ларыса Шапіцька пакідае кватэру раніцай 2 ліпеня, не пабудзіўшы мужа, едзе разам з аператарам, мастаком і іх асістэнтамі выбіраць месцы для новага фільма «Развітанне з Мацёрай» па аповесці Валянціна Распуціна. Яны выехалі вельмі рана. Міліцыянер на ўзбочыне бачыў, як міма па парабале праносіцца «Волга», у якой усе спалі. Кіроўца грузавіка з прычэпам, нагружаным цэглай, пабачыў машыну здалёк, знізіў хуткасць, нават зусім

стаў на ўзбочыне. Усё дарэмна. Загінула ўся здымачная група.

### «Знайдзі мне цытату ў Бібліі»

Наступным фільмам Элема Клімава будзе дакументальная стужка «Ларыса», прысвечаная памяці жонкі. Потым — завершаны за ёй фільм па «Развітанні з Мацёрай», пераназваны ў проста «Развітанне». Потым «Агонію» нарэшце прадаюць за мяжу, а праз пару гадоў выпускаюць і на савецкія экраны.

І дазваляюць зняць той самы фільм.

Клімаў згаджаецца толькі на адзін кампраміс — памяняць назву. Тэлефануе брату Герману і просіць яго хутка пагартаць Біблію ў пошуках прыдатнай фразы. Праз дваццаць хвілін той знаходзіць у «Апакаліпсісе»: «і калі Ён зняў чацвёртую пячатку, я чуў голас чацвёртай істоты, які казаў: ідзі і глядзі».

### «Вось твая тумбачка, твая маці памерла…»

Аляксей Краўчанка быў падлеткам, добра знаёмым з дзіцячым пакоем міліцыі. Бязбацькавіч, хуліган, гітарыст. За кампанію з сябрам, які па радыё пачуў аб'яву, што «Масфільму» патрэбныя светленькія, блакітнавокія хлопчыкі, паехаў на кінастудыю. У фае было бітком светленькіх блакітнавокіх хлопчыкаў, паміж якімі хадзілі асістэнты і разглядалі твары. Краўчанка стаў адчуваць, што да яго падыходзяць усё часцей. Раз, другі, трэці, на чацвёрты ён за нейкім чортам памяняўся з сябрам вопраткай. Нарэшце яго падвялі да акна, каб пераканацца — так, сапраўды, вочкі блакітныя. Давайце паспрабуем.

У асобным пакоі стаіць чалавек восем. Яму кажуць: так, вось твая кушэтка, вось твая тумбачка, твая маці памерла… «Адкуль у мяне з'явіліся слёзы, нават сам не ведаю, — узгадваў акцёр. — Напэўна, ад здзіўлення, што так рэзка…» Пачаліся пробы. Адна, другая, трэцяя. Аднойчы Элем Клімаў даў Аляксею паглядзець дакументальныя кадры, знятыя ў канцлагеры. А потым прапанаваў чаю з торцікам. Хлопец не змог есці. Гэта была праверка, прызнаецца потым рэжысёр, на эмацыйную чуласць.







**Элем Клімаў з Аляксеем Краўчанкам.**

**Элем Клімаў даў выканаўцу галоўнай ролі паглядзець дакументальныя кадры, знятыя ў канцлагеры. А потым прапанаваў чаю з торцікам. Гэта была праверка**

Потым пачаліся здымкі. Клімаў запатрабаваў ад хлопца моцна схуднець, і той худнеў — 48 гадзін у тыдні галадаў, а з месца жыхарства на месца здымак дабіраўся бегам — туды і назад. «Гатовы быў разарваць ▶










KINOPOISK.RU

**Постары да фільма «Ідзі і глядзі».**

сябе, спаліць — зрабіць усё, што неабходна для фільма», — узгадваў потым Краўчанка. Але Клімаву быў патрэбен нармальны, здаровы хлопец, які не ляжа ў псіхушку пасля перажытага. Адмыслова дзеля эмацыйнага эфекту над акцёра арганізавалі асаблівую сістэму здымак: усе сцэны фільма здымаліся ў храналагічным парадку, адна за адной, і ўсе дзевяць месяцаў працы трынаццацігадовы падлетак пражываў тыя некалькі дзён хлопчыка Фларыяна. Некалькі дзён, за якія ён з усмешлівага падлетка ператвараўся ў старога, «які пражыў гадоў дзвесце».

Увесь гэты час з хлопцам працаваў псіхолаг, які навучаў яго методыкам абароны і кіравання сабой. Для адной са сцэн, калі Флёра, даведаўшыся пра забойства немцамі яго маці, страчвае розум, Клімаў меркаваў выкарыстаць дапамогу гіпнатызёра. Краўчанка, аднак, у апошні момант адмовіўся, вырашыўшы зрабіць усё сам.

### Чалавечы крык

На момант здымак прайшло сорак год пасля вайны, але ўсё навокал працягвала дыхаць, балець той вайной — варта было толькі дакрануцца ўзгадкай, успамінам. Здымкі праходзілі ў Бярэзінскім запаведніку, і большасць акцёраў была мясцовымі жыхарамі, якія памяталі вайну.

Аднойчы ў галоўнай сцэне спалення вёскі асістэнты рэжысёра былі незадаволеныя масоўкай. Мясцовыя бабы і мужыкі няўцямна мычалі, сагнаныя ў хляве. Тады адзін з акцёраў, што іграў нямецкага аўтаматчыка, даў чаргу халастымі ў паветра. «З хлява пачуўся такі чалавечы крык, зымітаваць які не ўдалося б ніякаму акцёру», — успамінаў Клімаў.

Галоўную ўвагу рэжысёр надаваў натуралістычнасці, праўдзівасці знятых сцэн. Практычна ўсе яны павінны былі прайсці ацэнку Алеся Адамовіча: «Так. Сапраўды, так і было». Гэтым тлумачыўся і выбар непрафесійных акцёраў, што мусілі не іграць, а жыць. Адзіны адыход ад сапраўднасці рэжысёр зрабіў падчас агучвання, і Флёра замест беларускай мовы стаў гаварыць, перамешваючы беларускія словы з рускімі — рэжысёр палічыў, што інакш гледачы ў Расіі проста нічога не зразумеюць.

Фільм, аднак, не быў зусім завершаны. З-за храналагічнасці здымачны працэс зацягнуўся да позняй восені, і таму ў апошніх кадрах фільма партызанскі атрад сыходзіць з лета ў зімовы лес. А апошняй сцэнай мусіла стаць сцэна бою партызан з карнікамі на тым самым балоце — «апакаліптычная сцэна на гіганцкім тарфяным балоце з лесам, цудам захаваным на ім, вакол якога ідзе бой роўных сілаў: немцаў і партызан — няма куды ўбок крочыць, сысці, уцячы,

таму што правалішся ў палаючы торф, як у пекла, і няма гэтаму бою канца, бой ідзе да поўнага знішчэння. Сонца як быццам бы спынілася над лесам і чакае, калі людзі даб'юць адзін аднаго. А тут жа і мірныя жыхары, і каровы, і дзеці, і параненыя — адным словам, канец свету». Клімаў з лёгкасцю, аднак, адмовіўся ад гэтай сцэны: ён палічыў, што гледачы маглі б яе не вытрымаць. Яны не вытрымлівалі і без яе — часам на паказах фільма людзям рабілася блага, каля кінатэатраў дзяжурыла хуткая.

### Апошні фільм

Гэта быў апошні фільм Элема Клімава. Рэжысёр узыдзе на вяршыню сусветнага прызнання, яму даверацъ узначальваць Саюз кінематаграфістаў і разганяць Дзяржкіно СССР. У пачатку 1990-х ён возьмецца за экранізацыю «Майстра і Маргарыты» Булгакава, «Бесаў» Дастаеўскага, але справа не пойдзе далей за сцэнарый — настануць іншыя часы ў кінематографе, у якіх Клімаў не зможа працаваць. Рэжысёра не стане ў 2003-м.

Аляксей Краўчанка, той самы Флёра, кіне школу пасля восьмага класа. Каб не сядзець на шыі ў маці, стане фрэзероўшчыкам, адпрацуе на заводзе, адслужыць тры гады на флоце, але вернецца ў акцёрскае рамяство. За ягоным лёсам уважліва будзе сачыць Клімаў — і падбадзёрваць, хваліць за ўдалыя ролі. Цяпер Краўчанка — выпускнік тэатральнай вучэльні імя Шчукіна, запатрабаваны акцёр ваенных драм і баевікоў, лідар музычнага гурта «Гуарана». Як і павінен быў, галоўны рэжысёр у яго жыцці абараніў ягоную псіхіку, стаў настаўнікам і прыкладам. ◆

# Нашто глядзець «Ідзі і глядзі»? Бо ўсё гэта можа паўтарыцца

**Дзмітрый Быкаў** пра кнігу «Я з вогненнай вёскі», прозу Алеся Адамовіча і фільм «Ідзі і глядзі»

Чытаць «Я з вогненнай вёскі» фізічна немагчыма! Гэта няможна памысліць! Там прыводзяцца без найменшых змяненняў такія дэталі, такія цытаты, з якімі не можа жыць чалавек!

Экранізацыя «Хатынскай аповесці» значна больш вядомая, чым сама «Хатынская аповесць», гэта фільм «Ідзі і глядзі», прызёр Маскоўскага кінафестывалю, апошняя кінаработа Элема Клімава. Увогуле, цікава, чаму Клімаў і Адамовіч вось так сышліся: прыхільнік крайняй дакументальнасці Адамовіч і крайняй вынаходлівасці, на мяжы фантасмагорыі, Клімаў.

І я вам шчыра скажу, што больш страшнай карціны, чым «Ідзі і глядзі», не з'яўлялася ніколі. Я сваім студэнтам заўсёды забараняю глядзець гэтую карціну, але, на жаль, гэта самы надзейны спосаб прымусіць усіх яе паглядзець, і пасля гэтага ніхто ніколі не будзе ранейшым. Я бачыў дзеянне гэтай карціны на свае вочы. Мала таго, што я сам, паглядзеўшы яе, праехаў Масфільм, свой прыпынак, і даехаў да Кіеўскага вакзала, і толькі там зразумеў, што еду не туды. Але пры мне глядзець гэтую карціну зайшла п'яная кампанія тагачаснай моладзі. Ужо тады гопнікаў было поўна, гэта 1985 год, і вось яны пайшлі ў кінатэатр «Зорны», у іх бутэлькі «Жыгулёўскага» піва ў руках, і яны вясёлыя такія прыйшлі. Вы б бачылі, якія яны выйшлі з гэтага фільма!

Я памятаю, яго маці мая пайшла глядзець, я думаю: ну ўсё, яна выйдзе сама не свая. Маці выйшла якраз адносна спакойная, сказала: «Гэта знаходзіцца за гранню мастацтва, з нейкага моманту я гэта зразумела і перастала на гэта рэагаваць». Так, гэта сапраўды знаходзіцца за гранню мастацтва. Але Адамовіч і лічыў, што ўсё XX стагоддзе знаходзіцца за гранню чалавечнасці. Таму, калі ўсіх жыхароў вёскі зганяюць ў хлеў і падпальваюць гэты хлеў, тое, што адбываецца ўнутры гэтага хлява, нельга сабе ўявіць, нельга здымаць, нельга апісваць. Гэта знаходзіцца за гранню ўсяго.

> **«Калі ўсіх жыхароў зганяюць ў хлеў і падпальваюць гэты хлеў, тое, што адбываецца ўнутры гэтага хлява, нельга сабе ўявіць, нельга здымаць, нельга апісваць. Гэта знаходзіцца за гранню ўсяго»**

І сапраўды, чалавек, паводле Адамовіча, скончыўся. Былі людзі, якія спрабавалі справіцца з гэтым адчуваннем, як Васіль Быкаў, знайсці апору ў гісторыі, успомніць інквізіцыю, якую чалавек таксама перажыў, антычнасць, ахвярапрынашэнні інкаў. Так, такое было, але гэта было калі? А тут гэта было на нашых вачах, сярод людзей, якія чыталі «Гамлета» і «Фаўста», разумееце, сярод людзей, якія жылі вось тут, па суседстве. Вось гэта немагчыма ўцяміць — тое, што чалавек не змяняецца. І кніга Адамовіча, яна прасякнута жахам і адчаем самой думкі аб нязменнасці прыроды чалавека.

**Тэксты ўзятыя з радыёперадачы «Адзін» і праграмы цыклу «Сто гадоў — сто лекцый» канала «Дождь»**

# *І хітры ліс у пастку трапляе, і тыраны могуць быць наіўнымі*



ГЛАВНЫЕ ДОКУМЕНТЫ ВЕЛИКОЙ ОТЕЧЕСТВЕННОЙ ВОЙНЫ 1941–1945. МОСКВА, 2015.

**Сталін у 1941 годзе.** Непараднае фота, якое, натуральна, у друк тады пайсці не магло.

**Чаму кіраўнікі дзяржаў не заўважаюць, недаацэньваюць відавочныя пагрозы? Чаму, напрыклад, савецкі дыктатар Іосіф Сталін перад пачаткам вайны СССР з Германіяй у чэрвені 1941 года быў такім сляпым? За апошнія дзесяцігоддзі рассакрэчана і апублікавана шмат дакументаў, датычных Другой сусветнай вайны. Дзякуючы гэтаму многае стала больш зразумелым, у тым ліку і псіхалагічныя моманты. Піша Ігар Лялькоў.**

### ТАСС упаўнаважаны заявіць

13 чэрвеня 1941 года кіраўнік Тэлеграфнага агенства Савецкага Саюза (ТАСС) Якаў Хавінсон быў выкліканы да Іосіфа Сталіна на яго падмаскоўнае лецішча.

# «Праявіце вытрымку, не прадпрымайце дзеянняў у адказ...»

Пазней Хавінсон узгадваў: «Калі я ўвайшоў, таварыш Сталін сустрэў мяне, мы павіталіся, і ён пасадзіў мяне за стол у зале. Перада мною ляжалі папера, асадка, стаяла чарніла. Таварыш Сталін сказаў: "Пішыце, таварыш Хавінсон". Ён праходжваўся па палавіку ўздоўж залы, папыхваў люлькай і дыктаваў. Па ходу зазіраў у тэкст, зрабіў дзве ці тры праўкі. Калі скончыў дыктаваць, сказаў: "Прачытайце ўголас". Я падняўся і прачытаў». А тэкст быў такі:

*«У англійскім ды ўвогуле ў замежным друку сталі мусіравацца чуткі пра "блізкасць вайны паміж СССР і Германіяй". Па гэтых чутках: 1) Германія нібыта выставіла СССР прэтэнзіі тэрытарыяльнага і эканамічнага характару...; 2) СССР нібыта адхіліў гэтыя прэтэнзіі, у сувязі з чым Германія стала канцэнтраваць свае войскі ля межаў СССР з мэтай нападу на СССР; 3) Савецкі Саюз, у сваю чаргу, быццам бы пачаў узмоцнена рыхтавацца да вайны з Германіяй і канцэнтруе войскі каля межаў апошняй.*

*Нягледзячы на відавочную бессэнсоўнасць гэтых чутак, адказныя колы ў Маскве ўсё ж палічылі неабходным, па прычыне ўпартага мусіравання гэтых чутак, упаўнаважыць ТАСС заявіць, што гэтыя чуткі з'яўляюцца нязграбна злепленай прапагандай варожых СССР і Германіі сілаў, якія зацікаўленыя ў далейшым пашырэнні ды развязванні вайны.*

*ТАСС заяўляе, што: 1) Германія не выстаўляла СССР ніякіх прэтэнзій...; 2) паводле звестак СССР, Германія таксама няўхільна прытрымліваецца ўмоваў савецка-германскага пакта аб ненападзе, як і Савецкі Саюз, таму чуткі аб намеры Германіі разарваць пакт і ажыццявіць напад на СССР пазбаўленыя ўсялякай глебы...; 3) СССР... выконваў і мае намер выконваць умовы савецка-германскага пакта аб ненападзе, таму чуткі пра тое, што СССР рыхтуецца да вайны з Германіяй, з'яўляюцца хлуслівымі ды правакацыйнымі».*


PINTEREST.COM

Адольф Гітлер.

У той жа дзень гэты тэкст быў зачытаны па савецкім радыё, а 14 чэрвеня «Заява ТАСС» надрукаваная ва ўсіх цэнтральных савецкіх газетах.

### «Не займайцеся правакацыямі»

На гэты момант ужо амаль два гады працягвалася Другая сусветная вайна. Практычна ўсе краіны кантынентальнай Еўропы на захад ад межаў СССР былі або саюзнікамі Германіі, або знаходзіліся пад яе акупацыяй. Каля саміх гэтых межаў канцэнтраваліся нямецкія, венгерскія, румынскія, славацкія, фінскія войскі агульнай колькасцю звыш 4 млн чалавек, прычым тут знаходзілася 73,5% ад агульнай колькасці дывізій вермахта і 60,8% часцей нямецкіх ваенна-паветраных сілаў.

Ужо з лета 1940-га органы разведкі рэгулярна дакладвалі савецкім кіраўнікам інфармацыю аб падрыхтоўцы нямецкага ўварвання ў СССР незалежна ад ходу ваенных дзеянняў супраць Вялікабрытаніі (адзінай пасля падзення Францыі краіны, якая працягвала вайну супраць Трэцяга рэйха). 18 снежня 1940 года Гітлер падпісаў дырэктыву № 21 аб падрыхтоўцы да вайны супраць Савецкага Саюза (план «Барбароса»), якая пачыналася са слоў: «Германскія ўзброеныя сілы павінны быць гатовыя разбіць Савецкую Расію цягам кароткачасовай кампаніі яшчэ да таго, як будзе скончаная вайна супраць Англіі». Наступленне Германіі і яе саюзнікаў на ўсход зрабілася фактычна непазбежным.

Вядома, план «Барбароса» ягоныя стваральнікі трымалі ў сакрэце. Але, паводле ўспамінаў сучаснікаў, адчуванне непазбежнасці хуткай вайны тады ўсё адно літаральна вісела ў паветры. Пра гэта пісалі савецкаму кіраўніцтву разведчыкі, разумелі гэта і ў камандаванні Чырвонай арміі. Вось сведчанне маршала Аляксандра Васілеўскага: «Мы валодалі шырокімі звесткамі пра засяроджанне буйных кантынгентаў германскіх войскаў у непасрэднай блізкасці ад нашых межаў ужо з лютага сорак першага года, але ён [Сталін] катэгарычна адкідаў усе прапановы аб прывядзенні нашых войскаў у якіх-кольвек памежных раёнах у баявую гатоўнасць. На ўсё ў яго быў адзін і той самы адказ: "Не займайцеся правакацыямі"».

Часам рэакцыя Сталіна на данясенні разведкі была яшчэ больш вострай. 17 чэрвеня 1941 года, за пяць дзён да пачатку вайны, наркам дзяржаўнай ▶

бяспекі СССР Усевалад Мяркулаў накіраваў у Крэмль паведамленне агента са штаба германскай авіяцыі ў Берліне, згодна з якім «усе ваенныя мерапрыемствы Германіі па падрыхтоўцы ўзброенага выступлення супраць СССР цалкам скончаныя і ўдару можна чакаць у любы час». Уласнаручная рэзалюцыя Сталіна: «Т-шу Мяркулаву. Можаце паслаць вашую “крыніцу” са штаба Герм. авіяцыі к я... мацеры. Гэта не “крыніца”, а дэзынфарматар. І. Ст.».

Вайсковы аташэ СССР у вішысцкай Францыі Іван Суслапараў 21 чэрвеня 1941 года тэрмінова паведамляў у Маскву: «па дадзеных крыніцы, напад Германіі на СССР прызначаны на 22 чэрвеня». Рэзалюцыя Сталіна: «Гэтая інфармацыя з’яўляецца англійскай правакацыяй. Даведайцеся, хто аўтар гэтай правакацыі, і пакарайце яго».

### Чаму ён не верыў?

Што ж стаяла за такім упартым нежаданнем Сталіна аб’ектыўна ацаніць наяўную ваенна-палітычную сітуацыю, прыслухацца да меркавання сваіх маршалаў, генералаў і разведчыкаў ды скіраваць максімальна магчымыя намаганні на ўзмацненне заходніх вайсковых акругаў да вясны – лета 1941-га? Дзесяцігоддзямі кананічным было меркаванне, што савецкі кіраўнік разумеў арганізацыйную і тэхнічную слабасць Чырвонай арміі, а таму, маўляў, імкнуўся любой цаной або ўвогуле пазбегнуць, або прынамсі максімальна адцягнуць пачатак вялікай вайны з моцным праціўнікам да заканчэння рэарганізацыі ды пераўзбраення войска і засваення ім новай тэхнікі. Рэарганізацыя ж пачалася акурат з другой паловы 1940-га, калі слабая баяздольнасць Чырвонай арміі была даведзена падчас польскай і фінскай ваенных кампаній. Дый кадравы патэнцыял савецкага войска ў выніку масавых рэпрэсій 1937–1940 гадоў быў вельмі аслаблены. За гэтыя гады было фізічна знішчана больш за 40 тысяч камандзіраў Чырвонай арміі, у выніку чаго па стане на 1941 год толькі 7% савецкіх военачальнікаў мелі вышэйшую вайсковую адукацыю, а 37% не прайшлі поўнага курса навучання нават у сярэдніх вайсковых навучальных установах.

Што ж, жаданне такое, можа быць, і цалкам зразумелае, і абгрунтаванае, але як яно суадносілася з аб’ектыўнай рэальнасцю чэрвеня 1941-га? Тут варта прыслухацца да развагаў вядомага расійскага пісьменніка Канстанціна Сіманава, які пры канцы жыцця глыбока пераасэнсоўваў урокі Другой сусветнай вайны, прытым выходзячы за межы афіцыйна прынятай савецкай парадыгмы: «У тым, што Сталін не пажадаў лічыцца з гэтымі абставінамі, адбіўся, як мне здаецца, спрыяльны для раскладання асобы ўплыў неабмежаванай улады. Гэты псіхалагічны комплекс быў звязаны з адчуваннем адсутнасці непераадольных перашкод для выканання ўсяго задуманага ды намечанага ім... Хочаш не хочаш, а са многіх дзеянняў Сталіна перад самай вайной складваецца адчуванне, што... у Сталіна ў той час быў нейкі суб’ектыўны момант. У Гітлеру было нешта, што ўсяляла ў Сталіна ўпэўненасць: пасля заключэння пакта Гітлер не захоча губляць твар, палічыць несумяшчальным са сваім прэстыжам парушыць урачыста дадзеныя ім абавязальніцтвы».

### «Планую сустрэчу на канец чэрвеня – пачатак ліпеня»

У той час, калі Сіманаў пісаў гэтыя радкі (каля 1967 года), дакументы пра ўзаемадачыненні двух крывавых тыранаў былі яшчэ недаступныя для даследчыкаў і грамадскасці, прынамсі ў Савецкім Саюзе. Цяпер, калі значная іх частка апублікаваная, можна скласці храналогію гэтых адносін напярэдадні 22 чэрвеня 1941-га і ацаніць іх уплыў на падрыхтоўку СССР да вайны з Германіяй. А па выніку на падставе дакументаў прыйсці практычна да тых самых высноў, да якіх пісьменнік прыйшоў інтуітыўна больш за 50 гадоў таму: суб’ектыўны фактар, які вынікаў з асабістых стасункаў паміж Сталіным і Гітлерам, адыграў адну з найважнейшых роляў у жахлівым для Савецкага Саюза разгортванні падзей улетку 1941-га.

**Гітлер Сталіну**
**31 снежня 1940 года: «Прыміце яшчэ раз мае віншаванні з надыходзячым Новым годам, які, я спадзяюся, павінен стаць асабліва шчаслівым годам для нашых краін, разам з пажаданнямі здароўя і поспехаў Вам асабіста».**



**23 жніўня 1939 года. Вячаслаў Молатаў падпісвае пакт аб ненападзе з Германіяй, Сталін за ягонай спінай.** Ёсць сведчанні, што пасля падпісання пакта Сталін у коле паплечнікаў не хаваў свайго задавальнення і быў перакананы, што менавіта ён падмануў Гітлера**.** У выніку, аднак, атрымалася зусім наадварот.

Пачатак гэтаму «сяброўству» паклалі сумнавядомыя падзеі, звязаныя з падпісаннем пакта аб ненападзе 23 жніўня 1939-га, Дамовы аб дружбе і граніцах 28 верасня 1939-га, а таксама сакрэтных пратаколаў да іх, у якіх быў замацаваны падзел Усходняй Еўропы паміж нацыстамі і саветамі. Першы вядомы факт абмену карэспандэнцыяй паміж нацысцкім фюрарам і савецкім правадыром датуецца акурат 20–21 жніўня 1939 года і тычыцца падрыхтоўкі пакта аб ненападзе ды арганізацыі візіту нямецкага міністра замежных спраў Іахіма фон Рыбентропа ў Маскву для яго падпісання. У снежні гэтага ж года Гітлер павіншаваў Сталіна з 60-годдзем і атрымаў падзяку ў адказ.

Пасля падпісання ў Берліне 27 верасня 1940 года пакта паміж Германіяй, Італіяй і Японіяй, які прадугледжваў размежаванне сфераў уплыву паміж гэтымі дзяржавамі ў выніку ўсталявання «новага сусветнага парадку», Германія зрабіла спробу завабіць у яго СССР, прапануючы яму далучыцца да будучага падзелу свету. Гэтай тэме была прысвечана адмысловая перапіска, а таксама перамовы наркама замежных спраў СССР Вячаслава Молатава з Гітлерам і Рыбентропам у Берліне 12–13 лістапада 1940-га. Савецкая імперыя, якая са згоды Германіі зусім нядаўна пашырылася на вялікія тэрыторыі ва Усходняй Еўропе, была зусім не супраць пашырацца і далей. Таму Молатаў (натуральна, з санкцыі Сталіна) адказаў на нямецкія прапановы прынцыповай згодай.

Вяліся размовы і пра асабістую сустрэчу двух дыктатараў. У сваім навагоднім віншавальным лісце да Сталіна ад 31 снежня 1940 года Гітлер пісаў: «На жаль, выключная абцяжаранасць справамі, як Вы добра разумееце, не дазваляе мне арганізаваць нашу сустрэчу да заканчэння знішчэння Англіі. Таму я планую намеціць гэтую сустрэчу на канец чэрвеня – пачатак ліпеня 41-га года ды буду рады, калі сустрэну згоду і разуменне з Вашага боку. Прыміце яшчэ раз мае віншаванні з надыходзячым Новым годам, які, я спадзяюся, павінен стаць асабліва шчаслівым годам для нашых краін, разам з пажаданнямі здароўя і поспехаў Вам асабіста».

## «Правакацыі генералаў»

На пачатку «асабліва шчаслівага» 1941 года савецка-германскія адносіны выглядалі цалкам добра. 10 студзеня было падпісана новае гаспадарчае пагадненне паміж дзяржавамі, а таксама ў той жа дзень унесеныя карысныя для Саветаў змены ў сакрэтны пратакол ад 28 верасня 1939 года: Германія пагаджалася перадаць Савецкаму Саюзу горад Сувалкі з прылеглай тэрыторыяй. На сустрэчы з міністрам замежных спраў Японіі Ёсукэ Мацуокам, які прыбыў у Маскву ў красавіку 1941-га для падпісання пакта аб нейтралітэце паміж Японіяй і СССР, Сталін заявіў, што ён — перакананы прыхільнік Берлінскага пакта і праціўнік Англіі ды Амерыкі. Адразу пасля гэтага Сталін звярнуўся з асабістым лістом да Гітлера, у якім паведаміў, што надзвычайная канцэнтрацыя германскіх войскаў уздоўж савецкай мяжы ўсё ж выклікае ў яго пытанні, — і прасіў даць тлумачэнні. 14 мая 1941 года Гітлер адказаў Сталіну на яго красавіцкі ліст:

*«Я пішу Вам гэты ліст у той момант, калі я канчаткова прыйшоў да высновы, што немагчыма дамагчыся трывалага міру ў Еўропе ні для нас, ні для будучых пакаленняў без канчатковага скрышэння Англіі ды знішчэння яе як дзяржавы...*

*У гэтай сувязі асаблівую трывогу ў мяне выклікаюць наступныя абставіны. Пры фарміраванні войскаў уварвання далёка ад вачэй і авіяцыі праціўніка, а таксама* ►

*▶ ў сувязі з нядаўнімі аперацыямі на Балканах, уздоўж мяжы з Савецкім Саюзам сабралася вялікая колькасць маіх войскаў, каля 80 дывізій, што, магчыма, і нарадзіла чуткі пра верагодны ваенны канфлікт паміж намі, якія цяпер цыркулююць. Запэўніваю Вас гонарам кіраўніка дзяржавы, што гэта не так...*

*У гэткай сітуацыі я зусім не выключаю магчымасці выпадковага ўзнікнення ўзброенага канфлікту, які ва ўмовах такой канцэнтрацыі войскаў можа набыць вельмі буйныя памеры, калі цяжка ці проста немагчыма будзе вызначыць, што з'явілася яго першапрычынай. Не менш складана будзе гэты канфлікт і спыніць.*

*Я хачу быць з Вамі гранічна шчырым. Я баюся, што нехта з маіх генералаў свядома пойдзе на такі канфлікт, каб выратаваць Англію ад яе лёсу і сарваць мае планы...*

**«Пераканаўча прашу Вас не паддавацца ні на якія правакацыі, якія могуць мець месца з боку маіх генералаў».**

*Пераканаўча прашу Вас не паддавацца ні на якія правакацыі, якія могуць мець месца з боку маіх генералаў. І, само сабой зразумела, пастарацца не даваць ім ніякай нагоды. Калі ж правакацыі з боку якога-небудзь з маіх генералаў не ўдасца пазбегнуць, праявіце вытрымку, не прадпрымайце дзеянняў у адказ і неадкладна паведамце мне па вядомым Вам канале сувязі...»*

У святле гэтага ліста робяцца зразумелымі і ўсе далейшыя дзеянні Сталіна. Падаецца, што ён сапраўды паверыў Гітлеру больш, чым сваім вайскоўцам і разведчыкам. І адзін, і другі меў абсалютную ўладу — вось што спрыяла такому даверу. У гэтым кантэксце робіцца цалкам відавочны і сэнс «Заявы ТАСС» ад 13 чэрвеня 1941 года. Гэта быў адказ Сталіна на ліст Гітлера месячнай даўніны: маўляў, мы вам верым і спадзяёмся, што і надалей усё паміж намі будзе ў парадку, нягледзячы на панічныя паведамленні мясцовых і замежных дэзынфарматараў і правакатараў.

## Цяжкое вяртанне да рэчаіснасці

Пасля гэтага германскі сябра Сталіна захоўваў ледзяное маўчанне. Што і не дзіўна: 30 мая ён канчаткова прызначыў дату ўварвання ў СССР на 22 чэрвеня. 17 чэрвеня Сталін звярнуўся да яго з просьбай тэрмінова прыняць у Берліне Молатава «для ўзаемных кансультацый». Просьба засталася без адказу.

Увечары 21 чэрвеня (у 21:30) Молатаў выклікаў да сябе германскага пасла Фрыдрыха-Вернера фон дэр Шуленбурга, каб запытацца пра наступнае: «Ёсць шэраг сведчанняў пра тое, што германскі ўрад незадаволены савецкім урадам. Нават цыркулююць чуткі, што набліжаецца вайна паміж Германіяй і Савецкім Саюзам... Савецкі ўрад не ў стане зразумець прычыны незадавальнення Германіі». Пасол нічога ўцямнага адказаць не змог.

22 чэрвеня а 4-й раніцы Рыбентроп уручыў савецкаму паслу ў Германіі Уладзіміру Дзеканозаву мемарандум аб пачатку вайны. Але Сталін усё яшчэ думаў, што напад — гэта правакацыя нямецкіх генералаў. Наркаму абароны Сямёну Цімашэнку і начальніку Генеральнага штаба Георгію Жукаву ён заявіў, што нямецкія генералы пачалі баявыя дзеянні без ведама Гітлера. Таму раніцай 22 чэрвеня Сталін загадаў даць адпор вермахту, але артылерыйскі агонь не пачынаць. Вера ў «сябра Адольфа» была настолькі вялікай, што, калі ў 5:30 Шуленбург з'явіўся да Молатава і перадаў яму той самы мемарандум, што і Рыбентроп Дзеканозаву, Сталін вырашыў, што Шуленбург выконвае загад нямецкіх генералаў, пра небяспеку якіх Адольф яго папярэджваў.

Усю раніцу 22 чэрвеня Сталін спрабаваў звязацца з Гітлерам то па тэлефоне, то па радыёсувязі. Нарэшце, удалося звязацца з Рэйхсканцылярыяй. Крэмль запатрабаваў неадкладна паведаміць Гітлеру аб пачатку ваенных дзеянняў, але нямецкія сувязісты прапанавалі звязацца з Рэйхсканцылярыяй заўтра раніцай. Палову дня 22 чэрвеня 1941 года ў Сталіна заставалася надзея, што «сябра Адольф» яго не падмануў, а ваенныя дзеянні вядуць непадкантрольныя таму нямецкія генералы.

Да 12:00 «правадыр сусветнага пралетарыяту» нарэшце ўсё зразумеў, але ўжо не меў ні маральных, ні фізічных сілаў абвясціць пра тое, як ён прамахнуўся, савецкаму народу. У 12:15 па маскоўскім часе ўвесь Савецкі Саюз пачуў па радыё словы, якія ўвайшлі ў гісторыю: «Наша справа праведная. Вораг будзе разбіты. Перамога будзе за намі». Толькі сказаў іх не Сталін, а Молатаў.

А далей... Далей была вайна. ◆

# Наіўнасць ці намер напасці першым? Што тлумачыць дзеянні Сталіна

**Існуе і іншая канцэпцыя, якая тлумачыць парадаксальныя паводзіны Сталіна перад пачаткам нямецка-савецкай вайны, не ягонай наіўнасцю і звышдаверам да Гітлера (за межамі здаровага сэнсу, дый не характэрны быў для Сталіна давер да каго б то ні было), а цалкам усвядомленым цвярозым разлікам.**

Гэтую канцэпцыю многія ведаюць па кнігах былога савецкага разведчыка Віктара Рэзуна (літаратурны псеўданім Віктар Сувораў), які ў 1978 годзе адмовіўся вяртацца ў СССР і папрасіў палітычнага прытулку ў Брытаніі. У канцы 1980-х ён напісаў і выдаў кнігу «Ледакол», у якой даводзіў, што Сталін на самай справе не стаў ахвярай падступнасці Гітлера. Наадварот, ён сам планаваў прыкладна ў той жа самы тэрмін зрабіць нечаканы напад на Германію (аперацыя «Навальніца»), а разбіўшы яе — падпарадкаваць сабе ўсю Еўропу.

Папярэдняе ж «сяброўства» з нацысцкай Германіяй патрэбна было Сталіну нібыта толькі для таго, каб развязаць Гітлеру рукі для вайны на заходнім фронце. Ведучы вайну з Вялікабрытаніяй і Францыяй, Гітлер аслабляў бы іх, а адначасова слабеў бы і сам. А ў пэўны момант атрымаў бы нечаканы ўдар у спіну ад Чырвонай арміі, якая са свежымі сіламі змяла б усё і ўсіх на сваім шляху. Гітлер са сваёй магутнай арміяй, такім чынам, мусіў стаць для Сталіна своеасаблівым «ледаколам», які расчысціў бы яму шлях да сусветнага панавання — адгэтуль і назва кнігі.

Сувораў звярнуў увагу, як дзіўна і парадаксальна ў канцы 1940 – пачатку 1941 года канцэнтраваліся савецкія войскі каля заходняй мяжы. Тут была сабраная аграмадная вайсковая групоўка, прытым размешчана яна была так, што гэта не ўпісвалася ні ў якія канцэпцыі абарончай вайны, затое ідэальна пасавала для вайны наступальнай. У тым ліку і такой дыслакацыяй нібыта тлумачыцца маштабнасць катастрофы, якую пацярпела Чырвоная армія 22 чэрвеня 1941 года і ў наступныя дні: войска, якое рыхтавалі выключна да наступлення, аказалася абсалютна не гатовым да абароны.

Гітлер, сцвярджаў Сувораў, разгадаў планы Сталіна і мусіў на іх рэагаваць. Пачынаць вайну супраць Савецкага Саюза, не скончыўшы ўсіх спраў на Захадзе, для Германіі было самагубствам, але іншага выйсця ў нямецкага фюрара проста не заставалася. Таму ён і наважыўся ўдарыць першым, каб перахапіць у праціўніка ініцыятыву і мець прынамсі за кошт гэтага перавагу.

А Сталін, які нібыта прызначыў пачатак наступлення на 6 ліпеня 1941 года і нават ужо праводзіў схаваную мабілізацыю, таксама разумеў, што напад Гітлера на СССР у гэты момант быў бы для таго ў доўгатэрміновай перспектыве самагубствам. Таму і не верыў, што ён на такое наважыцца. А ўсе трывожныя сігналы тлумачыў жаданнем справакаваць яго на ваенныя дзеянні раней часу, што паламала б усе сталінскія планы. Адсюль і гэтыя пастаянныя патрабаванні з боку Сталіна: не паддавацца на правакацыі, не даваць найменшай зачэпкі.

Напад на СССР стаў для Гітлера гібельным. Але і сталінскія планы пайшлі кату пад хвост: страты народаў СССР былі страшныя, падпарадкаваць удалося немалую частку, але далёка не ўсю Еўропу.

Канцэпцыя Віктара Суворава і сёння мае нямала прыхільнікаў, у тым ліку і сярод навукоўцаў, бо на найбольш спрэчныя і прынцыповыя пытанні, якія выклікалі яе з'яўленне, афіцыйная гістарыяграфія дагэтуль вычарпальнага адказу не дала. Аднак і версія Суворава не мае адназначнага дакументальнага пацвярджэння.

**Касцюкевіч, Павал. Бульба ў райскім садзе. Беларускі праваднік па Старым Запавеце (ТаНаХу). — Вільня: Логвінаў, 2018. — 130 с.**

Ці расла ў Эдэме бульба? Хто плаціў за камунальныя паслугі Адама і Евы? Як сталася, што цар Давід зрабіўся першым партызанам і рэкецірам у гісторыі чалавецтва? Чаму грамадзянін БНР, паэт Хаім-Нахман Бялік, так і не адрадзіў біблійны іўрыт? Што агульнага ў «Песні песняў» з «Песняй пра зубра»?
Праз 500 гадоў пасля выхаду скарынаўскага выдання перакладчык ізраільскай літаратуры і асірыёлаг-аматар Павал Касцюкевіч узяўся ўважліва перачытаць біблійныя аповеды і пашукаць у іх жывыя паралелі з беларускай, габрэйскай і блізкаўсходняй культурай, гісторыяй і палітыкай.

Набыць кнігу можна ў мінскай кнігарні «Логвінаў» (вул. Караля, 22).

# Гісторыя Homo sapiens завяршаецца?

## Ён можа стаць рабом вышэйшага інтэлекту

**Ізраільскі гісторык Юваль Ной Харары за апошнія гады ператварыўся ў сусветна вядомага і ультрамоднага пісьменніка. Для кагосьці ён візіянер і прарок, а хтосьці крытыкуе Харары: маўляў, ён усё зводзіць да біяхімічных працэсаў і адмаўляе свабодны выбар чалавека. Але абыякавымі ягоныя бестселеры не пакідаюць нікога. Максім Маханькоў дзеліцца ўражаннямі пра кнігу «Homo Deus» («Чалавек Божы»).**

У гэтай кнізе Харары апісвае, як навукова-тэхналагічнае развіццё можа ператварыць сучаснага чалавека разумнага (*Homo sapiens*) у абсалютна іншы біялагічны від, а таксама перасцерагае, што такія змены могуць забіць гуманізм, выклікаць сур'ёзныя праблемы ва ўсім свеце і ператварыць наша жыццё ў антыўтопію.

Аўтар упэўнены: чалавецтва дасягнула не абы-якога поспеху ў змаганні са сваімі страшнымі і хранічнымі праблемамі. На планеце амаль ліквідаваны голад, значная частка атрымала




доступ да нармальных умоў жыцця, медыкі з дапамогай вакцынацый перамаглі страшныя хваробы, пакінуўшы эпідэміі ў мінулым. Вядома, войны, галеча, голад і хваробы цалкам не зніклі, а жыццё ў некаторых краінах працягвае быць жахлівым, але ў параўнанні з ранейшымі эпохамі чалавецтва сапраўды зрабіла вялікі крок, нават не ў самых багатых рэгіёнах. Харары мяркуе, што чалавецтва значна наблізілася да поўнага знішчэння хвароб, голаду і войнаў. А што будзе далей, калі мы дасягнём гэтай мэты?

### Несмяротнасць, шчасце і боскасць

Гісторыя не цярпіць вакууму, таму чалавецтва, на думку Харары, будзе вымушана шукаць новыя глабальныя праекты. Наступнай нашай мэтай могуць быць несмяротнасць, шчасце

і боскасць. Дактары разам з навукоўцамі могуць навучыцца распрацоўваць штучныя органы ў неабмежаванай колькасці, лячыць самыя складаныя хваробы і працягваць жыццё чалавека бясконца доўга. Шчасце тыя ж самыя дактары змогуць даць кожнаму, уплываючы на біяхімічныя працэсы ў арганізме чалавека. Ну а з дапамогай біяінжынерыі, распрацоўкі кібаргаў і неарганічных істот чалавек, несмяротны і шчаслівы, фактычна атрымае атрыбуты боскасці.


SHUTTERSTOCK.COM, BY BRATISHKO KONSTANTIN

**Магчыма, мы пабудавалі свет, у якім для нас няма месца**

Гучыць надта добра і фантастычна, але аўтар папярэджвае, што за ўсімі гэтымі дасягненнямі хаваецца смяротная небяспека.

Да цяперашняга часу большасць культур верыла, што людзі граюць сваю ролю ў вялікім божым / касмічным / прыродным плане. Гэты план, складзены багамі ці прыродай, надаваў сэнс жыццю, але і абмяжоўваў сілу і ініцыятыву чалавека. Цяперашняя культура адкідае гэтую веру ў касмічны ці божы план — гэта, з аднаго боку, дазваляе вызваліць сілу і ініцыятыву чалавека. З другога боку, калі ніякага божага плана няма, жыццё чалавека страчвае сэнс. І гэта вельмі небяспечны вакуум, калі каштоўнасць чалавечага жыцця можа зусім нівеляваццa.

### Гуманізм і біяхімія

Навуковая рэвалюцыя спарадзіла гуманізм, каб гэты вакуум запоўніць. Яго Юваль Ной Харары таксама лічыць пэўнай формай рэлігіі, бо і гуманісты пакланяюцца — адно што толькі не богу, а чалавеку. Базавая ідэя любых гуманістычных рухаў у тым, што *Homo sapiens* мае пэўную ўнікальную і свяшчэнную сутнасць, якая з'яўляецца крыніцай усіх сэнсаў і абгрунтаванняў у Сусвеце. Гуманізм робіць свяшчэннымі людскія патрэбы, капрызы і жаданні, грэбуючы ўсім іншым. Гучыць парадаксальна, але гуманізм запраграмаваны на самазнішчэнне, мяркуе Харары.

Менавіта гуманізм быў рухальным механізмам для развіцця навукі, якую паставілі на службу чалавеку. Навукоўцы расшыфроўвалі ДНК, распрацоўвалі вакцыны, стваралі пральныя машыны і мікрахвалёўкі, распрацоўвалі пратэзы і штучныя клапаны сэрца, каб зрабіць жыццё чалавека камфортнейшым, зручнейшым і больш працяглым. Усе гэтыя навуковыя і эканамічныя дасягненні былі створаныя дзякуючы таму, што чалавецтва было здольнае надаць сэнс сваім дзеянням і думкам, якія былі ў аснове ўсяго.

**Калі ніякага божага / касмічнага / прыроднага плана няма, жыццё чалавека страчвае сэнс**

Аднак развіццё біялогіі, лічыць Харары, паказала, што значная частка нашых думак, эмоцый, перажыванняў — звычайная біяхімія. Каханне, страх, адвага — усе гэтыя эмоцыі цяпер тлумачацца навукоўцамі як біяхімічныя працэсы ў арганізме. Выкід гармонаў, складаныя электрычныя імпульсы ў мазгах — вось чым біёлагі ▶

тлумачаць нашы паводзіны. Чалавек, на іх думку, гэта звычайны алгарытм, а не нейкая свяшчэнная высокадухоўная істота, якая з'яўляецца асновай усяго, і гэта моцна падрывае нашу веру ў нейкую каштоўнасць і выключнасць чалавечага жыцця.

### Хто акажацца за бортам

Больш за тое, калі навукоўцы навучацца змяняць ДНК, ствараць штучныя органы ці ўплываць на эмацыйны стан чалавека, ці можна будзе ўвогуле лічыць такую істоту свабоднай, са сваімі ўласнымі эмоцыямі і думкамі?

Ужо цяпер прыборы, якія праз электроды фіксуюць электрычную актыўнасць у мозгу, альбо нават алгарытмы сацыяльных сетак ведаюць пра нас больш, чым ведаем мы самі пра сябе.

Але калі чалавек не мае ніякага сакральнага стрыжня ці сакральнай свядомасці і на ўсе ягоныя рэакцыі і рашэнні можна ўплываць звычайнымі хімічнымі рэчывамі ці электрычнымі імпульсамі, узнікае пытанне: хто гэта будзе рабіць? Ці не створыць гэта сітуацыю, калі малая колькасць людзей возьме пад свой кантроль усё чалавецтва і будзе кіраваць ім як робатамі? А з улікам таго, што ўжо зараз робаты выконваюць некаторыя функцыі значна лепш, чым людзі, ці не ўзнікне жаданне ў кіраўнічага класа ўвогуле пазбавіцца ад людзей?

**Гісторыя *Homo sapiens* завяршаецца, бо мы знаходзімся на піку магутнасці і дасягнулі свайго ліміту**


SHUTTERSTOCK.COM BY STUNNINGART

Раней дзяржаўныя інстытуты былі зацікаўленыя ў тым, каб лекаваць людзей і ствараць добрыя ўмовы працы для іх. Мінулыя стагоддзі былі стагоддзямі мас: дзяржавы патрабавалі шмат салдат, шмат сялян, шмат рабочых на заводзе, шмат падаткаплатнікаў. Цяпер гэтая эпоха завяршаецца. Калі ўся вытворчасць будзе аўтаматызавана, а кіраваць усімі працэсамі будуць звышлюдзі са штучнымі органамі і палепшаным мозгам, у дзяржавы не будзе ніякага стымулу рабіць масавую медыцыну і сістэму сацыяльнага забеспячэння. Калі раней навука працавала на ўсіх людзей, нават самых бедных, бо была зацікаўлена ў салдатах і падатках, то ў будучыні ёсць небяспека, што яна будзе працаваць толькі на кіраўнічы клас. Іншыя людзі, піша Харары, могуць аказацца за бортам.

### Замест людзей — алгарытмы

Мінулая кніга Харары, «Кароткая гісторыя чалавецтва», апісала апошнія 75 тысяч гадоў гісторыі, каб пераканаць нас у тым, што ў чалавеку няма нічога асаблівага. Мы звычайная жывёла, якой проста пашанцавала ў выніку эвалюцыйных працэсаў стаць дамінуючым відам на Зямлі. У «Homo Deus» Харары прыходзіць да высновы, што гісторыя *Homo sapiens* завяршаецца, бо мы знаходзімся на піку магутнасці і дасягнулі свайго ліміту. Чалавек стаў такім моцным, што неймаверная здольнасць кантраляваць свет пераўтварае нас у нешта іншае.

Эвалюцыйная навука вучыць нас, што мы ўсяго толькі машыны для апрацоўкі даных і алгарытмаў. Бяда ў тым, што іншыя алгарытмы — тыя, якія мы стварылі, — могуць быць значна


WIKIMEDIA COMMONS

**Юваль Ной Харары** — 43-гадовы ізраільскі гісторык, прафесар Яўрэйскага ўніверсітэта ў Ерусаліме. Спачатку спецыялізаваўся ў вайсковай гісторыі Сярэднявечча, цяпер займаецца вывучэннем транснацыянальнай гісторыі і макрагістарычных працэсаў. З 2004 года выходзяць ягоныя кнігі, якія карыстаюцца масавай папулярнасцю ва ўсім свеце. Працы Харары атрымалі шмат прэстыжных прэмій, у 2015 годзе заснавальнік Фэйсбука Марк Цукерберг уключыў кнігу «Sapiens: Кароткая гісторыя чалавецтва» ў свой прэстыжны анлайн-клуб «Год кніг». Некалькі месяцаў таму імя Харары апынулася ў цэнтры скандалу, звязанага з выхадам рускамоўнай версіі ягонай апошняй кнігі «21 урок для XXI стагоддзя». Пішучы пра постпраўду, у англійскім арыгінале ён у якасці яе прыкладу прыводзіў хлуслівыя словы прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна падчас анексіі ўкраінскага Крыма ў 2014 годзе. У выданні па-руску яны былі замененыя на словы прэзідэнта ЗША Дональда Трампа. Высветлілася, што замена была зроблена з ведама і згоды аўтара, за што яму давялося апраўдвацца перад заходняй прэсай, панёсшы такім чынам рэпутацыйныя страты.

больш эфектыўнымі, чым мы самі. Раней меркавалася, што мы, людзі, самі вырашаем, што з намі адбываецца: як выбаршчыкі, як спажыўцы, як аматары. Але гэта ўжо не так.

Харары піша, што машынай для апрацоўкі інфармацыі і алгарытмаў ёсць ужо не толькі чалавек, але і складаныя структуры, створаныя чалавецтвам, такія як дзяржава, карпарацыі і іншыя. І тут таксама ёсць сур'ёзная праблема: мы стварылі такія апрацоўчыя машыны, якія значна больш эфектыўныя, чым дзяржавы (*Google*, *Facebook*, *Wikipedia*). Урады і міжнародныя арганізацыі проста не паспяваюць апрацоўваць усе гэтыя плыні інфармацыі.

**У 1000 годзе можна было ўявіць свет праз сто гадоў. Але свет 2100 года цяпер уявіць немагчыма**

Аўтар лічыць, што мы знаходзімся ў канцы гісторыі, але не ў тым сэнсе, што ўсё спыняецца. Хутчэй наадварот: усё ідзе так хутка, што немагчыма ўявіць, якой будзе будучыня. У 1000 годзе можна было меркаваць, якім будзе свет у 1100 годзе. Але свет 2100 года цяпер уявіць немагчыма.

Можа быць, мы пабудавалі свет, у якім для нас няма месца. Харары лічыць, што людзі проста перастануць верыць у тое, што яны могуць неяк вызначаць свой лёс.

Але вакуум не можа доўга існаваць. Харары піша, што на змену сучасным прынцыпам (лібералізму і дэмакратыі) прыходзіць новая рэлігія: датаізм (канцэпцыя, згодна з якой найвышэйшай каштоўнасцю з'яўляюцца буйныя масівы звестак і алгарытмы іх апрацоўкі). Галоўнае святое месца гэтай «рэлігіі» — Крэмніевая даліна. Для датаізму інфармацыя і яе свабоднае распаўсюджванне — адзіная сапраўдная каштоўнасць.

Карпарацыі і ўрады будуць па-ранейшаму паважаць нашу індывідуальнасць і ўнікальныя патрэбы, але для іх абслугоўвання яны павінны разбіць нас на біяхімічныя падсістэмы, і ўсе яны пастаянна кантралююцца магутнымі алгарытмамі. У гэтым ёсць і антыўтапічны палітычны аспект. Увайсці ў гэтую новую суперэліту будзе неверагодна цяжка. Гэта змрочная перспектыва: невялікая каста будзе мець доступ да найноўшай крыніцы ведаў, а астатняе чалавецтва будзе проста інструментам у велізарных алгарытмах.

### *Homo sapiens* — «жывёла» для *Homo Deus*

Харары мяркуе, што *Homo sapiens*, які ў свой час падпарадкаваў жывёл і ставіцца да іх не вельмі добра, сам можа стаць такой «жывёлай» для *Homo Deus*. Людзі будуць у той жа сітуацыі, што і іншыя жывёлы: пакутаваць ад рук уладальнікаў вышэйшага інтэлекту. Робаты і звышлюдзі будуць ставіцца да нас гэтак жа, як мы ставімся да свінні з фермы ці мухі. Мы не ўлічваем пакуты жывёл, бо яны маюць значна меншы інтэлект, чым людзі. Неўзабаве тое самае будзе і з намі. ◆

# «НЕСОКРУШИМАЯ И ЛЕГЕНДАРНАЯ» на маршы ў Заходнюю Беларусь



БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ КІНАФОТАФОНАДАКУМЕНТАЎ

Хоць усе савецкія фота з верасня 1939-га пастановачныя, яны ўсё ж перадаюць атмасферу таго часу. **На фота: чырвонаармейцы з жыхарамі Маладзечна.**

## Без бензіну, без запчастак, без дысцыпліны

**У 1930-я гады пад маштабныя рэпрэсіі патрапіла і Чырвоная армія. Быў амаль цалкам знішчаны камандны склад, а сярод тых, хто застаўся, панаваў страх. Гэта адбілася на баяздольнасці савецкага войска. Хрэстаматыйнай дэманстрацыяй лічыцца савецка-фінская вайна. Але перад гэтым была яшчэ і «польская кампанія», калі 17 верасня 1939 года Чырвоная армія перайшла савецка-польскую мяжу, каб узяць пад кантроль Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну. Рассакрэчаныя дакументы пра стан савецкага войска на пачатак Другой сусветнай вайны аналізуе Зміцер Дрозд. Артыкул напісаны па матэрыялах Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь.**

У верасні 1939 года польская армія, абяскроўленая змаганнем з гітлераўскай Германіяй, не аказвала Чырвонай арміі арганізаванага супраціву. А беларусы і ўкраінцы, якіх у Польшчы ўціскалі, верылі, што саветы прынясуць лепшую долю, зямлю, свабоду і роўнасць. Таму прасоўвалася па Заходняй Беларусі савецкае войска без асаблівых перашкод. Але гэта на першы погляд. Зусім іншае чытаем у справаздачах асобых аддзелаў НКВД. Справаздачы гэтыя былі зусім сакрэтныя і прызначаліся толькі для вузкага кола асоб. Таму ў іх пісалі не толькі пра тое, што мела быць, але і пра тое, што было рэальна.

Мне давялося азнаёміцца са справаздачамі асобага аддзела Упраўлення дзяржаўнай бяспекі НКВД БССР вайсковага злучэння № 6394 Беларускай асобай вайсковай акругі. Адным з яе асноўных гарнізонаў быў Барысаў. Там размяшчаліся танкавыя часці, а менавіта 2-я легкатанкавая брыгада, якая ўваходзіла ў склад 15-га танкавага корпуса. Пра баявы шлях гэтай брыгады ў верасні 1939-га і пойдзе гаворка.

### Хто ў лес, хто па дровы

11 верасня 1939 года ў Беларускую і Кіеўскую асобыя вайсковыя акругі паступіў загад аб разгортванні палявых упраўленняў. Была абвешчаная мабілізацыя рэзервістаў. На тэрыторыі Беларускай акругі быў разгорнуты Беларускі фронт пад камандаваннем камандарма 2-га рангу Міхаіла Кавалёва.

Ужо напярэдадні ў Барысаўскім гарнізоне запанавала мітусня. 8 верасня ў 14:00 паступіў загад: бранябойныя і запальныя патроны, як сакрэтныя, разрадзіць і здаць на склад. На наступны дзень было загадана, наадварот, усе такія патроны трымаць у машынах і скрынях, а на склад здаць тыя, якія з лёгкай куляй. Пакуль танкісты займаліся пераносам боепрыпасаў туды-сюды, быў аддадзены новы загад: выступаць, а ў дыскі закласці бранябойныя патроны. У выніку ўсёй гэтай блытаніны 9 сакрэтных (!) патронаў з куляй Б-32 недзе згубіліся.

9 верасня 1939 года ў 18:30 часцям і падраздзяленням злучэння № 6394 была аб'яўлена баявая трывога з выхадам да месца канцэнтрацыі на поўдзень ад вёсак Смыкі і Махавое ля Смалявічаў. Некаторыя камандзіры машын, спяшаючыся, грузілі боекамплекты і запчасткі іншых аддзяленняў, у той час як тыя не маглі знайсці свайго. У выніку многія выехалі без грузу. Начальнік санітарнай часці вайсковы доктар 2-га рангу Кочатаў, выязджаючы з Барысава, не ўзяў з сабой аніякіх медыцынскіх інструментаў. Ужо недалёка ад мяжы ён «мабілізаваў» (гэта значыць, проста забраў «іменем рэвалюцыі») інструмент у адной з мясцовых бальніц. Аўтатранспартная рота, выступаючы па трывозе, не праверыла ўсе свае аўтацыстэрны, і ўжо ў дарозе выявілася, што шэсць з іх едуць пустымі. Давялося іх вяртаць назад, каб такі напоўніць палівам.

### Тэрміны сарваныя

Выступленне з Барысава пачалося а 23-й гадзіне і працягвалася да 2–3-й ночы. Да месца канцэнтрацыі часці прыбывалі да 12-й гадзіны наступнага дня, хоць меліся прыбыць у 5 раніцы. Ужо тут спазненне склала 7 гадзін! І гэта не ва ўмовах нападу ворага, як было 22 чэрвеня 1941-га, а ў адносна спакойнай сітуацыі, калі камандзіры былі загадзя папярэджаныя. Пры гэтым на маршы да месца канцэнтрацыі калона 2-й танкавай брыгады расцягнулася так, што паміж некаторымі машынамі быў інтэрвал, большы за 2 км.

Усё зацягнулася, бо ўжо ў першыя гадзіны пачаліся паломкі і аварыі: за першыя суткі адбылося 15 вымушаных прыпынкаў, з іх 13 — па прычыне паломак. У раёне Жодзіна танк БТ-7, ідучы без святла, зваліўся пад адхон і перакуліўся дагары коламі на вежу. Экіпаж, праўда, не пацярпеў, але доўга не мог вылезці, пакуль танк не перавярнулі. Некалькі іншых танкаў ноччу сутыкнуліся з такімі ж машынамі, якія стаялі наперадзе. Яшчэ адзін БТ-7 па дарозе загарэўся, у іншага расплавіліся падшыпнікі... А аўтамашына паркавай роты пад кіраваннем шафёра, які быў толькі-толькі прызваны ў войска, адстала, збілася з дарогі і толькі на наступны дзень была знойдзена ў раёне вёскі Волма. Каб неўзабаве зноў згубіцца.

**«Усе падраздзяленні павінны былі прыбыць у пункт збору ў 5:00, а прыбылі а 12-й»**

### Першыя ахвяры

Наступным пунктам была вёска Кайкава за 25 км на поўдзень ад Мінска, куды брыгада прыбыла 12 верасня. Тады з'явіліся першыя чалавечыя страты. ▸

▶ У адным з батальёнаў танк заглух, а калі яго бралі на буксір, паміж двума танкамі патрапіў механік-кіроўца Афанасьеў. У той жа дзень каля чыгуначнага пераезда рэгуліроўшчык брыгады Барабанаў падчас праходжання калоны спрабаваў закінуць у люк танка яблыкі. У гэты час механік-кіроўца Міронаў зрабіў паварот, і Барабанаў трапіў пад гусеніцу — танк праехаўся па ягоных нагах.

Пераязджаючы цераз чыгунку ў раёне вёскі Аляксееўка за 20 км ад Мінска, аўтамашына-лятучка (майстэрня) трапіла пад цягнік. Загінулі 4 чалавекі: малодшы ваентэхнік Ярмуш, чырвонаармейцы Ліўшыц і Шыгімага, а таксама шафёр, прыпісаны ваенкаматам «на час вучэнняў» (нават асобы аддзел не ведаў ягонага прозвішча). Акрамя таго, 4 чалавекі былі параненыя, з іх чырвонаармеец Япіхін — моцна.

### А тым часам у Барысаве

13 верасня брыгада знаходзілася каля вёскі Ладыга за 40 км на поўдзень ад Мінска. У гэты час у Барысаве сярод жонак камандзіраў пайшлі чуткі, што іх будуць эвакуіраваць. Штуршком паслужыла тое, што камісар часці Кабанаў прыехаў дахаты ў Барысаў, пагрузіў усе свае рэчы (ровар, ложак, шафу, кушэтку) і вывез жонку з рэчамі. Жонкі іншых камандзіраў сталі таксама пакаваць рэчы. Выглядае, некаторыя камандзіры не мелі ўпэўненасці ў шчаслівым выніку вайны з Польшчай, а таму намагаліся адправіць свае сем'і далей ад мяжы. Падобную карціну многія пабачылі і 22 чэрвеня 1941 года, калі мінскія партработнікі больш займаліся эвакуацыяй сваіх сем'яў, чым выкананнем службовых абавязкаў.

Пасля сыходу асноўных сілаў у Барысаўскім гарнізоне сталі рыхтаваць войскі другога эшалону. Адказны за падрыхтоўку палкоўнік Кузняцоў, штодня збіраючы ў сябе ў кабінеце камандзіраў часцей, паўтараў: «Мабілізацыя сарваная, хутка будзе зроблена расследаванне, і таго-сяго за гэтую справу возьмуць, бо машын няма, і другі эшалон мы своечасова падняць не можам». Ягоную паніку можна зразумець: з 460 машын ён не атрымаў 105 — амаль чвэрць. Дрэнна таксама было з запчасткамі. Пастаянныя паломкі вычарпалі ўсе запасы,

**З 252 танкаў у бой змаглі пайсці толькі 40 машын! 50% танкаў у гэты момант стаялі без бензіну**




**Савецкая бранятэхніка на заходнебеларускіх дарогах.** У ёй бронеаўтамабілі БА-10 і БА-20, а справа з надпісам «СТАЛИН» на вежы — танк БТ-5.

БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ КІНАФОТАФОНАДАКУМЕНТАЎ

«Непабядзімыя» праходзілі міма. Вось каля мяне спынілася кавалерыя, і я заўважыў, якія ў іх нячышчаныя рулі, а віселі яны — у каго на вяроўцы, у каго дрот, а ў некага нават тэлефонны кабель. Коні не кутыя, відаць, ад некалькіх месяцаў, бо капыты адраслі як у грэцкага жаўнера. Падумаў, як далёка гэтая «непабядзімая» дойдзе. І сапраўды, неўзабаве ўсе дарогі былі заваленыя коньмі, якія не маглі ісці без падкоў. Частку гэтае няшчаснае жывёліны людзі пазабіралі, пазасталыя ж аддалі свае жыцці за «шчаслівае савецкае жыццё»...

...Каля дарогі, што вяла ў Нягневічы, была відаць і мая гаспадарка, а за ёю на дарозе стаяў савецкі танк. Гэта не на жарт мяне ўстрывожыла: сапраўды, чаго ён стаіць, калі ўсе спяшаюцца ехаць на захад?

Падыходжу да свайго саду. Нідзе ні душы. Іду ў дом. Сям'я ўдома. Кажуць, танк сапсаваўся, адзін паехаў у Наваградак, а двух жаўнераў пакінулі ў танку.

Падсілкаваўся, адпачыў, пайшоў у сад. Зараз жа байцы, угледзеўшы мяне, вылезлі і ідуць у маім напрамку. Я таксама накіраваўся да іх. Падыходзячы да мяне, сказалі: «Здравствуйте, гражданин», — і не паспеў я адказаць, як яны пачалі прасіць яблык. Я гавару ім: зараз вам вынесу. А яны ў адзін голас: «Пазней, не нужно, мы этих сорвём». Я гавару: «Гэтыя яшчэ не паспелі, яны прыдатныя будуць за 4–5 тыдняў; гэта антонаўка, а там, далей — ранаты, касельская і баўмана, яны яшчэ болей вымагаюць даспяваць — 7–8 тыдняў». Я знаў, чаму яны не хочуць узяць яблыкі, якія абабраныя ляжалі. Ім убілі ў галовы, што мы палякі і можам іх атруціць.

Дазволіў нарваць антонаўкі, за што атрымаў «спасибо». Яны пайшлі да свае машыны-танка. Гэтым разам сядзелі вонкі на траве пад клянінаю, з'ядаючы недаспелую антонаўку, ад якой, як у нас кажуць, аж за вушамі пішчала...

...Танк стаіць трэці дзень, чакаючы прыходу майстроў. Сяржант павярнуўся з Наваградка, але моцна прастудзіўся. Я сказаў брату, каб той пагутарыў з сяржантам і прапанаваў начаваць у маім доме (у брата не было месца, ягоная сям'я была вялікая). Сяржант адмовіўся ісці да мяне. Тады я пайшоў да яго сам і без засцярогі сказаў, што мы не з'яўляемся забойцамі, мы — рэлігійныя, што ў такі час хіба вар'ят мог бы зрабіць грэшны злы ўчынак жаўнеру. Сяржант пагадзіўся і прыйшоў нанач.

Я не хацеў з ім гутарыць на палітычныя тэмы, таму час вячэрні праводзілі ў маіх апавяданнях з часоў Першай сусветнай вайны. На вячэру жонка прыгатавала ўсё найлепшае і напарыла малака з маслам і мёдам. Калі ўсё было пастаўлена на стол, ён ні да чаго не дакрануўся, пакуль я першы не браў. Перад сном выпіў аспірыны і пайшоў спаць. Але перад тым сказаў, што адзін малады чалавек, які тут перад домам хадзіў, гаварыў танкістам шмат дрэннага на мяне...

...Назаўтра ўся мая сям'я захоўвала поўную ціш, каб не пабудзіць нялюбага госця. Прыезд майстроў і з імі лейтэнанта падняў яго з пасцелі ў поўным аздараўленні. Жонка прыгатавала снядане і запрасіла да стала абодвух, але лейтэнант адмовіўся, толькі выказаў здзіўленне з шмат якіх патраў, дадаючы ў бок сяржанта: «Вельмі цябе добра гасцююць». У гутарцы лейтэнант выказаў, што ён паходзіць з Новых Дарог Бабруйскага павета. Якраз жонка і я ў першую вайну там жылі некаторы час, асабліва жонка, і амаль усіх знала. І калі сказала, што ўсіх ведае ў Новых Дарогах, то ён спыніў гутарку і не сказаў свайго прозвішча.

Паснедаўшы, шчыра падзякаваў, і пайшлі яны да танка, які быў ужо запраўлены, і адразу ж ад'ехалі на захад. Усе галоўныя сілы ішлі на захад, толькі сям-там засталіся тылавыя часці Чырвонае арміі.

*Аляксандр Стагановіч. Успаміны пасла*

некаторыя запчасткі скончыліся яшчэ на савецкай тэрыторыі. Танкі, машыны і трактары губляліся па дарозе, на іх пошукі выпраўляліся афіцэры, якія таксама надоўга знікалі.

### У бой не рваліся

Пераход мяжы 17 верасня таксама суправаджаўся інцыдэнтамі. Акрамя таго, што шмат танкаў загразла ў балоце, экіпаж аднаго з іх, баючыся пераходу на тэрыторыю Польшчы, за 10–15 км ад мяжы пасадзіў танк на пень. На ім танк прастаяў цэлыя суткі. Вызваліўшы машыну, танкісты самастойна перайшлі мяжу. Але ў момант гэтага пераходу механік-кіроўца Саўцоў так разгубіўся, што не мог весці танк. Камандзір танка Майсееў узяў кіраванне на сябе. Аднак часць сваю танкісты не шукалі і ў бой не спяшаліся. Больш за тое, Саўцоў вывеў са строю стартар. Нават калі памочнік камандзіра часці самастойна знайшоў гэты танк і замяніў стартар, экіпаж не спяшаўся на перадавую, а круціўся па тылах. І толькі 26 верасня (гэта значыць, праз 9 дзён пасля пераходу мяжы!) танк такі ўдалося прывесці ў часць.

Падобная гісторыя адбылася і з яшчэ адным танкам БТ-7, у якім таксама вывелі са строю стартар, каб танк не ўдзельнічаў у баях. Начальнік асобага аддзела брыгады Барысаў рапартаваў, што «танк знаходзіўся ў вёсцы, дзе згаданыя асобы елі яечні, мёд, сала, гародніну і анітрохі не спяшаліся вяртацца ў часць. Калі быў выяўлены гэты танк, камандзір танка Рогаўцаў заявіў: "Як шкада, што вы нас знайшлі, тут так добра жыць"». Па двух гэтых выпадках асобы аддзел пачаў расследаванне. ►

▶ Зрэшты, улічваючы атмасферу таго часу, нельга выключаць, што частку звычайных арганізацыйных «касякоў» энкавэдысты раздзімалі да ўзроўню выяўленага імі свядомага «шкодніцтва», каб атрымаць новыя зорачкі. Гэта быў іх хлеб.

## «Броня крепка, а танки наши быстры»

Пасля пераходу мяжы да ўсіх праблем дадаліся і баявыя страты, у тым ліку з-за стральбы па сваіх. З'явіліся выпадкі марадзёрства. Асобы аддзел не паспяваў фіксаваць усе антысавецкія выказванні салдат накшталт «Як тут добра! Не тое што ў СССР». Савецкія вайскоўцы ўсіх узроўняў скуплялі ў польскіх крамах увесь тавар, забівалі ім свае танкі, а таксама адпраўлялі дадому ў пасылках.

Што ж тычыцца ўдзелу ў баявых аперацыях, такіх, як, напрыклад, баі за Гродна, то большую частку часу брыгада... прастаяла без паліва. У бітву за Аўгустоў 21 верасня брыгада змагла дэлегаваць толькі 40 машын, сабраўшы іх па розных батальёнах. 50% танкаў брыгады ў гэты момант стаялі без бензіну ў раёне Ваўкавыска.

Пра страты, у пераважнай большасці не баявыя, сведчыць такая статыстыка: на 25 верасня 1939 года, калі 2-я танкавая брыгада знаходзілася ў раёне горада Саколка, па розных прычынах туды не прыйшла 81 машына. З іх было 52 (!) танкі БТ-7, адна бронемашына БА-10 і 29 колава-транспартных машын. Як мы бачым, брыгада без удзелу ў сур'ёзных баях засталася без 25% танкаў.

Несумненна, што баявы шлях адной брыгады — гэта ўсяго толькі фрагмент карціны. Але і ў такім выпадку вялізныя небаявыя страты (і людскія, і тэхнікі) паказваюць, што пры канцы 1939 года савецкая армія была зусім не гатовая да вайны. Як бы гучна ні спявалі песні па радыё пра «несокрушимую и легендарную», ні гразіліся закідаць ворага шапкамі і перамагчы яго на ягонай жа тэрыторыі.

Трэба было рабіць нейкія высновы, і яны, вядома, рабіліся. Але нешта кардынальна змяніць за паўтара года, якія заставаліся да пачатку новай вайны, было немагчыма. Галоўнае: рэпрэсіі выбілі з шэрагаў Чырвонай арміі ўсіх камандзіраў, здольных думаць самастойна, крытычна ставіцца да палітыкі партыі і яе правадыра. Арышты і разгалінаваная сетка даносчыкаў пасеялі страх і недавер. У выніку за гэта заплацілі жыццём мільёны людзей. ◆


БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ КІНАФОТАФОНАДАКУМЕНТАЎ

**Уступленне савецкай пяхоты** на тэрыторыю Заходняй Беларусі.

# Калі пачалася Другая сусветная вайна?

**Другая сусветная вайна пачалася не там, дзе яе пачатак вызначае еўрапейская гістарыяграфія, лічыць гісторык і публіцыст Анатоль Сідарэвіч. І не ў тым годзе.**

У 1919 годзе, калі быў падпісаны Версальскі мірны трактат, французскі маршал Фердынанд Фош сказаў, што падпісаная не мірная дамова, а замірэнне на дваццаць гадоў, бо за першай сусветнай вайной будзе другая. Пра гэта пісаў у 1920-м і наш Антон Луцкевіч, і ён жа прарочыў, што адноўленая польская дзяржава будзе расціснутая Нямеччынай і Расіяй. Ведалі пра гэта і бальшавікі. І не толькі ведалі, але і рыхтаваліся.

### Пакрыўджаная Японія

Адразу пасля заканчэння Першай сусветнай вайны так званыя вялікія дзяржавы, асабліва Францыя, самі сваімі паводзінамі падштурхоўвалі да новай вайны і Нямеччыну, і сваіх учарашніх саюзнікаў. Маю на ўвазе Італію, якую пакрыўдзілі пры новым падзеле свету — у прыватнасці, германскіх, аўстрыйскіх і турэцкіх уладанняў. А таксама Японію.

Еўраатлантычная цывілізацыя, калі стваралася Ліга Нацый, не пажадала ўключыць у яе статут пункт супраць расізму. Але Японіі, якая не хацела паўтарыць лёс каланіяльных і паўкаланіяльных краін Азіі, удалося ў пачатку XX стагоддзя давесці, што яна таксама вялікая дзяржава. Яна жадала, каб прынамсі жоўтая раса была афіцыйна прызнана гэткай жа паўнавартаснай, як і белая. Белая раса з гэтым не згадзілася. І японцы гэтага не забыліся. Так паступова нараджалася дактрына Вялікай усходнеазіяцкай «сферы росквіту» пад гегемоніяй Японіі і пад лозунгам «Азія для азіятаў».

Да канчатковага афармлення гэтай дактрыны Японію падштурхнулі ЗША сваім актам аб кантролі экспарту (26 ліпеня 1941 года). Па сутнасці, Злучаныя Штаты абвясцілі Японскай імперыі вайну, бо гэтым актам быў забаронены экспарт нафты і нафтапрадуктаў у Японію і яе заморскія ўладанні не толькі са Штатаў, але і з трэціх краін. Кантроль за экспартам нафты трэцімі краінамі ўсклалі на ваенна-марскі флот ЗША. Амерыканскія войскі на Гаваях прывялі ў баявую гатоўнасць, філіпінскую нацыянальную гвардыю перадалі пад амерыканскі кантроль, японскія авуары ў банках ЗША замарозілі. Ці гэта ўсё разам узятае не абвяшчэнне вайны? І ці здарыўся б Пёрл-Харбар (7 снежня 1941 года), калі б не акт 26 ліпеня?

### Вайну пачала Італія, а працягнула Японія

Першай вайну за новы перадзел свету (імперыялістычную ▶


WIKIMEDIA COMMONS

**Італьянска-эфіопская вайна 1935–1936 гадоў**, выяўленая невядомым эфіопскім мастаком. З фондаў Брытанскага музея.




**Японскія войскі ўваходзяць у Пекін. 28 ліпеня 1937 года.**
Іх вітаюць прадстаўнікі мясцовай японскай меншасці.

▸ вайну) пачала Італія. Праўда, забіраць калоніі ў Брытаніі і Францыі, Партугаліі і Іспаніі яна не адважылася. Але яшчэ ў XIX стагоддзі (у выніку 1-й італа-эфіопскай вайны) італьянцы ўзялі пад кантроль Эрытрэю, якой не даспадобы было эфіопскае панаванне, і частку Самалі. 13 кастрычніка 1935-га з дапамогай эрытрэйцаў і самалійцаў Італія развязала 2-ю вайну з Эфіопіяй. Імператар Хайле Селасіе мусіў уцячы за мяжу. Пазней, карыстаючыся з таго, што ў самой Еўропе разгарэлася вайна за жыццёвую прастору, італьянцы ўварваліся і ў Брытанскае Самалі.

Губляць свае ўладанні Брытанія, натуральна, не хацела. У 1940-м яна стала саюзніцай Эфіопіі, і з яе дапамогай Хайле Селасіе вярнуўся на радзіму ды ўзначаліў барацьбу за вызваленне Абісініі ад італьянцаў. Супольныя брытана-абісінскія дзеянні прывялі да аднаўлення незалежнасці Эфіопіі ўжо ў траўні 1941-га.

Як бачым, ваенна-палітычная кампанія, распачатая Італіяй у 1935-м, была прадоўжана і завяршылася ўжо ў той час, які еўрапейцы ды амерыканцы лічаць часам Другой сусветнай вайны. Адначасова з Заходнім фронтам з'явіліся Італьянскі і Усходнеафрыканскі франты. Калі ваенныя падзеі на Усходнеафыканскім фронце завяршыліся ў лістападзе 1941-га, то ваяваць з італьянскімі фашыстамі на поўначы Афрыкі, на Сіцыліі, Сардзініі і Апенінскім паўвостраве саюзнікам давядзецца аж да 2 мая 1945-га.

Падобнае адбылося і ва Усходняй Азіі. Вайна пачалася тут яшчэ 7 ліпеня 1937 года, калі Японія напала на Кітай. І раней паміж кітайцамі і японцамі адбываліся сутычкі, але цяпер разгарэлася поўнамаштабная вайна. Гэтая 2-я японa-кітайская вайна (першая адбылася ў 1890-я гады) доўжылася восем гадоў — да верасня 1945 года. Яна папярэднічала ваенным падзеям у Еўропе і працягвалася пасля іх. Ужо гэта дае права сцвярджаць, што Другая сусветная вайна пачалася задоўга да 1 верасня 1939-га.

### Абсяг даверасьнёўскай вайны

Да 1 верасня 1939 года ў сусветную вайну былі ўцягнутыя Італія, Эфіопія, Японія, Кітай, Савецкі Саюз, Манголія (праўда, нікім тады не прызнаная, апрача СССР)...

Так, і Савецкі Саюз з Манголіяй. Я маю на ўвазе падзеі ля возера Хасан (ліпень – жнівень 1938 года) і ля ракі Халхін-Гол (май – верасень 1939-га). Далёкаўсходні фронт Савецкага Саюза сфарміраваўся яшчэ ў чэрвені 1938-га.

**Першай вайну за новы перадзел свету пачала Італія**

Апошнім часам робяцца спробы зірнуць на падзеі ля Хасана і ракі Халхін-Гол па-новаму. Так, зусім нядаўна, улетку 2019-га, расійскія гісторыкі Уладзімір Воранаў і Аляксандр Крушальніцкі надрукавалі на гэтую тэму цэлы цыкл артыкулаў на сайце расійскай рэдакцыі радыё «Свабода». Асноўная выснова

іх такая: «Да мая 1939 года Еўропа была гатовая разрадзіцца вялікай вайной, а на Далёкім Усходзе [вайна ўжо] палала, хоць не гэтак ярка і горача: японцы загрузлі ў Кітаі, але і кітайцы сталі выдыхацца. Сталін не мог дапусціць ні перамогі Японіі ў Кітаі, ні замірэння з ёю кітайцаў — з далейшым разваротам да СССР ужо не адной толькі Квантунскай арміі, але і ўсёй японскай армады, якая магла б выкарыстаць не толькі манчжурскі плацдарм, але ўжо і ўвесь Кітай з яго рэсурсамі, у тым ліку з невычарпальным чалавечым. Адсюль і задача — не даць японцам магчымасці разграміць Кітай, не дапусціўшы выхаду з вайны самога Чан Кайшы».

Утрымаць Японію і Кітайскую Рэспубліку ў стане вайны Сталіну было патрэбна перш-наперш таму, што ўжо ўвесну 1939-га ён меў свой план наконт Нямеччыны і ўсёй Еўропы. Скаваная ў Кітаі, Японія не магла ўдарыць з усходу, з тылу.

Баі на Халхін-Голе папярэднічалі ваенным падзеям у Еўропе і скончыліся пасля нападу Нямеччыны на Польшчу. То ці можна і іх выкрэсліваць з гісторыі Другой сусветнай вайны?

## Сталін меў рацыю

У сакавіку 1939 года савецкі дыктатар Іосіф Сталін выступіў са справаздачным дакладам на XVIII з'ездзе Усесаюзнай камуністычнай партыі (бальшавікоў). Першая частка даклада мела загаловак «Міжнароднае становішча Савецкага Саюза», а першы яе раздзел заканчваўся двума кароткімі абзацамі: «Так стаў складвацца блок трох агрэсіўных дзяржаў.



**Японская Квантунская армія** ў мангольскіх стэпах. Ліпень 1939 года.

WIKIMEDIA COMMONS

На чарзе паўстала пытанне аб новым падзеле свету з дапамогай вайны».

Другі раздзел меў загаловак «Абвастрэнне міжнароднага палітычнага становішча, крушэнне паваеннай сістэмы мірных дагавораў, пачатак новай імперыялістычнай вайны». Пачынаецца гэты раздзел са сказа: «Вось пералік важных падзей за справаздачны перыяд, якія паклалі пачатак новай імперыялістычнай вайне». І далей ішоў гэты пералік: напад Італіі на Абісінію і захоп яе; ваенная інтэрвенцыя Германіі і Італіі ў Іспаніі, замацаванне Германіі ў Паўночнай Іспаніі і іспанскім Марока, замацаванне Італіі ў Іспаніі і на Балеарскіх астравах; уварванне ў 1937 годзе Японіі ў Паўночны і Цэнтральны Кітай, захоп Кантона (1938) і вострава Хайнань (1939). Згадваліся таксама аншлюс Аўстрыі і захоп Судэцкай вобласці Чэхаславакіі.

Пералічыўшы ўсе гэтыя гістарычныя факты, Сталін рабіў выснову: «Такім чынам, вайна... уцягнула ў сваю арбіту больш за 500 мільёнаў насельніцтва, распаўсюдзіўшы сферу свайго дзеяння на агромністую тэрыторыю ад Цяньцзіня, Шанхая і Кантона праз Абісінію да Гібралтара». І праз абзац: «Новая імперыялістычная вайна стала фактам».

Гэтыя словы, нагадаю, прамоўленыя амаль за 6 месяцаў да нападу Нямеччыны на Польшчу 1 верасня 1939 года, якія з еўропацэнтрычнага (еўраатлантычнага) гледзішча лічыцца пачаткам Другой сусветнай вайны. Але калі глядзець на падзеі таго часу шырэй, то трэба ўсё ж пагадзіцца з генеральным сакратаром бальшавіцкай партыі: імперыялістычная, або Другая сусветная, вайна пачалася значна раней — у Эфіопіі.

Сталін ведаў, пра што казаў. Бо ён сам быў адным з падпальшчыкаў Другой сусветнай вайны і нават меў наконт гэтага адмысловую тэорыю. Але пра яе калі-небудзь іншым разам. ◆

Падзабыты герой Андрэй Вусаў

# Рэкорд танкіста-беларуса дагэтуль неператузыдзены

**Як адзін савецкі танк знішчыў 22 нямецкія. Піша ваенны гісторык Віталь Чырвінскі.**

20 жніўня 1941 года падчас абарончых баёў пад Ленінградам у раёне транспартнага вузла Войскавіцы — Чырвонагвардзейск адбыўся кароткі, але вельмі выніковы бой. Экіпаж савецкага танка КВ-1 знішчыў дваццаць два танкі, а таксама некалькі бронетранспарцёраў, супрацьтанкавых гармат і матацыклаў праціўніка. Для савецкіх танкістаў гэта быў фантастычны бой, тым больш у самым пачатку вайны. Ён прынёс славу нашаму земляку, камандзіру гарматы старшаму сяржанту Андрэю Вусаву. Той за 30 хвілін, нібы ў ціры, знішчыў цэлую калону, трапна накіроўваючы ў цэль адзін за адным бранябойныя снарады сваёй 76-міліметровай танкавай гарматы Л-11.

«Артылерыст Вусаў працаваў на славу. Вось загарэлася адна, другая, трэцяя машыны. Вось пачуўся выбух — і чатыры машыны паляцелі пад абрыў. Абліваючыся потам, Вусаў усё страляў і страляў…» — напісаў пра гэту падзею спецыяльны карэспандэнт газеты «Известия» (№ 200, 24 жніўня 1941 года).



**Савецкі цяжкі танк КВ-1**, названы ў гонар Клімента Варашылава.

### Бой

Не меншая заслуга ў той перамозе належала ўсяму экіпажу танка, а перадусім — яго камандзіру старшаму лейтэнанту Зіновію Калабанаву.

Менавіта Калабанаў выбраў удалае месца для засады. Танк быў схаваны ў капаніры на ўзгорку, насупраць выгіну насыпной дарогі над балотам. Калі калона з двух дзясяткаў лёгкіх нямецкіх танкаў выцягнулася ўздоўж дарогі, Калабанаў вытрымаў паўзу і аддаў загад камандзіру гарматы Вусаву адкрыць агонь.

Андрэй Вусаў падбіў першыя і апошнія машыны, затым перанёс агонь у цэнтр калоны. На вузкай дарозе ўтварылася цісканіна: замкнутыя спераду і ззаду нямецкія бронемашыны натыкаліся адна на адну, з'язджалі на абочыну, дзе гразлі ў балоце. У некаторых падпаленых танках выбухнуў боезапас.

Немцы агрызаліся. У савецкі танк падчас бою трапіла больш за сотню варожых снарадаў. Браня вытрымала, бо снарады лёгкіх нямецкіх танкаў (хутчэй за ўсё, гэта былі захопленыя ў чэхаў Pz.Kpfw.35(t) з 50-мм гарматамі на ўзбраенні) на такой адлегласці не маглі прабіць лабавую браню КВ-1, таму адскоквалі, вырываючы сталёвыя кавалкі. Экіпаж, глухнучы ад разрываў і задыхаючыся ад парахавых газаў, працягваў бой. Па ўспамінах Андрэя Вусава, які выпусціў па




**Танкавы экіпаж Зіновія Калабанава** пасля бою пад Войскавіцамі, жнівень 1941 года. Андрэй Вусаў крайні злева.




**Схема бою пад Войскавіцамі.** Рысунак-рэканструкцыя Антона Чырвінскага.

ворагу амаль два боекамплекты бранябойных снарадаў, да распаленай танкавай гарматы немагчыма было дакрануцца, ад яе нават адпластавалася фарба.

### Па заслугах

За гэты бой камандаванне палка падпісала прадстаўленне ўсіх членаў экіпажа на прысваенне звання Героя Савецкага Саюза. Але ў штабе Ленінградскага фронту вырашылі інакш. Узнагароды былі размеркаваныя згодна з асабістым укладам. Ордэн Леніна (самы прэстыжны пасля Залатой Зоркі Героя Савецкага Саюза) уручылі Андрэю Вусаву. Ордэнам Чырвонага Сцяга ўзнагародзілі Зіновія Калабанава і старшага механіка-вадзіцеля старшыну Мікалая Нікіфарава. Ордэн Чырвонай Зоркі атрымалі малодшы механік-вадзіцель Мікалай Роднікаў і стралок-радыст старшы сяржант Павел Кісялькоў.

### Лёсы

Лёсы Вусава і Калабанава ў ваенны час разышліся. Зіновій Калабанаў праз месяц пасля бою пад Войскавіцамі быў цяжка паранены (аскепкавае паражэнне галавы і хрыбта, кантузія галаўнога і спіннога мозгу) і да канца вайны праляжаў у шпіталі. А Андрэй Вусаў працягваў ваяваць. Біўся пад Псковам і Нарвай, змагаўся пад Рыгай, браў Кёнігсберг. Быў тройчы паранены, гарэў у танку. Завяршыў вайну ў званні гвардыі старшага лейтэнанта. Пасля вайны Вусаў вярнуўся ў Талачын, а Калабанаў выйшаў на пенсію падчас службы ў Беларускай вайсковай акрузе і застаўся жыць у Мінску. Больш за 20 гадоў адпрацаваў на МАЗе ў аддзеле тэхнічнага кантролю. Баявыя сябры неаднойчы сустракаліся, наведвалі месца таго легендарнага бою, выступалі перад школьнікамі, але сапраўдную вядомасць і славу атрымалі толькі пасля смерці.

### Равеснік рэвалюцыі

За савецкім часам, пішучы пра такіх людзей, журналісты нярэдка ўжывалі штамп «равеснік рэвалюцыі». Але тут ён пасуе: будучы танкавы ас Андрэй Вусаў нарадзіўся ў беднай сялянскай сям'і ў адзін з апошніх дзён ▶




**Танкіст Андрэй Вусаў**, 1945 год. Гэты франтавы фотаздымак танкавага аса Андрэя Вусава набыў вялікую папулярнасць у інтэрнэце. Некаторыя публіцысты з-за падабенства твараў нават «узнагародзілі» нашага героя мянушкай «двайнік Пуціна». Але на фота проста выпадковы ракурс. Насамрэч, тыпаж беларуса зусім іншы. Андрэй Вусаў быў высокім, шыракаплечым і меў рэзкія рысы твару з вялікімі падпухлымі вачыма.

WIKIMEDIA COMMONS

рэвалюцыйнага кастрычніка 1917 года. Яго родная вёска Барсукі тады ўваходзіла ў склад Магілёўскай губерні, але ў 1919 годзе была перададзена ў Дубровенскі раён Віцебскай вобласці.

У пачатку 1930-х Вусаў вывучыўся на трактарыста, працаваў у калгасе, затым на электрастанцыі «Белгрэс». У верасні 1938 года прызваны ў армію, служыў у артылерыйскім палку. Падчас савецка-фінляндскай вайны ваяваў на Карэльскім перашыйку. Быў паранены. Пасля скончыў спецшколу камандзіраў гармат цяжкіх танкаў. Служыў у Нара-Фамінску пад Масквой, затым пад Ленінградам. Напад гітлераўскай Германіі на Савецкі Саюз старшы сяржант Андрэй Вусаў сустрэў камандзірам гарматы танка КВ-1 танкавай роты 1-га танкавага палка 1-й танкавай дывізіі Ленінградскага фронту...

Пасля вайны вярнуўся на Дубровеншчыну. Працаваў на МТС (для неабазнанага сучаснага чытача — гэта не аператар сотавай сувязі, а абрэвіятура машынна-трактарнай станцыі). Потым — вучоба ў Мінскай вышэйшай партыйнай школе і пасада другога сакратара Талачынскага райкама партыі, якую займаў толькі два гады — сышоў па здароўі. Да пенсіі працаваў дырэктарам Талачынскай нафтабазы.

Па ўспамінах яго нявесткі Ганны Міхайлаўны, якая жыла побач з Андрэем Вусавым у адной кватэры, а таксама не адзін год працавала пад яго кіраўніцтвам на Талачынскай нафтабазе (дзе і сустрэла будучага мужа), Андрэй Міхайлавіч быў «надта чэсным чалавекам, не хапугам, у дзяржаўную кішэню ніколі не запускаў лапу».

Вусаў памёр у 1986 годзе і пахаваны на талачынскіх могілках побач з жонкай. У Талачыне жыве яго адзіны ўнук Андрэй, які працуе на чыгуначнай станцыі ў Крупках. Падрастае праўнук Ягор Вусаў, якому зараз 9 гадоў.

У 2015 годзе імя Андрэя Вусава як героя абароны Ленінграда было запісана ў «Залатую кнігу Санкт-Пецярбурга». Шматкілаграмовы фаліянт адмыслова для гэтага прывозілі ў Беларусь.

**Калабанаў і Беларусь**

Зіновій Калабанаў, родам з Ніжагародскай губерні, пасля вайны, нягледзячы на цяжкае раненне, зноў вярнуўся ў армію. Служыў у Германіі, затым у Беларускай вайсковай акрузе. Пасля звальнення застаўся ў Мінску. У 1967 годзе атрымаў

**Сёння пра Калабанава ведаюць мільёны аматараў камп'ютарнай анлайн-гульні World of Tanks, створанай, дарэчы, беларусамі. Адна з самых жаданых узнагарод там — віртуальны «Медаль Калабанава»**

кватэру ў пяціпавярховай панэльцы на вуліцы Ташкенцкая. Цяпер на сцяне гэтага дома, каля лядовага палаца «Чыжоўка-арэна», вісіць мемарыяльная шыльда з барэльефам, прысвечаная подзвігу экіпажа Калабанава. У 1994 годзе Калабанаў зусім незаўважна для грамадскасці сышоў з жыцця. Быў пахаваны на Чыжоўскіх могілках побач з жонкай. Цікавасць да яго асобы вярнулася праз гады.

Сёння пра Калабанава ведаюць мільёны аматараў сусветна вядомай камп'ютарнай анлайн-гульні *World of Tanks*, створанай, дарэчы, беларусамі. Гульцу, які застаўся ў баі без падтрымкі, неабходна знішчыць пяць ці болей танкаў праціўніка. За гэта ён атрымлівае адну з самых жаданых узнагарод — віртуальны «Медаль Калабанава». На жаль, гэтай агромністай аўдыторыі мала вядома імя беларуса Андрэя Вусава — унікальнага танкавага снайпера, які і страляў з таго самага танка Калабанава. ◆


SB.BY

**Андрэй Вусаў (сядзіць) і Зіновій Калабанаў** на месцы легендарнага танкавага бою пад Войскавіцамі. 1984 год.

**«Ой, навошта вам гэта ведаць! Не дай Бог вам гэтага! Не хачу нават казаць!»**

**Гісторыю сям'і, знішчанай падчас калектывізацыі, аднавіла кандыдатка гістарычных навук Вольга Іванова.**

# Гадамі хавалася ў лясах, каб ізноў не саслалі



**Жонка Юльяна, Франя Ранчынская, з нявесткай Марыляй (жонкай Тамаша) і ўнукам Тамашом.** 1920-я гады.

### «Цётка такая красівая была, што ў чэсць яе мяне і назвалі»

Вёска Ліпляны знаходзіцца ў самай глушы ўсходняга Палесся на рацэ Убарць, за 4 кіламетры ад Лельчыц. Карэнныя насельнікі вёскі спрадвеку праваслаўныя, нягледзячы на тое, што яе ўладальнікамі на працягу 400 гадоў, да канца XVIII стагоддзя, былі віленскія біскупы. У 1874-м Лельчыцкі маёнтак набыў палкоўнік расійскага войска, уладальнік літоўскай Палангі Юзаф Тышкевіч. Гэта было выключнай падзеяй, бо пасля паўстання асобам «польскага паходжання» (а на справе — усім каталікам) забаранялася набыццё земляў у заходніх губернях. Відаць, для

Тышкевіча зрабіў выключэнне сам імператар.

Пасля смерці бацькі маёнткі ўспадкаваў ягоны сын Фелікс. Пры ім на бедных пясчаніках вакол Лельчыц сталі сяліцца малазямельныя польскія сяляне з прозвішчамі Хамутоўскі, Неўмяржыцкі, Зелязінскі, Цалка, Бароўскі, Рагажынскі, Таргонскі...

Тады ж і ў Ліплянах з'явілася каталіцкая сям'я Ранчынскіх — Юльян з жонкай Франяй і дзецьмі. Ранчынскіх празвалі «меляхамі» — млынарамі. Юльян з сынамі пабудаваў вадзяны млын, першая згадка пра які адносіцца да 1897 года. Цяпер ад яго засталіся толькі па́лі.

Юльянава ўнучка Адэля, 1926 года нараджэння, цяпер жыве ў Салігорску, праўнукі Георгій і Алена Казачэнкі — у Мінску. Адэля Ранчынская ўспамінае: «Іх была вялікая сям'я. Было чатыры хлопцы і чатыры дзеўкі ў самога дзеда. Майго бацьку звалі Юзік, брат быў Ян, Томаш і Адам. Чатыры сыны. Дочкі то я так не назаву. Толькі адну звалі так, як мяне, Адэля. Тая цётка, бацькава сястра, была сільна красівая. Такая красівая была, што ў чэсць яе і назвалі».

Прыезд Ранчынскіх з Польшчы — толькі адна з версій. Ёсць сведчанні, што яны на мяжы XIX і XX стагоддзяў перабраліся ў Ліпляны з недалёкага Давыд-Гарадка. Як бы там ні было, Ранчынскія былі носьбітамі польскай культуры і цвёрда трымаліся традыцыі. Старэйшыя людзі ва ўспамінах вызначаюць палякаў як людзей, якія лепш апраналіся, мелі больш дагледжаныя, вялікія і заможныя гаспадаркі, урачысцей адзначалі рэлігійныя святы.



**Юльян Ранчынскі**, млынар вёскі Ліпляны. 1920-я гады.

### «Іх была вялікая сям'я»

Юльян і Франя мелі чатырох сыноў — Яна, Юзафа, Тамаша, Адама — і чатырох дачок — Тэклю, Мальвіну, Адэлю і Юзэфу.

Да канца 1920-х гадоў, калі савецкая ўлада распачала ў Ліплянах калектывізацыю, дзве дачкі Ранчынскіх жылі за мяжой: Адэля выехала з мужам у Гданьск, там ужо жыла яе старэйшая сястра Мальвіна. Астатнія жылі ў роднай вёсцы. Старэйшыя ўжо мелі свае хаты, а малодшыя яшчэ жылі з бацькамі.

Маючы такую вялікую сям'ю, Ранчынскія давалі рады сваёй немалой гаспадарцы ды млыну.

**Георгій Казачэнка, праўнук Юльяна Ранчынскага:**

«Пра майго дзеда Яна [старэйшы сын Юльяна] казалі вельмі добра. Што ён быў выдатны работнік, ва ўсім разбіраўся. Касіў добра. І стагі сена складаў. Усе дочкі Юльяна Ранчынскага былі такія прыгожыя, прычоскі ў іх былі, у строях. Калі яны выходзілі, то ліплянцы хадзілі глядзець на іх».

### «Прыехалі чужыя дый забралі»

Раскулачванне ў Лельчыцкім раёне пачалі праводзіць са студзеня 1929 года. У Ліплянах сям'ю Ранчынскіх аднеслі да кулакоў найперш. Юльян плаціў у казну падатак 440 рублёў з вялікай сям'і, і гэта стала падставай для раскулачвання. Вось як згадвае тыя падзеі Адэля, якой тады было ўсяго тры гады: «Маці казала, што як раскулачылі, то прыйшлі высяляць. А я ўзяла рэшата малое, па хаце хаджу з гэтым рэшатам, да кажу: "Прыйшлі выкідаць кулакоў з хаты!"».

Ліплянцы спачувалі «меляхам». Алена Казачэнка ўспамінала са словаў маці, што, «калі іх рэпрэсавалі, пасадзілі на падводы, людзі ішлі і плакалі. Іх любілі ў вёсцы. А прыехалі чужыя дый забралі».

## Старыя памерлі ў цягніку, іх целы выкінулі па дарозе

Забралі адразу чатырох Юльянавых сыноў. Больш іх ніхто не бачыў. Кажуць толькі, што Адам нібыта праз некалькі гадоў на кароткі час прыехаў, але потым з'ехаў на залатыя прыіскі.

Сем'і Яна і Тамаша, дачку Тэклю, а таксама старых Юльяна і Франю, якім было ўжо пад восемдзесят, адправілі ў Пермскі край, а сям'ю Юзафа — у паўночны Котлас. Старыя памерлі ў цягніку, іх целы выкінулі па дарозе. ▶

## Цяжкое вяртанне

Праўда, прабылі высланыя ў тых суровых мясцінах нядоўга. Па Марылю і Ганну прыехалі браты, і жанчынам нейкім дзівам удалося адтуль уцячы. Хоць вяртацца не было куды. Тры дамы Ранчынскіх, гумно, хлеў, пяць кароў, двух коней, двух валоў, свіней і авечак канфіскаваў калгас. У адным з дамоў зрабілі школу, у другім — калгасную кантору, у трэці засяліліся шматдзетныя аднавяскоўцы.

Расказвае ўнучка Марылі: «Бабуля вярнулася ў Ліпляны, хавалася ў лясах некалькі першых гадоў, каб ізноў не саслалі. Дзяцей раздала па сваяках». Пасля ёй пашчасціла ўладкавацца даяркай і атрымаць пакой. Жыла ў сваёй жа хаце разам з чужымі людзьмі.

Другая нявестка «меляха» Юльяна, Ганна, адразу пасля вяртання пераехала да сястры ў Мазырскі раён і выйшла замуж паўторна. Усе кантакты і з Ранчынскімі, і з Ліплянамі яна перарвала.



**Юзэфа Ранчынская з мужам, ліплянскім настаўнікам Нягрэем Кучынскім.** 1920-я гады.



**Станіслава Янаўна Ранчынская з вучнямі.** 1960-я гады.

## Загадка самагубства

Таямнічым аказаўся лёс Юзэфы, малодшай дачкі. Па адной версіі, яна, не вытрымаўшы цкавання, застрэлілася, па другой — загінула пры спробе арышту. Паводле сямейнай легенды, калі іх з мужам прыйшлі арыштоўваць, яны паспрабавалі ўцячы на лодцы, энкавэдысты за імі пагналіся і застрэлілі.

Цалкам верагодна, што версію пра самагубства прыдумалі ўлады, каб не дапусціць антысавецкіх выступленняў. У гэты час у раёне ўжо дзейнічалі некалькі ўзброеных атрадаў з вяскоўцаў, якія сышлі ў лясы і балоты ад раскулачвання.

Тым больш што зусім няма сведчанняў пра канфлікты паміж сям'ёй млынара і ліплянцамі, пра цкаванні, якія маглі давесці да самагубства. Нават у афіцыйных дакументах адзначалася, што вяскоўцы «пасіўна ўдзельнічаюць у кампаніях па раскулачванні, плачуць па кулаках і адмаўляюцца прымаць у калгас іх маёмасць».

## «Пражылі пад страхам усю жызнь»

Тыя Ранчынскія, якія вярнуліся ў вёску, захавалі прыхільнасць вяскоўцаў. Дочкі Марылі былі зайздроснымі нявестамі. Адна з іх, Станіслава, стала настаўніцай, пра якую часта згадваюць былыя вучні. Пасля вайны яна выйшла замуж за ліплянца Васіля Казачэнку, будучага дырэктара школы. Але нават пасля замужжа, пратэстуючы супраць несправядлівасці ў дачыненні да бацькоўскай сям'і, яна прынцыпова пакінула сваё дзявочае прозвішча, катэгарычна адмаўлялася хадзіць на выбары. Аднак і расказваць дзецям сямейную гісторыю не любіла і не хацела: «Ой, навошта вам гэта ведаць! Не дай Бог вам гэтага! Не хачу нават казаць!» Тыя падзеі пасялілі нават у гэтых моцных людзях вялікі страх, які застаўся на ўсё жыццё. ◆

Гісторыя сям'і Ранчынскіх увайшла ў кнігу Вольгі Івановай «Ліпляны. Біяграфія і штодзённасць беларускай вёскі», якая выйдзе ў свет увосень 2019 года.

СТЫПЕНДЫЯЛЬНАЯ ПРАГРАМА

# GAUDE POLONIA

## СТЫПЕНДЫЯЛЬНАЯ ПРАГРАМА МІНІСТРА КУЛЬТУРЫ І НАЦЫЯНАЛЬНАЙ СПАДЧЫНЫ РЭСПУБЛІКІ ПОЛЬШЧА GAUDE POLONIA

Нацыянальны цэнтр культуры ў Варшаве аб'яўляе набор на XIX конкурс (на 2020 год) стыпендыяльнай праграмы міністра культуры і нацыянальнай спадчыны Рэспублікі Польшча **Gaude Polonia**.

Праграма Gaude Polonia прызначана для маладых творцаў і перакладчыкаў з краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, у першую чаргу з Беларусі і Украіны.

Стыпендыяльнае знаходжанне ў Польшчы пачнецца 1 лютага і будзе доўжыцца да 31 ліпеня 2020 года. Набор удзельнікаў ажыццяўляецца на конкурснай аснове. Кандыдаты павінны валодаць польскай мовай на базавым узроўні.

**Заяўкі прымаюцца да 15 кастрычніка 2019 года.**

**Неабходныя дакументы:**
- заяўка на атрыманне стыпендыі;
- мінімум 2 рэкамендацыі ад вядомых у абранай галіне дзейнасці творцаў;
- партфоліа ў папяровым ці электронным выглядзе CD/DVD.

Заяву на ўдзел можна падаць праз **Польскі інстытут у Мінску** (Мінск, вул. Валадарскага, 6) або непасрэдна ў **Нацыянальны цэнтр культуры ў Варшаве** (01-231 Варшава, вул. Плоцка, 13).

Падрабязная інфармацыя аб праграме, умовах удзелу і бланкі анкет на старонцы:
**https://www.nck.pl/dotacje-i-stypendia/stypendia/programy/gaude-polonia/dokumenty.**

Дадатковую інфармацыю можна атрымаць
у Нацыянальным цэнтры культуры ў Варшаве (тэл. +4822 3509530, e-mail: bberdychowska@nck.pl),
а таксама ў Польскім інстытуце ў Мінску (тэл. +37517 2006378, 2009581).



Gaude Polonia

Ministerstwo Kultury i Dziedzictwa Narodowego.

NARODOWE CENTRUM KULTURY

Польскі Інстытут Мінск 25 год

# Ашуканыя

## Беларусы з Францыі ехалі ў «сталінскі рай», а трапілі ў пастку

**У 1920–1930-я гады тысячы заходніх беларусаў у пошуку заробку выехалі на працу ў Францыю. Там яны перажылі вайну, а пасля яе сутыкнуліся з заманлівай прапановай — прыняць грамадзянства СССР і «вярнуцца на радзіму». Знайшлося нямала такіх, якія на яе клюнулі, не ведаючы, што іх чакаюць рэпрэсіі, голад і забарона вярнуцца назад. Піша Валер Каліноўскі.**




З АРХІВА АЛЕНЫ КРУПЫ

**Святкаванне ў Францыі 28-х угодкаў Кастрычніцкай рэвалюцыі.** 1945 год.

### Лячыць вялікую рану

У міжваенны час адным з папулярных кірункаў працоўнай эміграцыі з Польшчы, грамадзянамі якой з'яўляліся тады мільёны беларусаў, была Францыя. Масавыя выезды туды пачаліся з пагаднення паміж урадамі дзвюх краін аб эміграцыі, падпісанага 100 гадоў таму, 3 верасня 1919 года.

Прычыны гэтага пагаднення былі прагматычныя. Пасля Першай сусветнай вайны заводам, фермам і шахтам Францыі патрэбна была дадатковая працоўная сіла. Замежныя работнікі былі патрэбныя французам, каб замяніць 1,5 мільёна забітых і 1,5 мільёна параненых (з іх 300 тысяч страцілі працаздольнасць) у Першай сусветнай вайне. Да таго ж,

пасля вайны Францыя атрымала ад пераможанай Германіі новыя тэрыторыі (у тым ліку індустрыяльныя раёны Эльзаса і Латарынгіі), а там таксама востра бракавала рабочых.

Усё гэта стварыла дэфіцыт 3,5 мільёна працоўных рук, які парыжская газета «Le Journal» назвала «вялікай ранай Францыі». У палякаў жа, наадварот, працоўнай сілы было аж занадта: на вёсцы панаваў зямельны голад, а ў гарадах — беспрацоўе. Заахвочванне працоўнай эміграцыі было адным са шляхоў вырашэння гэтых праблем.

### Лік на дзясяткі тысяч

Паводле французскіх звестак, у 1931 годзе польскіх рабочых у Францыі было 507 тысяч чалавек, а да 1939-га колькасць працоўных імігрантаў з Польшчы ўзрасла да 674 тысяч чалавек. Доля рабочых з Польшчы ў французскіх жалезарудных і вугальных шахтах Францыі даходзіла да 20 %.

Колькі сярод гэтых рабочых было беларусаў, дакладна сказаць складана: французская статыстыка не асабліва ўнікала, адкуль менавіта прыехаў да іх чалавек. Вядома, што найбольш ехалі ў Францыю ўсё ж не з усходніх, а з паўднёвых ваяводстваў Польшчы — з Катавіцаў, Кракава і Львова.

Беларускія эміграцыйныя выданні таго часу ацэньвалі колькасць рабочых з Беларусі ў Францыі у 30–60 тысяч чалавек. Ацэнкі гэтыя, відаць, значна завышаныя. Сучасныя даследчыкі лічаць, што беларускіх працоўных эмігрантаў было ў Францыі «толькі» каля 20 тысяч.

### Цаніліся людзі з мазалямі

Тагачасныя ўмовы вярбоўкі для працы ў Францыі былі для цяперашніх часоў нязвыклыя.




**Білет Французскай камуністычнай партыі** на імя беларуса Аляксандра Качана. 1945 год.

Пры адборы ў патэнцыйных рабочых правяралі зубы і рукі. Зубы мусілі былі здаровыя, а рукі — мазолістыя. Апошняе лепш за што іншае сведчыла пра здольнасць чалавека да цяжкай фізічнай працы.

**Пры адборы ў патэнцыйных рабочых правяралі зубы і рукі**

Умовы працы былі складанымі, тым больш што эмігранты з Польшчы, як правіла, не гаварылі па-французску, а часта ўвогуле былі непісьменнымі. Фіксаваліся шматлікія выпадкі дыскрымінацыі польскіх імігрантаў французскімі гаспадарамі, ксенафобіі з боку мясцовага насельніцтва.

Многія беларусы ў Францыі працавалі ў сельскай гаспадарцы, уладкоўваліся на вінаграднікі ці цукровыя заводы, былі асабліва запатрабаваныя падчас палявых работ. А яшчэ сярод іх было шмат шахцёраў. У дакументальных кадрах французскіх фільмаў можна пабачыць на фоне тэрыконаў цэлыя вуліцы аднолькавых аднaці двухпавярховых дамоў, у якія сялілі шахцёраў з міжваеннай Польшчы.

У такіх дамах у імігрантаў нараджаліся дзеці. Яны нават пры моцнай нацыянальнай свядомасці іхных бацькоў цалкам адаптаваліся да жыцця ў новай краіне, «афранцужваліся», здабывалі правы на французскае грамадзянства. Тым больш што ў 1927 годзе ў Францыі выйшаў закон, які спрашчаў яго атрыманне. Для большасці іміграцкіх дзяцей Францыя была ўжо радзімай. ▸

## Актывізацыя камуністаў

Натуральны бег жыцця перарвала Другая сусветная вайна, якую іміграНТЫ збольшага перажылі на месцы. А пасля Другой сусветнай вайны ў Францыі ўзмацнілася савецкая і камуністычная прапаганда. Імідж СССР як краіны-пераможцы ў вачах французаў вырас, як і папулярнасць камуністычнай партыі. На першых пасляваенных выбарах у парламент у кастрычніку 1945 года Французская камуністычная партыя атрымала першае месца: за яе прагаласавала 5 мільёнаў французаў — 26 % выбарцаў. Кіраўнік КПФ Марыс Тарэз нават стаў міністрам.

Такія палітычныя абставіны давалі СССР магчымасць актыўна ўмешвацца ва ўнутраныя справы Францыі. І ён скарыстоўваў яе для таго, каб паляваць на людскія душы.

## «Абавязковая рэпатрыяцыя»

У гады вайны з Савецкага Саюза ў Еўропу былі перамешчаныя мільёны яго грамадзян: ваеннапалонных, остарбайтараў, перамешчаных асобаў, уцекачоў. І савецкае кіраўніцтва на чале з Іосіфам Сталіным было цвёрда настроенае вярнуць іх назад. На канферэнцыі ў Ялце 10–11 лютага 1945 года Сталін асабіста дамовіўся з прэзідэнтам ЗША Франклінам Дэлана Рузвельтам і прэм’ерам Вялікабрытаніі Уінстанам Чэрчылем пра выдачу і рэпатрыяцыю савецкіх грамадзян. У гэтых дамовах быў запісаны прынцып «узаемнай абавязковай рэпатрыяцыі».

Праз некалькі месяцаў, 26 чэрвеня 1945 года, аналагічная дамова, аб рэпатрыяцыі савецкіх грамадзян з Францыі і французскіх — з СССР, была заключана і з Францыяй.



**Сустрэча Саюза савецкіх патрыётаў у горадзе Алес на поўдні Францыі ў 1947 годзе.** Партрэт Сталіна трымаюць беларусы Зіна і Алесь Салагубы.

Але дамоўленасці тычыліся толькі тых, хто меў савецкае грамадзянства да 1939 года. Грамадзяне анексаваных краін Балтыі, а таксама ўраджэнцы Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, што да 1939 года мелі грамадзянства Польшчы, пад іх не патраплялі. Выдаваць саветам прымусова гэтых людзей не маглі, заставалася толькі ўгаворваць іх вярнуцца «на радзіму» добраахвотна.

## Абяцанні раю

Савецкія дыпламаты і агенты разгарнулі сярод эмігрантаў у Францыі шырокую агітацыйную дзейнасць. Эмігрантам расказвалі, якія даброты іх чакаюць у СССР у выпадку вяртання. Асноўныя тэзісы савецкай прапаганды ў сваіх пазнейшых успамінах пералічыў адзін з непасрэдных сведкаў тых падзей Алег Івашкевіч. Маўляў, «у СССР няма беспрацоўя, бо праца для ўсіх абавязковая, а таму няма галечы і няма бяздомных. Жанчыны маюць роўныя правы з мужчынамі. Хлеб бясплатны для ўсіх. Вучоба ў школе абавязковая для ўсіх да 17 гадоў, вышэйшая адукацыя бясплатная. Медыцына і лекі бясплатныя. Свабода веравызнання поўная. Выхад на пенсію для мужчын у 55 гадоў, для жанчын — у 50».

Далей Івашкевіч згадваў, што на вуліцах французскіх гарадоў былі развешаныя плакаты нейкага Камітэта садзеяння міру і свабодзе, якія заклікалі рабочых-камуністаў спыняць працу ў Францыі і масава эміграваць у СССР. Ім абяцалі, што за 300 рублёў штомесячнага заробку ў СССР можна, маўляў, купіць 117 кілаграмаў хлеба, 27 кілаграмаў мяса, 158 літраў малака.

Прапаганда была, як бачна, даволі прымітыўная, але яна мела эфект, бо ў Францыі пасля вайны жылося няпроста. У пачатку 1945 года пачаліся перабоі ў харчовым забеспячэнні, і Часовы ўрад Францыі мусіў увесці карткі на хлеб. У такіх адчайных умовах многія іміграНТЫ, якія не ведалі рэальнага стану спраў, вяліся на

прапаганду пра «райскае жыццё» ў СССР.

### Савецкае павуцінне

Савецкая місія па рэпатрыяцыі грамадзян з Францыі арганізавала па ўсёй краіне 130 месцаў збору і лагераў для рэпатрыянтаў. Праз іх прайшло больш за сотню тысяч чалавек.

Найбольшы з гэтых лагераў у горадзе Барэгар недалёка ад Парыжа нейкі час нават меў экстэрытарыяльны статус. Тут не дзейнічалі французскія законы, і афіцэры НКВД працавалі без усялякага кантролю мясцовых уладаў, арганізоўваючы напады і выкраданні людзей, а таксама таемна вывозячы іх. Тым больш што мелі ў гэтым лагеры і свой аэрадром.

Немалую ролю ў прапагандзе выезду ў СССР адыграла арганізацыя Саюз савецкіх патрыётаў Францыі, якая дзейнічала з 1943 па 1948 гады. Раней арганізацыя называлася Саюзам рускіх патрыётаў, але пасля таго, як яе актыў амаль цалкам атрымаў у жніўні 1947-га савецкія пашпарты, арганізацыю пераназвалі ў ССП.

ССП арганізоўваў па ўсёй Францыі для сваіх актывістаў і ўсіх выхадцаў з былой Расейскай імперыі балі і маёўкі, дзе вялася агітацыя за вяртанне ў СССР. А таксама сходы і вечарыны, падчас якіх урачыста выдавалі тым, хто паверыў у прапаганду, савецкія пашпарты.

Савецкі пасол у Парыжы Аляксандр Багамолаў 3 ліпеня 1947 года пампезна арганізаваў сустрэчу расійскіх эмігранцкіх актывістаў з наркамам замежных спраў СССР Вячаславам Молатавым. Молатаў доўга гутарыў з эмігрантамі, асабіста пераконваў іх ехаць у СССР, а ў канцы размовы сказаў: «Калі, вярнуўшыся на радзіму, вы пачуеце дакоры за сваё эмігранцкае мінулае, то што ж рабіць, няма роду без выроду, у такіх выпадках звяртайцеся наўпрост да мяне».



**Шахцёры на пасляваенным Данбасе.** Шмат жанчын, бо бракавала мужчынскіх рук. Сярод шахцёраў — беларускія рэпатрыянты з Францыі Яўстафі Гаралюк і Аляксандр Салагуб. Данецк. 1952 год.

### Падманула іншых, падманулася і сама

На сустрэчы з Молатавым у Парыжы была і беларуска Ганна Рашкевіч. Яна прыехала разам з мужам у Парыж, у амбасаду СССР, з гарадка Банвіе-Монт на паўночным усходзе Францыі. Яе муж Станіслаў Рашкевіч працаваў на жалезаруднай шахце. Абое паходзілі з вёскі Яцкавічы цяперашняга Мядзельскага раёна. Пажаніўшыся ў 1922 годзе, яны на радзіме зусім не мелі зямлі, таму ў 1930-м паехалі на заробкі ў Францыю.

**За год агітацыйнай працы ў Францыі Ганна Рашкевіч пераканала паехаць у СССР дзясяткі сваіх землякоў**

Рашкевічы мелі 6 дзяцей. Пасля вайны ў Францыі іхняя старэйшая дачка Рэгіна выйшла замуж за былога савецкага ваеннапалоннага Канстанціна Урбановіча, беларуса з вёскі Чырвоны Бор Лагойскага раёна. Урбановіча, як і яшчэ з дзясятак савецкіх ваеннапалонных, якія ўцяклі з лагера, сям'я Рашкевічаў перахоўвала ў сябе, у падвале шахцёрскага дома, пакуль яны не перабраліся да французскіх партызанаў.

Пасля вайны Урбановіч уладкаваўся на працу ў савецкае пасольства ў Парыжы і забраў Рэгіну з сабой, а цешчу пераканаў выконваць спецыяльнае заданне пасольства — ездзіць па розных ▸

Іван Пташнікаў

## Французжанкі

Дзяўчат я згледзеў здалёку: ішлі ўпобачкі, памалу, не спяшаючыся — былі якраз на палавіне дарогі да вёскі. Дзве...

Можа б, я іх і не дагнаў, але яны ішлі ўжо так паволі, што праз якую хвіліну я ўжо быў каля іх.

Можа б, я іх і зачапіў, але пачуў, што яны гаварылі паміж сабой па-свойму, па-чужому... Назад ні разу не азірнуліся.

Соснік тут быў малады, уперамешку з кунатымі бярозкамі. Бліжэй да вёскі — адны дробныя сасонкі.

Дзяўчаты так і ішлі ўпобачкі: то бліжэй да бярозак, то далей, як выбіраючы лепшую сцежку пад нагамі. Якую хвіліну, параўняўшыся, я ішоў побач з імі, ну, можа, на паўкроку ззаду, тады на паўкроку спераду.

Адна з іх, вышэйшая, была коратка стрыжаная — валасы чуць хавалі шыю. Русыя, нават светлыя, паднятыя высака на галаве. Чыстая з твару, бялявая і прыгожая-прыгожая... Вочы ў яе, блакітныя, бліШчэлі, і сама яна ўся была нейкая бліскучая. Чырвоная сукенка на ёй аж пераліваласся...

Другая, меншая, ёй па плячо, з тугой цёмнай касой на спіне, ладнай, рукой не абхапіць, і сплеценай неяк адмыслова (так у вёсцы ніхто не заплятаў), і доўгай — да пояса.

Была яна ў блакітным сачыку і караткаватай, да калень, блакітнай спадніцы. Цямнейшая і круглейшая з твару, і вочы ў яе былі вялікія, круглыя і цёмныя. І насы ў іх, у абедзвюх, былі невялічкія, прамыя і прыгожыя.

На нагах у іх былі аднолькавыя чырвоныя басаножкі, у руках чырвоныя невялікія сумачкі.

«Сёстры, ці што? — падумалася першае, што прыйшло ў галаву. — Відаць, сёстры...»

У мяне дробненька забілася ў грудзях маё недзе зусім яшчэ вераб'інае сэрца... Такіх прыгожых дзяўчат — маіх раеснiц — у свае пятнаццаць гадоў я ніколі не бачыў: ні ў вёсцы, ні ў школе...

Мінаючы іх, я яшчэ раз павярнуўся, зірнуў ім у твар і пачуў, як мне ўсяму зрабілася горача, — ад самой начы яшчэ ніяк не мог сагрэцца дарогай... Ногі неяк самі падналі мяне ад зямлі, і я, босы, пад пахай фуфайка, прыціснутая рукой — рука ў кішані, — прыбавіў кроку па траве і па версе, пакідаючы дзяўчат ззаду. Можа б, я і загаварыў да іх, але яны, як і перш, ішлі сцежачкай адна ля адной і гаварылі ўсё, гаварылі па-свойму між сабой...

***

...Дувалаў [раённы энкавэдыст] стаяў перада мной і зыбаўся на нагах:

— Ну, дык пра што калякалі французжанкі?.. Маўчыш? А што яны гаварылі пра свайго бацьку? Гм! А не расказвалі, як ён трапаўся, што вы тут з голаду пухнеце, а Сталін... — ён памаўчаў. — Наш таварыш Сталін пшаніцу — французам... А яна ім і не трэба... А яны яе з карабля — у мора. А яны яе і браць не хочуць... Сваёй хапае... Што ў падлогу глядзіш? Ведаеш і не хочаш усім нам сказаць? — махнуў ён рукой на стол.

У мяне зноў паявіліся ў вачах буханкі хлеба: пачалі падскокваць ад падлогі ўверх — адна вышэй, другая — ніжэй...

— А не расказвалі яны, на што ён тут прыехаў паглядзець? На радзіму? Чаго яго пацягнула? І дачок з сабой прывёз... А жонку пакінуў у Францыі, каб было куды вярнуцца пасля ўсяго. Жонка ў яго французжанка... Што? У разведку прыехаў? Не гаварылі?!

Калі закрычаў на ўсю кантору капітан Дувалаў, мне здалося, што буханкі хлеба пасыпаліся зверху са стол на падлогу... Я аж прыгнуўся...

— Хопіць курвіцца!.. Мы праверылі. Ні маці твая, ні бацька ў трыццаць сёмым не замешаны. Бацька вярнуўся з фронту паранены... У вайну маці памагала партызанам... А ты? Скурвіўся? Шпіянаж пакрываеш?..

***

...Недзе праз тыдзень, ідучы раніцай з Жукаўшчыны ад трактара, я пачуў ад Федзі на ўчастку, што французжанак з бацькам у Жызнаве забралі...

***

...Дзе вы цяпер, мае французжанкі, што схаваліся назаўсёды ў пыле на нашай грэблі паўвека назад?..

*1997 год*

гарадах Францыі і пераконваць беларусаў, украінцаў і іншых выхадцаў з земляў, што адышлі да СССР, «вяртацца на Радзіму».

За год агітацыйнай працы ў Францыі Ганна Рашкевіч перакапала паехаць у СССР, напэўна, дзясяткі сваіх землякоў. Яе дачка Алена Дземідовіч, ад якой мы даведаліся гэту гісторыю, не ведае, ці плацілі маці за гэтую працу. Памятае толькі, што сагітаваныя Ганнай беларусы потым, ужо ў СССР, сварыліся на яе і крыўдавалі, кажучы, што яна падманула іх. Але было ўжо позна. Зрэшты, сярод падманутых аказалася і сама Ганна Рашкевіч разам з мужам і шасцю дзецьмі.

Усяго, паводле звестак расійскага даследчыка Віктара Зямскова, да чэрвеня 1948 года з Францыі ў СССР рэпатрыяваліся 6 991 чалавек, якія ў розныя гады эміграваі ў Францыю з Расійскай імперыі, Аўстра-Венгрыі і Польшчы. Сярод іх былі 1 420 расейцаў і 5 471 асоба «ўкраінскага або беларускага паходжання».

Такім чынам, лік беларускіх рээмігрантаў можна прыблізна ацаніць у 10 % з тых 20–30 тысяч, якія жылі ў Францыі.



**Цеплаход «Расія».** 1970-я гады.

MODGAHEAD-SEV.LIVEJOURNAL.COM

## Дарога на радзіму-мачыху

Рэпатрыянтаў з Францыі ў СССР везлі морам і чыгункай. Тых, каго везлі праз мора, з усёй Францыі звозілі ў парты Марсель і Гаўр. Там іх чакалі савецкія цеплаходы «Расія» і «Вячаслаў Молатаў». Многія беларускія «дзеці Францыі» запомнілі вялікі белы цеплаход «Расія», у якім яны займалі месцы трэцяга класа, бліжэй да трумаў ці ў саміх трумах. У першым і другім класе везлі былых белагвардзейцаў.

Па прыбыцці ў порт Адэсы пасля догляду афіцэрамі МГБ рэпатрыянтаў садзілі на грузавікі і разбітай дарогай везлі ў рэпатрыяцыйны лагер «Люстдорф», былое пасяленне нямецкіх каланістаў каля Адэсы. Там тады яшчэ былі і нямецкія палонныя, лагер агароджаны калючым дротам і вартавымі вышкамі. Новапрыбылыя праходзілі «фільтрацыю» і размеркаванне, некаторых адсюль пасылалі адразу ў ГУЛАГ.

Буйны цэнтр прыёму рэпатрыянтаў быў арганізаваны і на беларускай зямлі. Траплялі ў яго тыя, хто ехаў у СССР цягнікамі. Савецкія ўлады размясцілі гэты лагер у былым «Шталагу 324», нямецкім лагеры для савецкіх ваеннапалонных у Ласосне пад Горадняй.

Апошні эшалон з рэпатрыянтамі з Францыі прыбыў у Горадню ўвосень 1947 года, у ім было каля 2 000 чалавек.

## Ілюзіі развейваюцца, але позна

Таварным цягніком у 1947 годзе ў СССР прыехала і сям'я Рашкевічаў. Падман адчулі вельмі хутка. За іх працу ў інтарэсах СССР пасля прыезду ніякай падзякі не было. Жыла сям'я цяжка: пасялілі 9 чалавек у адным пакоі ў інтэрнаце тытунёвай фабрыкі. Пастаянна былі пад каўпаком савецкіх спецслужбаў, а нейкі час чакалі і вывазу ў Сібір.

«Аддзячылі тым, што хацелі нас выслаць на Салаўкі. Да нас увесь час прыходзілі з НКВД, правяралі, ці ёсць у нас радыёперадатчыкі, грошы. Усе рэчы раскідвалі, баяны і швейную машыну разбіралі, шукалі... Мамін брат пры Польшчы сядзеў у турме разам з камуністычным дзеячам Сяргеем Прытыцкім; дзядзька звярнуўся да яго і пасля гэтагаператрусы спыніліся», — згадвае Алена Дземідовіч.

Але не ўсе мелі такіх уплывовых знаёмых, як Прытыцкі. І не для ўсіх усё канчалася так, яшчэ адносна лёгка. Адкруціць жа ўсё назад магчымасці ўжо не было, пастка зачынілася. Як мінімум на 40–50 гадоў — да перабудовы і незалежнасці.

## Прасвятленне французаў

14 лістапада 1947 года адбылася нечаканая праверка французскімі ўладамі лагера ў Барэгары. Аперацыя была вынікам заявы грамадзяніна Францыі Дзмітрыя Спячынскага, які эміграваў з Расіі ў 1922 годзе. Ён напісаў французскім уладам пратэст супраць намеру ягонай жонкі рэпатрыявацца ў СССР з трыма дзецьмі.

Жанчыну з дзецьмі знайшлі ў лагеры, хоць яны і не былі там зарэгістраваныя. Таксама там выявілі цэлы арсенал зброі. Выбухнуў дыпламатычны скандал, савецкіх службоўцаў выслалі з Францыі ў СССР. Лагер Барэгар быў узяты пад кантроль уладаў Францыі і ў 1951 годзе спыніў існаванне.

25 лістапада 1947 года на патрабаванне французскіх уладаў былі таксама высланыя 24 актывісты Саюза савецкіх патрыётаў Францыі, а праз два месяцы гэтая арганізацыя была распушчаная. Дэпартаваных актывістаў ССП у СССР спачатку прынялі як герояў, а потым многіх з іх чакаў ГУЛАГ.

Масавыя арганізаваныя рэпатрыяцыі ў СССР пасля гэтага былі спыненыя. Пачыналася халодная вайна. ◆




Падрабязней пра беларускую эміграцыю ў Францыі і лёс тых людзей, якія наважыліся вярнуцца пасля вайны на радзіму, можна будзе неўзабаве прачытаць у кнізе Валера Каліноўскага «Дзеці Францыі. Гісторыі сем'яў, якія паверылі Сталіну», якая цяпер рыхтуецца да друку ў выдавецтве «Кнігазбор». Ужо зараз яе можна замовіць ці ў выдавецтве, ці непасрэдна ў аўтара, напісаўшы на пошту **kalinovsky.valery@gmail.com**.



WIKIMEDIA COMMONS

**Сяргей Ясенін** і ягоная апошняя жонка **Соф'я Талстая.**



ESENIN.RU

**Надзея Вольпін** з сынам Сашам.



LITRES.RU



WIKIMEDIA COMMONS

**Ганна Ізраднава.**



KULTUROLOGIA.RU

Уверсе — **Усевалад Меерхольд з дзецьмі Ясеніна Таняй і Косцем.** Справа — **Таццяна Ясеніна.**

# Дзеці Ясеніна

## Паэт быў шчодры на каханне, а дзеці — розныя

**Лёсы адлюстроўваюць час паўней і глыбей за вершы. Як гэта было ў расійскага класіка Сяргея Ясеніна і ягоных нашчадкаў, піша Ганна Севярынец.**

Многае ў жыцці чалавека залежыць ад яго самога, нешта прадвызначаецца самім часам. Калі, прыкладам, ты нарадзіўся ў 1895 годзе, то ты яшчэ паспееш атрымаць такую-сякую адукацыю і нават прыехаць у яшчэ сытую сталіцу. («Еж ананасы, рабчыкаў жуй!..») Нават ўваб'ешся маладым, але перспектыўным сябрам у прафесійную тусоўку. Але 21 год, на той час прызыўны ўзрост, табе стукне ў 1916-м, і ты апынешся на фронце Першай сусветнай вайны.

Рэвалюцыю ты сустрэнеш не надта спелай, але ўжо здольнай да рэфлексіі асобай, а таму ў цябе не будзе падлеткавай прагі да любых перамен за любы кошт. Зрэшты, і кансерватыўнага супраціву новым парадкам таксама не будзе.

Стварыць сям'ю і нараджаць дзяцей давядзецца ў галечы і непаразуменнях глабальных геапалітычных катаклізмаў, выхоўваць іх — на зломе старой і новай маралі. У новую літаратуру ты будзеш уваходзіць на мяжы трыццацігоддзя: ужо не падпаскам, а чалавекам са сваім уласным голасам, сваёй сардэчнай тэмай, сваім напрацаваным уменнем выказвацца і спрачацца, са сваёй, няхай і спрэчнай, але ўсвядомленай сістэмай каштоўнасцяў і прыярытэтаў.

А ў трыццаць цябе раптам накрые. Усё, чаго баяўся, спраўдзілася. Усё, у што спрабаваў верыць, не здзейснілася. Сцежкі заблыталіся: разблытваць іх самому — немагчыма, бо за табой ужо пільна сочаць і кіруюць тваім разблытваннем з усёй жорсткасцю рэвалюцыйнага часу. І ты застанешся сам-насам — не з вершамі і славай, не з крытыкай і хвалой, не з кнігамі і чытачамі, а са сваім жыццём, якое трэба альбо працягваць у немагчымых умовах, альбо скончыць.

Але нават калі ты яго скончыш, для тваіх дзяцей усё толькі распачнецца. Так было ў Сяргея Ясеніна, для якога трыццацігоддзе стала апошнім рубяжом.

Творчасць Сяргея Ясеніна мела надзвычайны ўплыў на беларускіх літаратараў 20-х. **Нават тады, калі ў СССР пачалася кампанія супраць «ясеніншчыны», беларусы працягвалі чытаць, перакладаць і пераасэнсоўваць Ясеніна, а часам і абараняць ягонае імя ў друку.** Калі ў 1926 годзе ў тагачаснай «Камсамолцы» быў надрукаваны разгромны антыясенінскі фельетон Льва Сасноўскага «Развянчаем хуліганства», група беларускіх літаратараў (Пятро Глебка, Валер Маракоў, Янка Бобрык, Янка Тумiловіч, Сяргей Дарожны і Максім Лужанін) накіравала калектыўны ліст у рэдакцыю часопіса «Красная новь» з патрабаваннем спыніць шальмаванне памерлага паэта. Цікава, што адным з аргументаў гэтага адкрытага ліста стаў выразны «нацдэмаўскі» выпад: «Выходзіць, што рана даваць Сасноўскаму Ясеніна, павучыцца яму трэба на казачках для малодшага веку, калі ён не разумее, не адчувае адценняў роднай мовы, у той час як мы, далёкія беларусы, сэрцам зразумелі Ясеніна, амаль не ведаючы рускай мовы».

### Юрый Сяргеевіч: расстраляны

Старэйшы сын Сяргея Ясеніна Юра — масквіч па нараджэнні. З масквічкай Ганнай Ізраднавай «панаехаўшы з Разані» Сяргей Ясенін пазнаёміўся ў друкарні вядомага выдаўца Івана Сыціна: яна працавала тут карэктаркай, а ён — спачатку грузчыкам, а потым — памочнікам карэктара. Звязвалі іх і супольныя заняткі ў нефармальным універсітэце Шаняўскага, дзе, дарэчы, на два гады пазней вучыўся Янка Купала.

Спачатку Ганна і Сяргей, згодна з павевамі часу, проста жылі разам на здымнай кватэры, а ў 1914 годзе ў іх нарадзіўся сын. Ганна Раманаўна ўспамінала потым, што Ясенін моцна радаваўся першынцу: чакаў іх з радзільні, падрыхтаваў кватэру і патрэбныя рэчы, з ахвотай гушкаў малога, калыхаў на руках уночы, спяваў песні.

Але захапленне сваёй бацькоўскай роляй хутка саступіла месца паэтычнай ▸




**Дом-музей Сяргея Ясеніна** ў ягоным родным сяле Канстанцінава на Разаншчыне.

▶ гарачцы і няспыннаму руху да славы: у 1915-м Сяргей едзе ў Пецярбург, сустракаецца там з Аляксандрам Блокам, эпатуе чапурыстыя пецярбургскія літаратурныя салоны і хутка, літаральна за тыдні, узлятае на вяршыні тагачаснага літаратурнага дыскурсу, багатага, між іншым, на імёны і таленты.

Да Ганны Ізраднавай Сяргей ужо ніколі не вярнуўся, хоць да канца жыцця захоўваў з ёй сяброўскія адносіны, дапамагаў грашыма. А за некалькі тыдняў да самагубства, перад апошняй паездкай у Ленінград, прыходзіў пагутарыць.

Юра Ясенін пасля школы паступіў у авіяцыйны тэхнікум. Пасля ягонага заканчэння працаваў у Акадэміі імя Жукоўскага, а потым — у Хабараўску, у адной з вайсковых часцей. Усе наступныя жонкі Ясеніна вельмі добра ставіліся да прыгожага, выхаванага, інтэлігентнага хлопца: ён папросту, як сваяк, прыходзіў да другой жонкі Ясеніна, актрысы Зінаіды Райх, сябраваў са зводнымі братам і сястрой. Яму моцна дапамагала апошняя жонка паэта Соф'я Талстая. Юра ведаў на памяць ці не ўсе вершы свайго бацькі, пісаў і сам, атрымліваў добрыя водгукі ад бацькавых сяброў.

А ў 1937-м Юрый Ясенін быў нечакана арыштаваны: нехта з сяброў трапіў у НКВД і там на допытах «прыпомніў», як у 1934 годзе ў нецвярозай кампаніі Юра падтрымаў гутарку пра тое, што «няблага было б скінуць на Крэмль бомбу». Неўзабаве «контррэвалюцыянер» Юрый Ясенін, які «рыхтаваў тэрарыстычны акт супраць кіраўніцтва СССР», быў расстраляны ў Маскве.

## Таццяна Сяргееўна: выгадаваная Меерхольдам

Маці Таццяны, выдатная актрыса Зінаіда Райх, пазнаёмілася з Сяргеем Ясеніным у 1917 годзе. Яна працавала сакратаркай-машыністкай у рэдакцыі газеты «Дело народа», што выдавалася партыяй эсэраў. Ясенін у гэтай газеце друкаваўся. Летам 1917-га яны абвянчаліся («Вышли сто венчаюсь Зинаида» — такую тэлеграму даслала нявеста свайму бацьку).

У 1918-м нарадзілася дачка Таня. Ясенін быў тады ў Петраградзе, а Зінаіду матала па краіне: у 1919-м яна працавала інспектаркай Наркамасветы ў Арле, а потым, ратуючыся ад наступлення Дзянікіна, уцякла ў Маскву. Пасля зноў Арол, зноў Масква... Легкадумны муж і бязлітасны час: абодва не маглі даць маладой маці спакою. І ў 1921-м Ясенін і Райх разводзяцца. Перажываючы разрыў з чалавекам, якога ўсё жыццё моцна кахала, Зінаіда трапіла нават у неўралагічную бальніцу — а ў яе было ўжо двое ясенінскіх дзяцей, Таня і маленькі Косцік.

Але ўсё мінае. У 1922 годзе Зінаіда Райх узяла шлюб з Усеваладам Меерхольдам — славутым тэатральным рэжысёрам.

**Паэт Яўген Далматоўскі ўспамінаў**, як калісьці падлеткам ён прыйшоў з Юрам Ясеніным да Меерхольдаў. У абодвух былі з сабой сшытачкі з вершамі. У дарослых былі госці, і сярод іх — Уладзімір Маякоўскі. «Ну што, піянеры? Бачу, вершы свае прынеслі? А ну, давайце!» — патрабавальна працягнуў руку Маякоўскі. Юра, хлопец дасведчаны і спрактыкаваны ў паэтычных неспадзяванках, сшытка не даў, а Жэня з хваляваннем і надзеяй дастаў запаветныя паперкі. Маякоўскі перагарнуў пару аркушаў — і раптам пачаў голасна і жорстка разносіць вершы радок за радком. «Валодзя, гэта ж дзеці, чаму вы так крычыце?» — падаў голас адзін з гасцей. «Калі яны дзеці, дык няхай ідуць і катаюцца на трохколавых веласіпедах, а калі паэты — дык павінны слухаць!» — безапеляцыйна заявіў Маякоўскі. Чалавекам, што заступіўся за падлеткаў, быў Барыс Пастарнак.

Меерхольд гадаваў Таню і Косцю як уласных дзяцей, быў надзейным сябрам і жонцы. Дзякуючы ўласнаму драматычнаму таленту і рэжысёрскаму мастацтву мужа ў 30-я Райх стала адной з найбольш знакамітых і запатрабаваных актрыс тэатра і кіно.

## Перажываючы разрыў з Ясеніным, Зінаіда Райх трапіла ў неўралагічную бальніцу

Але сталінскія рэпрэсіі гэтая пара не перажыла. У 1938-м быў закрыты эксперыментальны тэатр Меерхольда, у чэрвені 1939-га арыштаваны ён сам і з турмы ўжо не вярнуўся. А ў ліпені 1939-га Зінаіда Райх была жорстка забітая ва ўласнай кватэры: невядомыя нападнікі нанеслі ёй амаль 20 ударaў нажом, нічога з рэчаў не ўзялі і зніклі. Шэптам казалі, што гэта была помста за яе публічнае выказванне: «Калі Сталін нічога не разумее ў мастацтве, няхай спытаецца ў Меерхольда. Меерхольд разумее».

Таццяна Ясеніна на той момант была ўжо замужам. Яна забрала брата Косцю ў сваю сям'ю, вывезла з кватэры Меерхольда ягоны архіў і схавала да найлепшых часоў. У хуткім часе выехала з мужам у далёкі Ташкент. Там, у Ташкенце, яна і пражыла ўсё жыццё, працуючы ўласным карэспандэнтам газеты «Правда Востока» і навуковай рэдактаркай у выдавецтвах Узбекістана.

Менавіта Таццяна Ясеніна ў больш спрыяльны час ініцыявала працэс рэабілітацыі Меерхольда, апекавалася ягонай спадчынай, сачыла за лёсам архіва, перададзенага кінарэжысёру Сяргею Эйзенштэйну. Яна дажыла да тых часоў (памерла ў 1992 годзе), калі і роднага бацьку, і забітую маму, і любімага айчыма можна было ўспамінаць без цэнзурных купюр.

### Канстанцін Сяргеевіч: футбаліст

Пасля арышту айчыма і забойства маці Косця Ясенін некаторы час жыў у сястры, а потым сышоў на «вольны хлеб» — спачатку студэнцкі (тут моцна дапамагала яму і ежай, і прытулкам Ганна Ізраднава, што падтрымлівала цёплыя адносіны з усімі дзецьмі першага мужа), а потым салдацкі: пачалася вайна. Ён пайшоў на фронт добраахвотнікам, абараняў блакадны Ленінград, штурмаваў Карэльскі перашыек, быў тройчы паранены. Пасля вайны давучыўся ў інжынерным інстытуце і стаў будаўніком.

Але найбольш вядомы Канстанцін Ясенін як футбольны гулец і заўзятар. З 1936 года ён, беручы ўдзел у першынстве краіны па футболе, а потым назіраючы за ім, сабраў максімальна поўную статыстыку футбольных спаборніцтваў і выдаў унікальнае даследаванне «Футбол: рэкорды, парадоксы, трагедыі, сенсацыі». Таццяна Ясеніна смяялася: у яе часцей запытвалі, ці не сястра яна Канстанціна Ясеніна, чым — ці не паэтава яна дачка.

### Аляксандр Сяргеевіч: матэматык і дысідэнт

Маці малодшага сына Сяргея Ясеніна Надзея Вольпін

**Імажынізм** (ад лац. *imago* — вобраз) — літаратурны кірунак, які ўзнік у расійскай паэзіі ў 1918 годзе. Яго прадстаўнікі заяўлялі, што мэта творчасці — стварэнне вобразу, паэзію бачылі як «натоўп вобразаў». Асноўны мастацкі сродак імажыністаў — метафара.

нарадзілася ў Магілёве ў сям'і юрыста Давыда Вольпіна і піяністкі Ганны Жыслін (Ганна Барысаўна родам з Чэрыкава). Дзяцінства Надзя правяла ў Маскве, тут скончыла гімназію і ўніверсітэт. Таленавітая дзяўчына пісала вершы, а ў 1920-м далучылася да аб'яднання імажыністаў, якое ў тыя гады актыўна ствараў і прапагандаваў Сяргей Ясенін. Надзея Вольпін выступала з вершамі ў легендарных кавярнях «Стойла Пегаса» і «Кафэ паэтаў», перакладала з еўрапейскіх моў.

З Ясеніным яны спачатку сябравалі, потым жылі разам, а сын нарадзіўся ўжо пасля разрыву: па Маскве хадзіла жартаўлівая эпіграма «Надя бросила Сергея, да с ребёнком на руках». Ясенін ліхаманкава імкнуўся аднавіць адносіны з Вольпін, дзяжурыў на лесвічнай пляцоўцы, пільнаваў Надзею на маскоўскіх сцежках, патрабаваў магчымасці бачыцца з сынам.

Сяргей Ясенін загінуў, калі Сашу было паўтара года. Бацьку свайго ён, вядома, не памятаў, але прозвішча «Ясенін» захаваў разам з прозвішчам маці, быў Ясеніным-Вольпіным. Аляксандр скончыў мехмат МДУ, аспірантуру навукова-даследчага інстытута матэматыкі, абараніў кандыдацкую дысертацыю па матэматычнай логіцы.

У 1949 годзе Ясенін-Вольпін быў арыштаваны па даносе: хутчэй за ўсё, данеслі на вершы, бо малодшы сын ▶

Сяргея Ясеніна быў надзвычай таленавіты ў вершаскладанні. Страляць яго не сталі, а па навамоднай завядзёнцы змясцілі ў псіхіятрычную клініку, прызнаўшы вар'ятам. А ў 1950-м выслалі ў Караганду.

У 1953 годзе пасля амністыі Ясенін-Вольпін вярнуўся ў Маскву. У 1959 годзе на навуковым сімпозіуме ў Варшаве быў прачытаны адмысловы даклад Ясеніна-Вольпіна з публічнымі тлумачэннямі: аўтара, выбітнага вучонага-матэматыка, не выпусцілі за мяжу. Дысідэнта-рэцыдывіста зноў арыштоўваюць і змяшчаюць у спецпсіхбальніцу — і за даклад, і за тое, што за мяжой выйшлі зборнік ягоных вершаў і філасофскі трактат. Гэтым разам яго прымусова лячылі два гады.

**«Гэта Андрэй Сахараў павінен быў атрымаць прэмію Ясеніна-Вольпіна. Алік быў ягоным настаўнікам»**

У 1965 годзе Ясенін-Вольпін браў удзел у легендарным «Мітынгу галоснасці», першым публічным антысавецкім выступленні ў паваенным СССР: удзельнікі мітынгу, якіх разам з супрацоўнікамі МУС і КДБ набралася 200 чалавек, патрабавалі адкрытасці суда над пісьменнікамі-дысідэнтамі Андрэем Сіняўскім і Юліем Даніэлем. У лютым 1968-га яго зноў прымусова змяшчаюць у бальніцу.




**Аляксандр Ясенін-Вольпін.**

Нечаканым вынікам чарговага арышту і «карнага лячэння» Ясеніна-Вольпіна становіцца знакаміты «ліст 99-ці»: выбітныя вучоныя-матэматыкі складаюць адкрыты ліст у абарону калегі з патрабаваннем спыніць пераслед Ясеніна-Вольпіна. Гэты адчайны і надзвычай смелы ліст меў сумныя вынікі: амаль усё кіраўніцтва матэматычнай навукі было звольнена і заменена, падпісанты ліста страцілі пасады і магчымасці. Наступныя дваццаць гадоў у гісторыі матэматычнай навукі СССР назвалі «чорнымі дзесяцігоддзямі».

У 1972 годзе пад ціскам уладаў Ясенін-Вольпін эміграваў у ЗША. Зусім нядаўна, у 2016 годзе, ён памёр у Бостане.

Калі знакаміты дысідэнт Уладзімір Букоўскі ў 2004 годзе выступаў з ініцыятывай узнагародзіць Аляксандра Ясеніна-Вольпіна прэміяй Сахарава, ён адзначыў: «Па праўдзе кажучы, гэта Андрэй Сахараў павінен быў атрымаць прэмію Ясеніна-Вольпіна. Алік быў ягоным настаўнікам».

Іменем Аляксандра Ясеніна-Вольпіна названая сфармуляваная ім матэматычная тэарэма дыядычных прастораў, а канцэпцыі абароны правоў чалавека, якія ён распрацаваў, і па сёння ляжаць у падмурку расійскага праваабарончага руху.

Ці былі дзеці Ясеніна настолькі ж неразборлівыя ў палавых сувязях, ці былі яны верныя ў сям'і? Здаецца, ніякіх падобных гісторый за імі не вадзілася. Таццяна і Канстанцін усё жыццё пражылі ў шлюбах, Юрый загінуў маладым. У любым разе, бацькаў лад жыцця ніхто з іх не паўтараў. ◆

### Беларускія паэты ставіліся да Ясеніна па-рознаму

Паўлюк Трус пераймаў і нават пераствараў расійскага лірыка, амаль даслоўна: «Не заспі, разбудзі мяне рана, о, мая дарагая матуля!» (Трус) — «Разбуди меня завтра рано, о моя терпеливая мать» (Ясенін). Язэп Пушча свядома ставіў перад сабой задачу стварыць па-беларуску ўсё найлепшае, што створана рускай літаратурай, таму ягоны відавочна «ясенінскі» першы зборнік «Раніца рыкае» — не пераймание, а сапраўдны беларускі імажыніскі эксперымент.
Не пераймае, а палемізуе з Ясеніным Алесь Дудар: «Я пакінуў свае загоны, кінуў я васількoвую даль». Гэта відавочная алюзія на радкі: «Я покинул родимый дом, голубую оставил Русь». Але калі ў Ясеніна — статычны малюнак пакінутай Радзімы, то ў Дудара — дынаміка сыходу. Крытычна пераасэнсаваная «нуда» ёсць не стан паэта, а пункт адліку: «У падарожжы, нудою выгнаным, гартаваў я свой цвёрды шаг». Гэткі ж самы прыём «палемікі ў вобразах» Дудар скарыстаў у вершы «Верасень»: «Ціхае, белае шчасце, песня і бэзавы куст» — палемічны водгук на ясенінскае «вот оно, глупое счастье белыми окнами в сад».

# У каваных кратах мінскіх ба
# яму бачыліся ЗОРКІ ДАВ

**Праца адказнага сакратара часопіса «Весці АН БССР» давала магчымасць сустракацца з самымі рознымі людзьмі — ад аспіранта да акадэміка. А я прабыў на гэтай пасадзе больш за паўтара дзясятка гадоў — ад канца 1960-х да сярэдзіны 1980-х. Успамінае доктар філалагічных навук Сямён Букчын.**

### Часопіс не гумовы

Публікацыі былі патрэбныя і тым, хто рыхтаваўся абараніць дысертацыю, і навуковым супрацоўнікам рознага ўзроўню як пацвярджэнне паспяховага выканання планавай тэмы. Ну і была чарга ў часопісе (серыя грамадскіх навук), які выходзіў раз на два месяцы. Трэба было чакаць, бо раздзелы «Гісторыя», «Эканоміка», «Мовазнаўства», «Мастацтвазнаўства», «Літаратуразнаўства» змяшчалі звычайна два-тры артыкулы, між тым як ахвотных як найхутчэй надрукавацца было шмат.

На другой старонцы вокладкі друкаваліся «Правілы для аўтараў», якія разам з тэхнічнымі патрабаваннямі да рукапісу нагадвалі пра неабходнасць адпаведнага ліста-накіравання з дырэкцыі інстытута і рэкамендацыі сектара ці кафедры, дзе працаваў аўтар. Разам з тым аўтар папярэджваўся, што рэдакцыя мае права адсылаць артыкулы рэцэнзентам на свой выбар. Акадэмічнае выдавецтва, куды трапляў на рэдагаванне і друк чарговы нумар часопіса, прынцыпова ставілася да таго, каб такія рэцэнзіі суправаджалі большасць артыкулаў. Так што ў рэдакцыі была перапіска, і немалая.

Аўтары рэагавалі на рэцэнзіі ў большасці спакойна, прымалі заўвагі. Але здараліся розныя выпадкі. Некаторыя, незадаволеныя крытычным водгукам, спрабавалі ціснуць на рэдакцыю, але тут на яе баку звычайна аказваліся члены рэдкалегіі: акадэмікі, члены-карэспандэнты, дырэктары інстытутаў.

### «Ты што тут сіяністкае гняздо развёў?»

І вось на самым пачатку 80-х гадоў выбухнула гісторыя, у выніку якой я, адказны сакратар часопіса, уступіў у жорсткі канфлікт з галоўным рэдактарам, акадэмікам-сакратаром аддзялення грамадскіх навук Казімірам Буславым. Пачалося так. У рэдакцыі з'явіўся невысокі, сярэдніх гадоў чалавек. Было відаць, што ён вельмі нервуецца. Гэта быў даволі вядомы тады адданы змагар з сіянізмам, юдаізмам і масонствам Уладзімір Бягун, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі і права АН БССР, кандыдат філасофскіх навук.

Барацьба з сіянізмам у тыя часы ўвогуле была адным з савецкіх ідэалагічных прыярытэтаў, і Бягун у Беларусі, можна



SHUTTERSTOCK.COM, BY UELLUE

Разам з мастаком Міхаілам Савіцкім Уладзімір Бягун зладзіў цыкл лекцый і публікацый супраць Марка Шагала.

сказаць, узначальваў яе. Пра яго гаварылі, што ён быў проста да хваравітасці захоплены гэтым змаганнем. Акрамя кніжак («Ползучая контрреволюция», «Вторжение без оружия» «Ярмарка предателей» і інш.), ён пісаў дакладныя запіскі ў ЦК КПБ. У іх, апрача іншага, ён звяртаў увагу на яшчэ дарэвалюцыйныя краты мінскіх балконаў, дзе яму бачыліся знакі зоркі Давіда. Дарэчы, гэтыя знакі мроіліся яму і на некаторых скульптурных выявах савецкага часу.

Бягун прынёс артыкул пад назвай, як памятаецца, «Сусветнае распаўсюджванне міжнароднага сіянізму як зброя сучаснага імперыялізму». Тэма, безумоўна, патрабавала знешняга і сур'ёзнага рэцэнзавання, пра што я сказаў аўтару. Бегуна як ударыла электрычнасцю. Ён літаральна затросся і стаў патрабаваць, каб артыкул не пасылалі на водгук у адзін з маскоўскіх інстытутаў, у якім якраз працавалі адпаведныя спецыялісты. Але я паслаў рукапіс менавіта ў гэты інстытут і яшчэ ў адну мінскую ВНУ. Абедзве рэцэнзіі прыйшлі рэзка адмоўныя.

Прайшло некалькі дзён пасля таго, як артыкул разам з рэцэнзіямі быў адасланы аўтару, і мне патэлефанаваў акадэмік Буслаў. «Ты што тут сіяністцкае гняздо развёў? — з незвычайным раздражненнем запытаў ён. — Неадкладна адпраўляй артыкул Бегуна ў друк. Гэта мой загад як галоўнага рэдактара». Мае пярэчанні наконт таго, што рэцэнзіі адмоўныя і падпісаныя вельмі аўтарытэтнымі спецыялістамі, Буслаў сустрэў выразнымі мацюкамі. Ён да акадэміі працаваў у ЦК КПБ, дзе, відаць, і прайшоў адпаведную школу. Калі я не выканаю яго загаду, ён пагражаў сцерці мяне ў парашок.

## Барысевіч «самаўхіліўся», а Крапіва падтрымаў

Тым не менш я адмовіўся падпарадкавацца. Бо быў не толькі адказным сакратаром, але і членам рэдкалегіі часопіса. Хаця і разумеў, што на гэты раз рэдкалегія мяне не падтрымае.

Мяне выклікаў да сябе дырэктар акадэмічнага выдавецтва Фадзей Савіцкі. Добры і прыстойны чалавек, ён быў у разгубленасці. Сутычка з акадэмікам Буславым магла каштаваць яму службовага крэсла. Ён вырашыў перакласці праблему на прэзідэнта Акадэміі навук, вядомага фізіка акадэміка Мікалая Барысевіча, у сувязі з чым папрасіў мяне напісаць адпаведную тлумачальную запіску на яго імя і прыкласці дакументы — артыкул Бегуна і рэцэнзіі. Недзе праз тыдзень у кабінеце Фадзея Савіцкага я пабачыў рэзалюцыю Барысевіча на маёй запісцы: «Вы лічыце, што мне, як прэзідэнту Акадэміі навук, больш няма чаго рабіць, як разбіраць вашы сваркі? Прыміце самі неабходнае рашэнне».

Гэта быў сігнал, які ў вядомай ступені развязваў дырэктару выдавецтва рукі. Справа была ў тым, што акадэмік Барысевіч, скажам дыпламатычна, не меў вялікай любові да яўрэяў. Але ў дадзеным выпадку ён вырашыў «самаўхіліцца». У нейкай ступені прычына была і ў ягоных няпростых адносінах з акадэмікам Буславым. Але большую ролю, як здаецца, адыграла яго нежаданне лезці ў гэтую гісторыю з непрыемным пахам. І гэта нягледзячы на тое, што Буслаў дамагаўся майго звальнення з працы.

Я пайшоў параіцца да пісьменніка-акадэміка Кандрата Крапівы. Ён, як віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук, курыраваў усю гуманітарную сферу. «А чаго вас звальняць ці вам самому звальняцца? Рэцэнзіі ж адмоўныя», — сказаў Крапіва. Міжволі ўспомнілася, што перада мной аўтар п'есы «Хто смяецца апошнім». ▸

**Сямён Букчын** — літаратуразнаўца, крытык, публіцыст. Доктар філалагічных навук. Актыўны ўдзельнік светапоглядных інтэлектуальных дыскусій, аўтар шматлікіх манаграфій, публіцыстычных зборнікаў і мастацкіх твораў.

У **Міхаіла Валодзіна**, аўтара цудоўнай кніжкі пра Мінск «**Мінскія гісторыйкі**», ёсць гісторыйка і пра Уладзіміра Бегуна. Пры яго з'яўленні ў кабінеце нават работнікі ЦК спадалі з твару. Ніхто не мог яму запярэчыць, хадзілі чуткі, што яго падтрымлівае Машэраў.

Бягун прыехаў у Мінск з Гродна ў 60-я, працаваў журналістам у «Советской Белоруссии».

Як Бягун стаў змагаром з сіянізмам і масонствам? Валодзін прыводзіць легенду, што аднойчы Уладзімір Якаўлевіч, які любіў гуляць па вячэрнім горадзе, забрыў на Музычны завулак і ніяк не мог знайсці дарогу назад. «Што дзядзька, заблукаў?» — раптам трое перагарадзілі яму дарогу. «А куды я патрапіў?» — «Да масонаў. Да страшных масонаў…» — адказаў са спачуваннем юнак. «Вось іх дом, бачыш…» — і пакуль Бягун углядаўся ў цемру, яго ўдарылі па галаве і абрабавалі.

Бягун захапіўся гісторыяй масонства не на жарт. Цяпер ён шарсціў горад у пошуку масонскіх сімвалаў і сігналаў. «І ўсюды яму бачыліся таемныя масонскія знакі, і пра кожны ён спяшаўся паведаміць лістом у ЦК! Яго лісты падалі на добрую глебу: услых ніхто пра гэта не казаў, але ўсе ведалі, што масоны — гэта яўрэі, а яўрэі не толькі напалі на арабаў, але і ўвогуле, самі разумееце...

Уладзімір Якаўлевіч вельмі стараўся. У выніку яго намаганняў сотні людзей пазбавіліся працы, а яшчэ знеслі некалькі паркавых агароджаў, а яшчэ на "Камунарцы" знішчылі партыю цукерак, а ў музычнай школе забаранілі правядзенне навагодняга вечара... Усюды адважны змагар з таямнічым ордэнам знаходзіў замаскіраваныя шасціканечныя зоркі — у метале, на абгортках, у прылепленых на сцены папяровых сняжынках. Яго ачышчальная энергія пазмятала ўсё на сваім шляху і ўганяла мінчан у ступар.


NASB.GOV.BY

Бягун памёр на баявым пасту, змагаючыся з ордэнам. Незадоўга да апошняй жыццёвай бітвы патрапіўшы ў лякарню і даведаўшыся, што па суботах працэдур не робяць, упартым голасам ён сказаў:

— Гэта ж трэба, і тут шабат!»


«МІНСКІЯ ГІСТОРЫЙКІ», BLOG.T-S.BY

**У ложных вокнах работнік АН Бягун убачыў след масонаў.** «Ды ў нас увесь праспект глядзіць праз ложныя масонскія вокны! Ды і літара "М" зноў-такі нешта значыць,» — іранізуе Міхаіл Валодзін.

### Саламонава рашэнне

Было прынята саламонава рашэнне. Серыю грамадскіх навук часопіса «Весці АН БССР» у мяне адабралі і перадалі калезе Галіне Маленчанка, ад якой у сваю чаргу адабралі серыю фізіка-тэхнічных навук і перадалі мне. Галіна Сяргееўна плакала, бо, як чорт крыжа, баялася гэтай «ідэалагічнай» серыі. Асцерагалася, што Буслаў прымусіць яе надрукаваць злашчасны артыкул Бегуна і з гэтага можа выйсці вялікі скандал. Але Буслаў хутка захварэў і ў пачатку 1983-га памёр. Літаральна праз два дні пасля яго смерці рашэннем Прэзідыума АН БССР серыя грамадскіх навук была вернута мне як адказнаму сакратару. Галіна Сяргееўна атрымала назад сваю серыю фізіка-тэхнічных навук і ўздыхнула з палёгкай.

Да пачатку гарбачоўскай перабудовы заставалася нядоўга. Мусіць, штосьці ўжо лётала ў паветры і адбілася ў гэтай гісторыі. А можа, проста збег абставінаў... ◆

# ЗЁЛКІ падарожжа да таямнічых вытокаў



Якім бы сучасным жыццём ні жыў беларус, натрапіўшы на зёлкі, не зможа стрымацца. Сабраць букеты, расставіць, развесіць па хаце! Хай потым ні разу іх не запарыш і ўвогуле без гугла слаба ўяўляеш іх карыснае дзеянне — але налета ўсё паўторыцца. Машына спыніцца сярод квяцістага лугу, потым ногі самі павядуць на ўзлесак…

Збіраць пахкія травы і кветкі — больш чым традыцыя. Гэта наша падарожжа да таямнічых вытокаў, пісаў дызайнер і фатограф Міхал Анемпадыстаў. Гэта нітка, якая вядзе нас праз тысячагоддзі да прагісторыі.

У зёлках спалучаецца прыемнае з карысным, і цяжка сказаць, чаго больш. Старажытныя людзі спачатку ацанілі смак, а потым адчулі і карыснае дзеянне.

З часам нашы продкі вызначыліся з асноўным наборам зёлак: святаяннік (зверабой), ліпа, маліннік, чабор, бруснічнік... Гэтая аптэчка была ў кожным доме, настой пілі замест чаю. А рэдкія букеты і зборы ўжо куплялі ў адмыслоўцаў. З XVIII стагоддзя па нашых землях хадзілі вандроўныя аптэкары — алейкары, або венгерцы. Так называлі выхадцаў са Славакіі (тады часткі Венгрыі), якія гандлявалі травянымі зборамі і лекавымі алейкамі. Лекі ў іх былі таннейшыя, чым у гарадскіх аптэках, народ ім давяраў. Алейкар нават трапіў у сюжэт батлейкі: чорная вопратка, капялюш з пяром, а за плячыма — чамаданчык з лекамі.

Для шляхты спецыялісты вырошчвалі зёлкі адмыслова. Для Мікалая Радзівіла Сіроткі такія «зёлы агародныя» везлі ў Кракаў ажно з Брэста.

Зрэшты, зёлкі — гэта яшчэ і цудоўныя духі ды асвяжальнікі паветра. Рэцэпт беларускіх шляхцянак: букет лаванды, ружы, валошак, каранёў фіялкі з карыцай і гваздзіком высушыць, стаўчы, апырскаць лёгкім адэкалонам («кёльнскай вадой») — і праз тры дні можна ўжо абкурваць гэтым хату, пасыпаючы на трошкі падагрэтае жалеза.

Яшчэ адна прапанова. Апоўдні, калі раса ўжо сышла, сабраць букет водарных кветак, напрыклад капрыфолю (бружмелю), язміну, рэзеды, белай мірабелі, пахучага гарошку, лаванды, мімулусама (губасціка). Чаранкі выкінуць, а кветкі ненадоўга пакласці ў цень ці адразу раскласці па слоіках, перасыпаючы пражанай соллю. Калі кветак недастаткова, запаўняць посуд можна ў некалькі прыёмаў. Калі начынне поўнае, шчыльна зачыніць і паставіць у сухім цёплым месцы. Калі кветкі страцяць вільгаць, утворыцца тугая маса з водарам. Раней жанчыны зашывалі яе ў шаўковыя мяшочкі і раскладалі па доме.

Сто гадоў таму ў продажы толькі-толькі з'явіліся каляровыя ніткі. Яны лічыліся няякаснымі, і надзейней было фарбаваць ніткі дома. Магазінны жоўты колер быў самым ненадзейным: «ад аднаго свежага паветра аблазіць!» — скардзіліся гаспадыні. Для трывалага жоўтага патрэбныя рэзеда, каманішнік, адвар макавых галовак і сцяблін. Для афарбоўкі ў трывалы аранжавы рабілі адвар з воўчага лыка, сабранага ў час цвіцення, або трымалі ніткі ў альховым адвары. Зялёны выходзіў з адвару каманішніку лугавога, або жоўтай рэзеды (яе ў XIX стагоддзі рэкамендавалі выпісваць з Рыгі), або адвару бярозавага лісця з куркумой.

Кармазын — пунсова-малінавы (памятаеце, у Дубоўкі: «вусны твае кармазынам асмужаны») — атрымліваўся з травы зялёнкі (фарбавальнай сярпухі) і маладога бярозавага лісця з дадаваннем мацярдушкі з кветкамі. Чым больш мацярдушкі, тым цямнейшы колер. Так фарбавалі воўну для абшыўкі спадніц і паясоў, якія дзяўчаты на сваім вяселлі меліся дарыць гасцям.

Зёлкі здаўна выкарыстоўвалі і ў касметыцы, праўда, пра рэцэпты вядома няшмат. Шафран — для высвятлення валасоў, рэвень — для афарбоўкі. Для бляску і моцы валасоў варылі мазь: пупышкі таполі са свіным тлушчам. Ад выпадзення валасоў змочвалі галаву размарынам.

Гігіенічную памаду рабілі з белага воску, алею і караня алканы, дадаўшы трохі ружовага алею.

Захаваўся мілы ліст Барбары Радзівіл да маці: «Прашу вас пра бялілы, каб ваша міласць мне іх даслала, бо іх у мяне ўжо зусім няма». А каб мама дакладна не забыла, ёсць P. S.: «Міленькая пані мамачка, вельмі прашу Вас пра бялілы, бо ўжо анітрошачкі іх не маю. І каб Вы не забылі, як слугі і дзеўкі». Што выбітнага было ў тых бялілах — загадка. У тыя часы ў бялілы дамешвалі тоўчаную пшаніцу, ружовыя пялёсткі, муку, воцат... Але факт застаецца: касметыку з Вялікага Княства замаўлялі ў сталічны Кракаў, цанілі беларускую касметыку нават тады, прычым не абы-хто, а каралева. ◆

**Паўліна Скурко**




# Клёцкі з душамі, гарачы шакалад, сялява...

## Якія стравы маюць права стаць брэндам Полацка?

**Часта кажуць: Полацк — калыска беларускай дзяржаўнасці. Не толькі інстытуты дзяржаўнай улады Полацка былі першымі на тэрыторыі сучаснай Беларусі, але і шмат якія з'явы матэрыяльнай і духоўнай культуры. Першыя мураваныя святыні, першая епархія, першы студэнт універсітэта, ён жа першадрукар… А ў чым прыярытэт Полацка ў гісторыі нашай гастраноміі? Якія кулінарныя сімвалы адзначаюць шлях Полацка ў беларускай гісторыі? Шукаў доктар гісторыі Алесь Белы.**

Дранікі, маласольныя гурочкі, медавуха, мачанка — гэты джэнтльменскі набор, які прапануе ў якасці адметных мясцовых страў афіцыйны буклет «Полацк. Калыска беларускай дзяржаўнасці», лёгка можна сустрэць у любым кутку Беларусі. Але полацкае, што ўнікальна полацкае? Падаю топ-5 гастранамічных спецыялітэтаў Полацка на аснове гістарычных крыніц.

### 1. Гарэлка

Людзі 50+ памятаюць, якія гарачыя спрэчкі вяліся ў 1970-я гады паміж Польшчай і СССР за прыярытэт у вынаходніцтве гарэлкі. «Старэйшы брат» па сацыялістычным лагеры не мог дараваць палякам-бунтаўнікам, што яны распаўсюджваюць у свеце версію свайго першынства. І хоць у польскіх дакументах *aqua vitae* — «вада жыцця» — упершыню згаданая ў 1405 годзе, а ў рускіх яе адпаведнікі — гадоў на 150 пазней, галоўны савецкі спецыяліст у гэтых пытаннях Вільям Пахлёбкін напісаў у разгар спрэчкі вельмі спекулятыўную кнігу. У ёй ён сканструяваў на аснове выключна дапушчэнняў магчымасць запазычання гэтага прадукту Маскоўскай дзяржавай ад генуэзцаў ажно ў XIV стагоддзі.

Але тэорыя і нацыянальныя інтарэсы адно, а дакументальна пацверджаныя факты — зусім іншае. Сумленнаму гісторыку цяжка аспрэчваць першынство ў гэтай справе менавіта палякаў. А Полацк у гэтай спрэчцы мае сваё месца. Бо на тэрыторыі не толькі сучаснай Беларусі, але і ўсяго Вялікага Княства Літоўскага гарэлка ўпершыню згадваецца менавіта ў гэтым горадзе! Прынамсі, па тых звестках, якія мы маем на сённяшні дзень.

Менавіта ў прывілеі Полацка на Магдэбургскае права 1498 года аддаваліся пад уладу войта ўсе «гарэлага віна дзелацелі», а таксама яго прадаўцы. Гэтая згадка на 3 гады старэйшая, чым першы ўспамін пра гарэлку ў сталічнай Вільні (1501 год), дзе пры двары вялікага князя Аляксандра быў тады нейкі майстар па вырабе гэтага напою па прозвішчы Цымерман.

**Можа, дачакаемся годнага збожжавага дыстыляту з Полацка пад маркай «1498»?**

Так што старажытны горад над Дзвіной можа ганарыцца яшчэ і такім прыярытэтам. Канечне, у захаванасці такіх старых дакументаў заўжды ёсць вялікая доля выпадковасці. Але ў тыя часы рачны гандаль сапраўды значыў больш, чым сухапутны, і ён даваў магчымасць Полацку пазычаць пэўныя тэхналагічныя навінкі — у прыватнасці, ад балтыйскіх немцаў, — не пазней за сталічную Вільню. Можа, калі дачакаемся сапраўды годнага збожжавага дыстыляту з Полацка пад маркай «1498»? Абы толькі, крый божа, гэта не была звычайная сучасная гарэлка з рэктыфікаванага спірту.

## 2. Крупнік

Магчыма, у славутага беларуска-літоўскага напою з гарэлкі, мёду і спецый, які літаральна год таму трыумфальна вярнуўся на наш рынак з нябыту, — полацкія карані. Чаму так можна сцвярджаць? Блізкі па рэцэптуры да крупніка напой, толькі з іншай назвай, згадваецца ў творы «Шляхціц Завальня» Яна Баршчэўскага, выпускніка полацкага езуіцкага калегіума. Вось цытата з гэтага твора ў перакладзе Міколы Хаўстовіча:

«"Загадай нам прынесці добрае гарэлкі, мёду і прыгатаваць журавін. Развітаемся са старым годам і спаткаем новы, а цяпер гэта пітво будзе яшчэ прыемнейшае, бо мароз мацнее і вецер паўночны". На падворку дзьмуў вецер, на стале палілася гарэлка. Завальня рупіўся, каб дадаць неабходную колькасць усялякіх патрэбных прыправаў і добры прыгатаваць напой. Пан Латышэвіч гутарыў са сляпым Францішкам. Стоячы каля пана Сівохі, Стась і Юзік апавядалі пра сваіх школьных таварышаў, пра майскія прагулянкі ў полі ды пра студэнцкі тэатр. Я, гледзячы на блакітны агонь гарэлкі, прыгадваў размаітыя гісторыі, якія чуў у дзядзькавай хаце, а найбольш у гэты час мне мроілася ў галаве апавяданне арганіста Андрэя пра вогненных духаў. Здавалася, з гэтага полымя на кліч адразу б выскачыў (дух) Нікітрон».

Тут гаворка ідзе фактычна пра адзін з варыянтаў крупніку (хоць самой гэтай назвы Баршчэўскі не ведаў), а менавіта пра крупнік палёны (фламбаваны), які быў літоўска-беларускім адказам на падобным чынам гатаваны нямецкі пунш.

Іншы аўтар XIX стагоддзя, Ігнацы Ходзька, у выдатнай прыгодніцкай аповесці «Успаміны квестара» вывеў як галоўнага героя ўраджэнца Полаччыны Міхала Лаўрыновіча, вымушанага пайсці ў манастыр, каб схавацца ад гневу ваяводы. Лаўрыновіч апісвае там соймік Полацкага ваяводства, які адбыўся ў 1780-х гадах ва Ушачах, калі сам Полацк ужо быў страчаны паводле першага падзелу Рэчы Паспалітай. У кульмінацыйны момант сойміка, калі прадстаўнікі партый-канкурэнтаў гатовыя былі ўжо пасекчы адзін аднаго на бігас, хтосьці мудра і міралюбна выгукнуў у натоўп: «На крупнік і смажаніну, панове!» — і радыкальна разрадзіў канфліктную сітуацыю.

Насамрэч, мы не ведаем, ці сапраўды твор сярэдзіны XIX стагоддзя дакладна перадае рэаліі 70-гадовай даўніны, а не адлюстроўвае стэрэатыпы самога Ходзькі. Але, прынамсі, на заяўку аб першынстве гэтага дастаткова. Нават з улікам таго, што магчымыя і іншыя прэтэндэнты: такія спрэчкі паміж сваімі толькі ўзбагачаюць нацыю. Калі б у Полацку сёння таксама задумалі выпускаць крупнік, то маглі б спасылацца на два нашыя нешараговыя літаратурныя творы ў пацвярджэнне глыбіні мясцовай традыцыі.

## 3. Сялява

Некалі Полаччына славілася гэтай смачнай рыбкай. Аўтар «Старапольскай энцыклапедыі» Зыгмунт Глогер, які сам нарадзіўся пад багатым на сяляву Аўгустовам, пісаў пра яе так: «Гэта адна з найсмачнейшых азёрных рыб Цэнтральнай Еўропы... У Літве славутымі былі некалі сялявы полацкія і аўгустоўскія, у Кароне — вялікапольскія з азёр ▸

### Сялява ў кляры з аўсяных шматкоў і апельсінавай цэдры

**Інгрэдыенты:**

- 8 вялікіх сяляў (больш за 50 г)
- 2 жмені аўсяных шматкоў («Геркулес» або інш.)
- 1 апельсін
- 3 яйкі
- 1 шклянка пшанічнай мукі
- 50 г масла (лепей топленага)
- соль, перац

**Спосаб прыгатавання:**

Нацерці на тарцы цэдру з апельсіна, змяшаць з пакрышанымі аўсянымі шматкамі. Дадаць соль і перац, а таксама муку. Узбіць яйкі і дадаць у кляр, добра перамяшаць. Мачаць кожную сяляву ў кляр, смажыць на топленым масле да залацістай «скарынкі» на адным баку, потым коратка на другім.



SHUTTERSTOCK.COM_BY STOCKPHOTOVIDEO

▶ у ваколіцах Мендзыжэча. Сялява жыве толькі ў глыбокіх азёрах».

Славутая некалі сялява полацкая пакінула бачныя сляды ў гісторыі. Родам з полацкіх баяраў быў вядомы дзеяч Уніяцкай царквы, мітрапаліт Антоні Сялява. Відаць, такое характэрнае прозвішча пацвярджае той культ сялявы, што існаваў некалі. Дый адно з самых славутых азёраў Беларусі, Сялява ў цяперашнім Крупскім раёне, некалі было на тэрыторыі старадаўняга Полацкага княства. Дарэчы, яно і дагэтуль адносна багатае на тую рыбу, якую, каб адрозніць ад назвы самога возера, тут называюць *сяляўкай*.

Эх, марыцца мне пра садружнасць біёлагаў, прамысловых рыбаводаў, менеджараў турыстычнай галіны, якія некалі разам папрацавалі б над адраджэннем папуляцыі і рэпутацыі гэтай сімвалічна важнай рыбкі ў азёрах Полацкага, Ушацкага, Лепельскага раёнаў... Каб увайшоў у моду «сяляўны сезон» са сваім адмысловым фестывалем, асвятленнем у прэсе, легендамі, сувенірамі і іншымі атрыбутамі культурнага міфа... Фантазёр? Выбачаюся, даруйце! Але ў сучасных Літве і Польшчы сялявай зарыбляюць вадаёмы і культывуюць рэгіянальныя традыцыі яе спажывання. Значыцца, можна і ў нас, абы было жаданне.

**Сялява** — ласосепадобная рыба з роду сігаў, вонкава трохі падобная да селядца. Спіна шэра-блакітная, бакі белаватыя, пуза белае, спінны і хваставы плаўнікі белаватыя з чарнаватай верхавінай, вочы срабрыстыя. Мяса белае, трохі ружовае (бо ласось), мае пах рыбінага тлушчу — яго часта нейтралізуюць лімонам. Утрымлівае шмат фосфару, так што праз пару гадзін пасля вылаву нават свеціцца ў цемры — таму вельмі карысная для мозгу. А высокае ўтрыманне магнію і гістыдыну стымулюе функцыі нервовай і імуннай сістэм. Касцей адносна няшмат. Сялява некалі асабліва высока цанілася ў Расіі, яна нават уваходзіла ў меню царскага каранацыйнага абеду, а таму называлася «царскім селядцом». Таксама лічыцца нацыянальным далікатэсам у фінскай кухні. Была славутай і на Полаччыне.

### 4. Гарачы шакалад

У канцы XVIII стагоддзя светач тагачаснай еўрапейскай навукі, аўстрыйскі езуіт Габрыэль Грубер (славенец паводле паходжання), які ў час забароны ордэна ў Заходняй Еўропе доўгі час выкладаў у полацкім езуіцкім калегіуме, акрамя сваіх дзіўных механічных вынаходак славіўся і рэцэптам выдатнага шакаладу. Падчас візіту ў Полацк у 1797 годзе расійскі імператар Павел I меў з Груберам працяглыя гутаркі і дэгуставаў ягоны гарачы шакалад. Пазней у Пецярбурзе Павел часта ўспамінаў полацкі шакалад, але там ніхто не мог яму прапанаваць нічога падобнага.

**Імператар Павел I часта ўспамінаў полацкі шакалад, у Пецярбурзе ніхто не мог яму прапанаваць нічога падобнага**



**У XVIII стагоддзі гарачы шакалад пілі з такіх кубкаў з 2-ма ручкамі,** як гэты цудоўны экзэмпляр, выраблены на Каралеўскай фарфоравай мануфактуры.

Нядаўна Полацкі дзяржаўны універсітэт, які працуе ў сценах былога калегіума і намагаецца падкрэсліць гістарычную пераемнасць, аднавіў гістарычны рэцэпт і частуе «шакаладам Грубера» арганізаваныя экскурсійныя групы.

### 5. Клёцкі з душамі

Калі аднойчы ў светлай будучыні кулінарная карта Беларусі атрымае афіцыйны статус, то несумненна, што гэты беларускі аналаг літоўскіх цэпелінаў трэба будзе прызнаць *брэндавай* стравай менавіта полацка-лепельскага рэгіёна.

Зямля крывічоў-палачан — самая сапраўдная «метраполія» традыцыйных клёцак з душамі. Менавіта тут іх надзялялі сакральным сэнсам адзінства цела і душы. Нездарма гэта рытуальная страва на Дзяды.

Менавіта ў гэтым рэгіёне найбольш распаўсюджаная і сама гэтая назва — у іншых частках Беларусі страву часцей за ўсё завуць інакш.

Сапраўдную оду клёцкам з душамі ў вершы «Чышчу бульбу» склаў ураджэнец Ушачаў, народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін.

Там бульбай адбывалі
Сьвяты ўсе:
На клёцкі бульбу дралі на хаўтуры,
З душамі клёцкі дзень віталі хмуры
У кроплях пары,
Нібыта ў расе.
І на Дзяды таксама клёцкі елі,
Напаміналі, што не вечна ў целе
Душа сьвятло дрыготкае нясе…

Ці трэба здзіўляцца таму, што і абсалютным чэмпіёнам Беларусі па з'яданні гэтай нацыянальнай стравы на хуткасць неаднаразова быў менавіта палачанін Уладзімір Якімаў? Напрыклад, у 2016 годзе за 25 хвілін ён адужаў ажно 12 вялікіх клёцак агульнай вагой больш за 2,5 кг (!).


**Падчас чэмпіяната Беларусі па з'яданні клёцак** у мінскім рэстаране «Настальгія». Чэрвень 2016 года.

TUT.BY, ФОТА ДЗМІТРЫЯ СМІРНОВА

## Клёцкі з душамі, магчыма, былі сакральнай стравай крывічоў

### Спіс адкрыты

Спіс на гэтых пяці стравах, канечне, не вычарпаны. Напрыклад, у Полацку нядаўна рабіліся спробы адрадзіць напой «раўгеня» (больш уласцівы Віленшчыне, але таксама і заходняй частцы былога Полацкага княства — Дзісеншчыне).

Мне асабіста не вельмі падабаецца звычай ужываць у ежу мяса бабра, але можна дапусціць, што найбольшае прамысловае значэнне баброўніцтва (а значыцца, і ўжыванне мяса) некалі мела менавіта на Полаччыне. Нават тытул галоўнага ўрадоўца, пакуль яшчэ захоўвалася аўтаномія княства, гучаў як «баброўнічы гаспадарскі».

У залежнасці ад таго, як сёння правесці граніцы навакольнага рэгіёна — паводле межаў даўняга княства, ваяводства, павета і г. д., — Полацк можа «зачарпнуць» з ваколіцаў яшчэ некалькі цікавых гістарычных спецыялітэтаў. Праблема пакуль у іншым: мала хто ў Беларусі ўсур'ёз цікавіцца рэгіянальнай кухняй. Як попыт, так і прапанова пакуль у зародкавым стане. Мясцовыя ўлады і турыстычная галіна не навучыліся пакуль так культываваць рэгіянальныя традыцыі, каб яны сапраўды зацікавілі падарожнікаў і прынеслі энтузіястам адчувальны даход.

Беларускія гістарычныя крыніцы даюць някепскі матэрыял для адраджэння прыгожых даўніх традыцый, нічым не горшых, чым у суседзяў. Але без людзей, якім такая гульня прыносіць асалоду, яна немагчымая. Кожны беларускі горад, які хоча сур'ёзна развіваць турызм, мусіць добра вывучыць сваю гастранамічную гісторыю — як даўнюю, так і зусім новую. І навучыцца яе манетызаваць. ◆


**Клёцкі з душамі.**

ZVIAZDA.BY

# Брат акадэміка Карскага лічыў сябе рускім

## *а яго дачка падтрымала БНР*

**Акадэмік Яўхім Карскі нарадзіўся ў вёсцы Лаша пад Горадняй. Бацькам — маладзенькаму дзяку і дачцэ старога лашанскага дзяка — было па 19, яны маглі распісацца, але з нейкай прычыны гэтага не зрабілі. Будучы акадэмік атрымаў прозвішча маці. А шасцёра малодшых братоў і сясцёр былі ўжо Навіцкія, па бацьку. Пра Івана Навіцкага піша Андрэй Блінец.**

У савецкія часы біёграфы Карскага запусцілі міф, нібыта ягоны бацька быў настаўнікам. Насамрэч, той усё жыццё аддаў царкоўнаму служэнню. Змяніў дзевяць прыходаў, быў дзякам, псаломшчыкам, святаром, а паралельна выкладаў у царкоўна-прыходскіх школах. Усіх сыноў Фёдар Навіцкі адпраўляў у Мінскае духоўнае вучылішча. Не быў выключэннем і чацвёрты сын Іван. Скончыўшы духоўную семінарыю, 21-гадовы Іван быў накіраваны псаломшчыкам у Навасёлкі

**Яўхім Карскі** (1861–1931) — мовазнавец і этнограф, акадэмік, аўтар маштабнай шматтомнай працы «Беларусы», якая выйшла ў пачатку ХХ стагоддзя і з якой стала канчаткова зразумела, што беларуская мова — не дыялект, а беларусы — самастойная нацыя, а не частка рускага народа.



СЯМЕЙНЫ АРХІЎ САЖЫНЫХ З ГОРАДА СЫКТЫЎКАРА

**Іван Навіцкі.**
Фота апошніх гадоў жыцця.

Слуцкага павета. А праз год, пасвечаны ў святары, прыняў прыход Іаана-Прадцечанскай царквы сяла Блячын недалёка ад Клецка. Наўрад ці ён меркаваў, што ў гэтым прыходзе яму суджана служыць больш за трыццаць гадоў — аж да смерці.

### Першыя дзіцячыя ялінкі

З Іванам Навіцкім Блячыну пашанцавала. Ён быў пастырам дзейным і энергічным. Вясковая царкоўна-прыходская школа размяшчалася ў асобным будынку, пры якім быў інтэрнат для дзяцей з аддаленых вёсак. Пры школе дзейнічала сталовая, дзе ўсе навучэнцы атрымлівалі гарачыя абеды. У 1903 годзе школу наведаў епіскап мінскі і тураўскі Міхаіл, які застаўся задаволены ўбачаным і пакінуў вучням тры рублі на цукеркі.

Адным з першых у епархіі, у 1907–1908 гадах, айцец Іван пачаў арганізоўваць сустрэчы Новага года з ялінкай. На такіх вечарах школьнікі спявалі песні, дэкламавалі вершы, вадзілі карагоды і атрымлівалі падарункі: ласункі (цукеркі, арэхі, абаранкі) і дзіцячыя каштоўнасці (хустачкі, сцізорыкі, люстэркі).

Сродкі на святкаванне давала іншая ініцыятыва святара — спажывецкае таварыства. Такія таварыствы засноўваліся, каб даць магчымасць сялянам набываць тавары першай неабходнасці па ніжэйшых цэнах. Таварыства месцілася ў спецыяльным доме побач з царквой. Гэта быў для сялян і своеасаблівы клуб.

### Іван і Яўхім

Яўхім Карскі неаднаразова бываў у брата ў Блячыне. У 1900 годзе ён, прафесар Варшаўскага ўніверсітэта, разам з жонкай і дачкой правёў тут усё лета. Навуковец адпачываў і збіраў матэрыял пра тутэйшую гаворку. У сваім артыкуле «Заметки по белорусским говорам» Карскі прывёў 43 мясцовыя выразы. Ад швагеркі Надзеі Платонаўны, Іванавай жонкі, ён запісаў польскамоўны варыянт



**Блячынская царква, 1926 год.** Малюнак Сяргея Новіка-Пеюна.



**Царква ў вёсцы Садовая**, сучасны выгляд. У 1963 годзе, у перыяд барацьбы з рэлігіяй, прыход Іаана-Прадцечанскай царквы быў закрыты. У 1965-м яе будынак цалкам зруйнавалі. На пачатку XXI стагоддзя царкву сталі адбудоўваць, а ў 2005 годзе яна зноў пачала дзейнічаць.

## Сяло Блячын і Блячынская царква

Назва сяла сучаснымі беларусамі, хутчэй за ўсё, будзе асацыявацца з непрыстойным словам. Але паходжанне яе — зусім іншае. У даўнія часы слова «блячыць» азначала памыляцца, блудзіць, пакланяцца лжывым багам. Корань яго дагэтуль захаваўся ў некаторых славянскіх мовах, згадаем хоць бы польскае *błąd* — памылка і беларускія словы блуд, аблуда. У 1964 годзе вёска Блячын аб'ядналася з суседняй Брыкаўшчынай, а новае паселішча атрымала назву Садовая. Блячынская царква была пабудавана ў 1626 годзе на сродкі шляхціца Наваградскага павета Адама Магільніцкага. Магільніцкі быў даверанай асобай Радзівілаў, нават пазычаў ім грошы. Таму ён мог дазволіць сабе фундаваць уніяцкую царкву, якая праз два стагоддзі стала праваслаўнай. Блячынскі прыход быў бедны, але святар атрымліваў добрае жалаванне — 391 рубель 68 капеек за год. Для параўнання: рабочы ў Мінскай губерні зарабляў за год 137 рублёў, аканом у памешчыцкай гаспадарцы — 120–250 рублёў, упраўляючы маёнтка — 600–700 рублёў. Што да тагачасных цэнаў, то кілаграм жытняга хлеба каштаваў 8,5 капейкі, пшанічнага — 15 капеек, мяса найлепшых гатункаў — 30, цукру — 40, пуд бульбы — 20 капеек.

«Евангелістай песні», пра што праз 15 гадоў успомніў у трэцім томе «Беларусаў».

Гасцяваў вучоны ў брата і летам 1915 года, калі на тэрыторыю Беларусі прыйшлі нямецкія войскі. У пачатку ліпеня немцы прарвалі фронт, пачалося адступленне расійскіх войск і тэрміновая эвакуацыя ўстаноў. Карскі выехаў у Варшаву, а адтуль разам з універсітэтам эвакуіраваўся ў Маскву.

### Трывожныя месяцы

Іван Навіцкі застаўся на месцы і вёў летапіс свайго прыхода, апісваючы падзеі ад трэцяй асобы:

*«Ліпень. Аддадзена непрыяцелю Варшава, войскі адступаюць.*

*Жнівень. Войскі хутка адступаюць, рухаецца маса бежанцаў па шашы і гасцінцах. Непрыяцель наступае.*

*22 жніўня. Абвешчана эвакуацыя сем'яў служачых і казённай маёмасці.*

*26 жніўня. Найлепшая царкоўная маёмасць адпраўлена ў Маскву.*

*28 жніўня. З'явіліся абозы бежанцаў у сёлах. Адбываецца рэквізіцыя хатняй жывёлы.*

*5 верасня. Прыбыў епіскап Мітрафан для наведвання бежанцаў і запрасіў на нараду ў м. Клецк духавенства.*

*8 верасня. Рухаецца маса войска, абозы і гурты жывёлы.*

**«Масы бежанцаў паўсюль робяць спусташэнні ў садах і агародах»**

*10 верасня. Пачулася гарматная кананада; непрыяцель падышоў да р. Шчара і г. Баранавічы... З'явіўся нямецкі аэраплан, кружляў над сялом, выглядаў абозы. Званы здадзены каменданту.* ▸




**Сям'я Навіцкіх, каля 1919–1920 гадоў.** Сядзяць крайнія справа Іван Навіцкі, яго жонка Надзея Платонаўна, іх дачка Наталля.

*12 верасня. Страшная кананада. Усіх навакольных цэркваў прычты з'ехалі. Масы бежанцаў паўсюль робяць спусташэнні ў садах і агародах.*

*13 верасня. У царкве адбылася Усяночная... Пры адпаведным слове святара Іаана Навіцкага ўся царква плакала. Усю надзею ўсклалі на мясцовашанаваную ікону Божай Маці. Непрыяцель спынены.*

*14–20 верасня. Стрэлы паступова сцішваюцца. Насельніцтва страшэнна запалохана, ідзе па параду да святара, які ўвесь час трымаецца напагатове, каб не быць заспетым знянацку. Увесь час знаходзіцца ў раз'ездах па ваенных стаянках, а таксама ездзіць па вёсках, угаворвае сялян супакоіцца і ўзяцца за працу.*

*21 верасня. Сяляне трохі супакоіліся і пачалі капаць бульбу.*

*Кастрычнік. Жыццё ўваходзіць у ранейшую каляіну».*

## За нялюбымі палякамі

Падзеі наступных гадоў апісаныя ў летапісе вельмі сцісла. Кожнаму з новых гаспадароў Навіцкі даваў кароткую характарыстыку. Немцы «не перашкаджалі праваслаўным рабіць набажэнствы, адправы і навучанне ў школах. Да духавенства яны ставіліся з павагай». А вось пры бальшавіках «руплівасць прыхаджан да храма аслабла».

Мяжа 1921 года пакінула Блячынскі прыход на польскім баку, але прайшла ўсяго за некалькі кіламетраў ад царквы. З-за непаразумення з пагранічнай вартай каля свайго дома быў застрэлены царкоўны староста Лаўрэн Лях.

Да польскай улады айцец Іван паставіўся без сімпатыі. Польская дзяржава была для яго чужой. Пазней унучка прыгадвала, што ён шмат гадоў перахоўваў у сябе малюнкі па расійскай гісторыі (напрыклад, «Пераход арміі Суворава праз Альпы»): «Напэўна, дзядуля спадзяваўся, што вернецца Расія і наглядныя дапаможнікі яшчэ спатрэбяцца». Асабліва цяжка Навіцкі прымаў

У 1910 годзе айцец Іван адгукнуўся на заклік Мінскага царкоўнага гісторыка-археалагічнага камітэта аб зборы старажытнасцяў і перадаў кнігу «на славянскай мове». У пераліку ахвярадаўцаў ён згадваецца побач з рэдактарам «Нашай Нівы» Аляксандрам Уласавым і акадэмікам Аляксеем Шахматавым.


МУЗЕЙ ГІСТОРЫІ КЛЕЧЧЫНЫ

**Акадэмік Яўхім Карскі.** У 1926 годзе ён заязджаў да брата ў Блячын падчас вяртання з замежнай камандзіроўкі і тады падараваў яму гэты здымак.

перавод школ на польскую мову, падаражанне падручнікаў, штрафы для бацькоў, што не адпраўляюць дзяцей у школу...

## Захопленая беларушчынай

Але і ў гэтую русіфікаваную сям'ю стукалася беларуская ідэя — праз маладзейшае пакаленне. У архівах БНР захоўваецца дакумент з ліпеня 1917-га пад загалоўкам «Месцы беларускай працы (спіс беларускага актыву ў гарадох Расеі)». Тут сярод іншага ёсць і «*Клецак, Слуцк. пав. Блячын. Л. Навіцкая*». Гэта Леаніла, дачка мясцовага настаяцеля, ёй тады было каля 18 гадоў.

Нешта канкрэтнае пра яе ўдзел у нацыянальным руху пакуль сказаць цяжка, але ўключэнне Блячына ў такі спіс побач з Віцебскам, Мінскам, Кіевам, Казанню і Масквой выглядае красамоўна. Зацікаўленасць беларушчынай у сям'і працягвалася: у 1925 годзе Навіцкія атрымлівалі з Вільні прынамсі дзве газеты — «Жыццё беларуса» і «Беларускую ніву».

Леаніла Навіцкая мела, аднак, слабае здароўе і доўга не пажыла. Хвароба дачкі супала з апошняй урачыстасцю, арганізаванай айцом Іванам. Летам 1926-га святкавалі 300-годдзе мясцовай царквы. У цэнтры сяла ўзвялі ганаровую арку, прыбраную зелянінай. Увесь шлях ад дома святара да храма быў усыпаны кветкамі, а з двароў насустрач працэсіі выносілі хлеб-соль. Прыехаў епіскап пінскі і палескі Аляксандр, прыйшлі працэсіі з суседніх цэркваў. Пра гэту падзею ў вёсцы старажылы памяталі нават у пачатку XXI стагоддзя.

Але сам Навіцкі цалкам аддацца святкаванню не мог. Атрымаўшы вестку пра стан дачкі, ён быў вымушаны дачасна пакінуць высокіх гасцей. Тыя ацанілі гэта як непавагу, і адносіны святара з царкоўным кіраўніцтвам пачалі псавацца.

Неўзабаве памерлі Леаніла і яе маленькая дачка. Усё гэта не дадавала здароўя і самому айцу Івану. Ён пакутаваў ад сардэчнай хваробы, і 26 снежня 1928 года памёр. Развітацца з ім прыйшлі і ўласныя прыхаджане, і мясцовыя каталікі.

А сваякам ягоным была суджана няпростая доля. Дачка Наталля загінула ў 1944 годзе ў Калдычэўскім лагеры смерці пад Баранавічамі — яе кінулі туды за сувязь з партызанамі, як і яе мужа — святара Мікалая Хільтова. Удава Надзея Платонаўна з дому Гарбацэвічаў (1873–1964) перажыла і мужа, і дзяцей, і зяцёў. Памерла праз год пасля таго, як быў закрыты Блячынскі прыход, і за год да таго, як разбурылі Іаана-Прадцечанскую царкву. ◆




СЯМЕЙНЫ АРХІЎ АЛЯКСАНДРА КАРСКАГА З САНКТ-ПЕЦЯРБУРГА, ПРАЎНУКА АКАДЭМІКА

Дорогая Наташа!
Мы здоровы, сейчас в Блячине. Нина еще жива, ее девочка тоже. В скором времени буду в Ленинграде.
Целую всех
Е. Карский

Rosja SSSR
Leningrad.
Наталии Евфимьевне Борковской.
Ленинград.
7 линия, д. 2, кв. 9.

**Паштоўка Яўхіма Карскага ў Ленінград, дзе ён піша аб знаходжанні ў брата**, 1926 год.

# Савецкі Саюз, Ляхавіцкі раён,

# ПАДПОЛЬНАЯ СЕМІНАРЫЯ

**БССР, пасляваенны час. На ўсходзе краіны ўсе касцёлы да аднаго закрытыя, а на захадзе іх закрываюць пры першай магчымасці, у тым ліку з-за адсутнасці святароў. Тады пробашч з мястэчка Мядзведзічы Ляхавіцкага раёна арганізуе таемную каталіцкую семінарыю. Піша кандыдат гістарычных навук Павел Булаты.**

Пра незвычайную гісторыю, якая адбывалася ў Мядзведзічах (Ляхавіцкі раён Брэсцкай вобласці) у другой палове драматычнага XX стагоддзя, я даведаўся амаль выпадкова. Падчас даследчай вандроўкі па вёсках і мястэчках былога Навагрудскага павета ў пошуках даўніны шлях прывёў у гэта мястэчка. Галоўнае, што там вабіла, — прыгожы і велічны касцёл. Пасля размовы з пробашчам нея няўзнак спытаў: а хто тут мог бы што распавесці цікавага пра мінулае? На што ксёндз адказаў: «Трэба ісці да пані Бранiславы». Падобны адказ давалі і іншыя месцічы, якія сустракаліся па дарозе... Што ж, да пані Браніславы дык да пані Браніславы! Ад размовы са сталай кабетай з цёплымі прасветленымі вачыма нічога незвычайнага не чакаў — у лепшым выпадку аповеды пра вядомае мінулае ў стылі этнанарысаў: як ткалі, што танцавалі, дзе жыў які пан... Але тое, што я пачуў за гадзіны гутаркі, пакінула сапраўды моцныя ўражанні!..

### Касцёл абаранілі

Мядзведзічы ўпершыню згадваюцца яшчэ ў XV стагоддзі. Тут у 1483 годзе быў пабудаваны адзін з першых на Беларусі касцёлаў. Сёння на старадаўніх падмурках узвышаецца храм Пятра і Паўла ў стылі неабарока. Будавалі па праекце Стэфана Шылера — аднаго з галоўных архітэктараў Варшавы пачатку XX стагоддзя. Цікава, што Мядзведзічы да вайны былі цэнтрам беларускага каталіцтва. У 1918 годзе тут прагучала адно з першых казанняў па-беларуску — ад субдыякана Пятра Татарыновіча. У 30-я Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры, які ўзначальвалі беларускія ксяндзы, пабудаваў тут першы



і адзіны Беларускі дом — такі сабе дом культуры.

Узімку 1950-га тутэйшага ксяндза Вацлава Пянткоўскага арыштавалі. Савецкая ўлада вынесла прысуд «агенту Ватыкана» і агітатару супраць калгасаў — дзесяць гадоў лагера.




## Каб уратаваць касцёл, мядзведзеўцы кідаліся пад трактары

Касцёл Святых Апосталаў Пятра і Паўла ў Мядзведзічах.

ФОТА ПАЎЛА БУЛАТАГА

Сваё пакаранне святар адбываў у Казахстане.

Пакуль ксёндз праходзіў праз пякельныя колы савецкай лагернай сістэмы, у мядзведзіцкай парафіі разгортваліся драматычныя падзеі. Пасля арышту святара ўлады вырашылі зруйнаваць і касцёл. Але нечакана сутыкнуліся з супраціўам. Бо бараніць свой храм — справа для мядзведзеўцаў звычная. Яшчэ ў 1860-я яны не дазволілі расійскім уладам зрабіць з яго праваслаўную царкву. Цяпер жа адбіваліся ад камуністаў.

Пра абарону святыні ў Мядзведзічах ходзяць легенды. Людзі каля касцёла днявалі і начавалі; а як толькі хто бачыў саветчыкаў — адразу білі ў званы і збягалася ўсё мястэчка. Мужчыны, каб іх было не пазнаць, пераапраналіся ў жаночую вопратку: да пратэсту жанчын улады ставілася больш паблажліва. Кідаліся пад трактары, жывым ланцугом стаялі каля святыні. Урэшце перамаглі. Касцёл не быў зачынены, і ў ім нават дазволілі весці набажэнствы. А неўзабаве, у 1956 годзе, вярнуўся з лагера і ксёндз Вацлаў. І адразу пачаў аднаўляць парафіяльнае жыццё.

### Таемная семінарыя

У пасляваенны час істотнай праблемай Каталіцкага касцёла ў СССР была нястача святароў. На ўсю краіну Саветаў дзейнічалі толькі дзве каталіцкія семінарыі — у Каўнасе і Рызе. Паступіць туды было амаль немагчыма. Дазвол на навучанне выпісвалі мясцовыя ўлады і рабілі гэта неахвотна. І каб хоць часткова даць рады вырашэнню гэтай праблемы, у 1970-я мядзведзіцкі святар вырашыў арганізаваць пры сваёй парафіі таемную семінарыю.

Каб не прыцягваць увагі і не патрапіць пад артыкул аб дармаедстве, семінарысты афіцыйна ўладкоўваліся на працу. Канспіратыўныя заняткі праходзілі ў плябаніі. Ксёндз Пянткоўскі выкладаў кананічнае права, гісторыю Касцёла, філасофію, этыку, замежныя мовы ды ігру на фісгармоніі.

Выкладанне ажыццяўлялася на польскай мове — Пянткоўскі і з парафіянамі заўсёды гаварыў па-польску. Гэта пачынаючы з 1990-х Касцёл возьме курс на беларускую мову, а ў тыя гады ▶


CATHOLIC.BY

**Ксёндз Вацлаў Пянткоўскі.**

**Вацлаў Пянткоўскі** нарадзіўся ў 1902 годзе ў мястэчку Ясенеўка на Падляшшы, духоўную адукацыю атрымліваў у Пінскай семінарыі, накіроўваўся на вучобу ў Рым. Да вайны служыў прэфектам навагрудскай гімназіі імя Адама Міцкевіча, а затым у Івянцы, Рубяжэвічах і Мядзведзічах. Разам з мясцовым людам перажыў ваеннае ліхалецце. Памёр 30 лістапада 1991 года ў Мядзведзічах, там і пахаваны на мясцовых могілках.

▸ на ўвесь Касцёл быў адзіны прынцыпова беларускамоўны ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі ў Вішневе пад Валожынам.

Раз-пораз прыязджалі святары, у тым ліку і з Польшчы, экзаменавалі слухачоў. Выпускнікі праходзілі «практыку» ў парафіях. Пасля заканчэння курсаў яны давучваліся ў Рызе ці Каўнасе або таемна пасвячаліся ў святары і пачыналі служэнне.

Сярод іншых, навучанне ў ксяндза Вацлава прайшлі два сённяшнія беларускія біскупы — Казімір Велікаселец і Антоній Дзям'янка. Абодва яны цяпер служаць у Пінскай дыяцэзіі.

## Ані слова пра палітыку

У апошнія гады, калі Пянткоўскаму было ўжо пад дзевяноста, ксёндз Вацлаў працягваў займацца душпастырствам. 11 лютага 1988 года папа Ян Павел II надаў яму годнасць інфулата, якая дае права на нашэнне інфулы — галаўнога ўбору рымска-каталіцкага духавенства, што мае форму мітры. Ян Павел II назваў ксяндза Вацлава «выхавальнікам шматлікіх ксяндзоў».

Жыхары Мядзведзічаў добра памятаюць ксяндза, шмат цікавага пра яго апавядаюць. Запомнілі тое, што пасля лагерных пакут ксёндз ані слова не казаў пра палітыку. Быў ён чалавек шчыры, але замкнёны, чужых людзей да сябе не дапускаў. Ён вельмі любіў дзетак і часам збіраў іх, каб пачытаць кніжкі, асабліва любіў міцкевічаўскага «Пана Тадэвуша».

Помняць людзі і тое, як ксёндз канём ездзіў па хатах і спавядаў сялян. Кажуць, хто не вянчаўся — таго да споведзі не прымаў. Згадваюць, што, калі ксёндз ішоў па вуліцы ў альбе (белае літургічнае адзенне), тады з ім усе віталіся, а святар усіх благаслаўляў і зычыў дабра. ◆

**Магіла Вацлава Пянткоўскага** на мядзведзіцкіх могілках.

ФОТА ПАЎЛА БУЛАТАГА

# Сігналам да бунту была талерка з халадцом

**Барысаўская турма была перабудаваная са старога замка. У ёй і адбылося адно з самых страшных здарэнняў у гісторыі горада, піша архівіст Дзмітрый Кішкілевіч.**

16 кастрычніка 1911 года. Нядзеля, 6-я гадзіна раніцы. У Барысаўскім турэмным замку пачаўся чарговы дзень. Гучным басам малодшыя наглядчыкі пабудзілі арыштантаў. Сны пра волю канчаюцца, на пад'ём даецца некалькі хвілін.

Большасць арыштантаў маюць моцнае жаданне, каб іх выпусцілі ў прыбіральню. Бляшанае вядро, ці «параша», што стаіць у камерах, запаўняецца вельмі хутка. На паверсе ёсць два пакоі для спраўлення фізічных патрэб. Таму арыштантаў з кожнай камеры па чарзе выпускаюць на калідор у прыбіральні. Акрамя гэтага, трэба аднесці свой матрац з пасцеллю ў «матрацную». Дзесяць хвілін, якія адведзеныя на выкананне ўсяго гэтага, — вялікае выпрабаванне для навічкоў.


слушайтя
все камеры назамк
Одне которжане
гдето втомъ конце
номы сами незнайм
номы сцымъ и серим
вкамеры и просимъ
вас недопустите
нас невиных погибнут

НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ АРХІЎ БЕЛАРУСІ

**Запіска, схаваная ў хлебным мякішы, якую кінулі з акна арыштанты:** «Слушайте, все камеры на замке. Одне которжане где-то в том конце, но мы сами не знаим. Но мы сцым и серым в камеры и просим вас не допустите нас невиных погибнут».

А 8-й у камеры прыносяць сняданак: чай ды прасяную кашу. Таксама выдаюць 800 грамаў хлеба на цэлы дзень.

А 14-й — час спатканняў са сваякамі. У вязня ёсць ▸

**Фотаздымак Барысаўскага турэмнага замка** (на заднім плане). 1910-я гады.



З ПРЫВАТНАЙ КАЛЕКЦЫІ УЛ. ЛІХАДЗЕДАВА

Барысаўскі турэмны замак быў збудаваны ў канцы 1860-х на месцы сярэднявечнага.

пaўгадзіны, каб даведацца апошнія навіны з «вялікай зямлі» ды атрымаць перадачы: свежую бялізну і хатнюю ежу.

## Крык

У той дзень начальнік турмы Міхаіл Парамонаў выехаў па справах у губернскі Мінск, таму атмасфера была разняволеная. На турэмным двары размаўляюць ды смяюцца наглядчыкі. Сярод іх 55-гадовы Іосіф Аўчук, які неўзабаве ідзе выконваць абавязкі на другі паверх. Яму дапамагае Герасім Іванькоў.

А 16-й гадзіне старшы наглядчык турмы Ігнат Кручынскі зайшоў ва ўнутраны двор, правяраючы працу падначаленых. У гэты момант цішыню скалануў жахлівы крык. А ўслед за ім прагучаў і сігнал трывогі.

Кручынскі хутка падняўся на другі паверх, адкуль даносіўся лямант. Уваход на калідор з камерамі зачынены. Старшы наглядчык пагрукаў у тоўстыя драўляныя дзверы. Мітусня ў калідоры сціхла, навісла

**План верхняга паверха Барысаўскага турэмнага замка.** Чырвонымі плямамі пазначаны лужыны крыві. 1911 год.

НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ АРХІЎ БЕЛАРУСІ





**Панцыры і шчыты, якімі былі ўзброеныя паліцыянты.** 1910-я гады.

трывожная цішыня. Зазірнуўшы ў невялікае дзвярное акенца, Кручынскі скалануўся: на яго глядзела дула рэвальвера. Наглядчык кінуўся ўбок, і толькі гэта яго выратавала. Стала зразумела: у турме бунт.

## Падыдзі да «ваўчка»

Палова на 18-ю. На месца падзей прыбыў малады, энергічны памочнік барысаўскага спраўніка Дзмітрый Данілаў. Прамінуўшы вартаўнікоў з ружжамі, ён рашуча падышоў да дзвярэй у калідор другога паверха. На іх ужо было шмат скразных слядоў ад куляў.

— Навошта вы гэта робіце? Што вы хочаце? — паспрабаваў наладзіць кантакт з арыштантамі Данілаў.

— Выйсці хочам.

— Што вы зрабілі з наглядчыкамі?

— Схавалі, — смяецца нехта з бунтаўнікоў.

— Кідайце зброю ды адчыніце дзверы! — заклікаў Данілаў. — Будзем размаўляць адносна вашых патрабаванняў.

— Хто гэта кажа? — пытаюцца праз дзверы.

— Памочнік спраўніка Данілаў!

— Не чуем. Падыдзі да «ваўчка» [акенца з кратамі ў дзвярах]!

Не дачакаўшыся адказу, бунтаўнікі зноў пачалі страляць.

— Ты дзе, Данілаў?! — чуецца рогат з-за дзвярэй.

Так скончылася першая спроба перамоў.

## Нас тут сорак чалавек!

17 кастрычніка, 1-я гадзіна ночы. Прайшло ўжо 9 гадзін з таго часу, як арыштанты забарыкадаваліся на другім паверсе. Ужо вядома, што актыўнымі ўдзельнікамі і, магчыма, завадатарамі бунту з’яўляюцца катаржнікі з камеры № 3: 31-гадовы Іван Абрамовіч, 20-гадовы Калістрат Косаў і 33-гадовы Канстанцін Сівец. Менавіта яны кантактуюць з аховай. Пра лёсы наглядчыкаў Аўчука ды Іванькова нічога невядома. Іхніх галасоў не чуваць, пытанні пра наглядчыкаў бунтаўнікі ігнаруюць. Вакол турмы выстаўленыя ўзброеныя вартавыя і чальцы канвойнай каманды.

Неўзабаве на падмогу барысаўскім турэмшчыкам прыехала падмацаванне з губернскага цэнтра. На паўторныя перамовы з бунтаўнікамі выйшаў прыстаў 1-й часткі Мінска Уладзімір Лапцеў, былы начальнік мінскіх сышчыкаў. Ён настойліва ўгаворвае арыштантаў выкінуць зброю праз акно і паразмаўляць пры адчыненых дзвярах.

— Ды нас тут сорак чалавек! — нервова адказаў яму Абрамовіч і ўпершыню выставіў ультыматум: — Калі вы нас не вызваліце, турма будзе знішчана: у нас ёсць бомба!

Пасля таго арыштанты змоўклі і перасталі ісці на кантакт. Пасля доўгіх спрэчак было прынята рашэнне адкласці актыўныя дзеянні да раніцы. ▶





**Малюнак унутранага боку ўваходных дзвярэй на другі паверх турмы.** Чырвоным колерам пазначаныя сляды крыві на ручцы трывожнага званка. 1911 год.

### Штурм

А 8-й раніцы да вокнаў калідора з абодвух канцоў паставілі пажарныя драбіны, а на пляцоўцы ля дзвярэй сабраліся паліцэйскія чыны. Памочнікі прыстава Іван Рамашоў і Стафан Будагоўскі, гарадавыя Завальнікаў, Шаблоўскі і вартавы Акуліч апранулі на сябе жалезныя панцыры і ўзялі ў левыя рукі шчыты, а ў правыя — рэвальверы-«наганы». Уладзімір Лапцеў апошні раз прапанаваў бунтаўнікам здацца. У адказ — цішыня.

Вартавыя залезлі на пажарныя драбіны ля калідорных вокнаў. Праз некалькі секундаў яны па камандзе пачалі абстрэльваць калідор з двух бакоў, прымушаючы арыштантаў схавацца ў камеры. З дапамогай сякер і ламоў паліцэйскія высадзілі зачыненыя дзверы і ўварваліся ў калідор. Сярод раскіданай мэблі, якой арыштанты забарыкадавалі дзверы, ляжаў знявечаны труп наглядчыка Іванькова.

Штурмавая група адкрыла агонь па бунтаўніках. Рамашоў з Завальнікавым абстрэльвалі левы бок калідора. Нязручны шчыт не дазваляў арыентавацца ў прасторы, таму Рамашоў на імгненне высунуў галаву з-за шчыта. І тут жа яму ў правае вока патрапіла куля.

Але калег Рамашова гэта не спыніла. Частка паліцэйскіх заняла правы бок калідора і забегла ў камеру № 3, дзе месціліся катаржнікі. Тыя ад адчаю сталі кідаць у паліцыю драўляныя нары. Паліцыя ў адказ страляла па нагах, каб узяць бунтаўнікоў жывымі.

У левай частцы калідора знаходзіліся некалькі гарадавых і начальнік турмы Парамонаў. У дальнім куце Парамонаў пабачыў падазроныя рухі. Ён наблізіўся да матрацнага пакоя і адкрыў агонь па неахайна складзеных матрацах. Катаржнік Храпавіцкі памёр на месцы, а Сівец, які хаваўся разам з ім, атрымаў раненне.

А як толькі Парамонаў апусціў зброю, невядома адкуль выскачыў катаржнік Абрамовіч і стаў цэліць рэвальверам яму ў твар. Начальнік турмы паспеў выбіць пісталет, але катаржнік схапіў яго за шыю і стаў душыць. Завязалася бойка. Абрамовіч перамагаў, але яго спынілі некалькі стрэлаў.

### Пасівеў за адну ноч

Штурм і зачыстка паверха занялі ўсяго 15 хвілін. Калі дым ад стрэлаў рассеяўся, адкрылася жудасная карціна: паўсюль была кроў. Забітымі аказаліся два катаржнікі, паліцэйскі Рамашоў і малодшы наглядчык Іванькоў.

Ніякай бомбы на паверсе не знайшлі. А малодшы наглядчык Іосіф Аўчук, перапужаны, але цэлы, сядзеў ля ганка турмы ды калаціўся. Ад перажытага за адну ноч ён пасівеў.

## Наглядчык Іосіф Аўчук ад перажытага за адну ноч пасівеў

Расследаванне было даручана следчаму па найважнейшых справах Мінскага акруговага суда Піманаву. Дзякуючы ягонай працы захаваліся падрабязныя паказанні амаль трыццаці сведак, у тым ліку наглядчыка



НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ АРХІЎ БЕЛАРУСІ

**Мінскі паліцмайстар (1907–1914 гады) Дзмітрый Аляксандравіч Сакалоў.**

Аўчука. Падчас першых гутарак Аўчук дрыжаў, плакаў ды страчваў прытомнасць. І толькі праз тыдзень змог распавесці падрабязнасці.

### Па шыі нажом

Аўчук пачаў дзяжурства на другім паверсе а 15-й. Праз паўтары гадзіны павінен быў прыйсці яго напарнік, каб дапамагчы камерам падрыхтавацца да сну: унесці парашы, матрацы ды ваду. Калі ў прызначаны час наглядчыкі сабраліся па чарзе адчыняць камеры, арыштанты з камеры № 9 пачалі грукаць у дзверы і прасіць, каб іх адчынілі першымі. Іванькоў, пашкадаваўшы іх, вырашыў парушыць звычайны парадак (першай заўсёды адчынялася камера № 16). У гэты час у правым канцы калідора Аўчук адчыніў камеру № 3 і выпускаў арыштантаў-катаржнікаў.

Як толькі з камеры выйшаў апошні катаржнік, пачуўся гучны крык Іванькова: «Ратуйце! Ратуйце!» Аўчук паспеў пабачыць, як група арыштантаў акружае яго напарніка. Тут нехта

нацягнуў на галаву Аўчука мяшок, паваліў і пачаў душыць.

— Нож! Хутчэй сюды, дайце нож! — пачуў Аўчук.

Але прагучаў сігнал трывогі, а следам за ім тры стрэлы. Апошні стогн Іванькова — гукі барацьбы сціхлі.

— Усё, прапала наша справа! — пракрычаў вязень Абрамовіч і некалькі разоў стукнуў Аўчука па галаве. — Ляжы ціха!

Ціха наглядчык праляжаў 16 гадзін, звязаны і прыціснуты матрацамі. Ноччу арыштанты здзекаваліся з яго, праводзячы па шыі акрываўленым нажом. Калі на калідор уварваліся паліцэйскія, Аўчук, падняўшы рукі ўгору, закрычаў: «Не забівайце, я наглядчык!» Яго заўважыў ды вывеў адзін з вартавых.

### Ідэя з газеты

Сведкі з ліку арыштантаў пацвердзілі паказанні Аўчука, а таксама раскрылі тое, чаго наглядчык ведаць не мог. За пару тыдняў да бунту ў рукі катаржніка Канстанціна Сіўца патрапіла газета з артыкулам пра нейкую расійскую турму. Вязні там забілі наглядчыкаў і ўцяклі.

Артыкул так узрушыў Сіўца і ягоных сукамернікаў, што яны пачалі планаваць уцёкі. Ім дапамагалі арыштанты з камеры № 9: Іосіф Белякоў, Аляксандр Скурат, Іван Буднік. Камеры № 3 і № 9 павінны былі зрабіць усё магчымае, каб у калідор іх выпусцілі разам. Планавалася забіць двух малодшых наглядчыкаў, дачакацца старшага наглядчыка і забіць яго таксама. Потым пераапрануцца ў іх вопратку, адчыніць турэмную браму і выпусціць усіх арыштантаў на волю.

За гадзіну да бунту з дазволу Аўчука Абрамовіч праз сукамерніка перадаў у камеру № 9 падарунак — талерку з халадцом, які далі яму сваякі на спатканні. Гэта быў сігнал.

Нападнікі спадзяваліся на хуткую расправу, але Іванькоў пачаў моцна крычаць і клікаць на дапамогу. Паранены, ён здолеў дапаўзці да дзвярэй і з апошніх сіл пацягнуў за вяроўку трывожнага званка. Правал бунту пасля гэтага быў прадвызначаны. У катаржнікаў хапіла разважлівасці пасля гэтага праявіць «міласэрнасць» і не забіваць другога захопленага наглядчыка.

### Павешанне

Падчас допытаў падазраваныя сваёй віны не прызналі, блыталіся ў сведчаннях і скідалі ўсю адказнасць на загінулых. Але гэта не дапамагло. Арганізатараў бунту (Сіўца, Косава, Белякова, Скурата) мінскі ваенна-акруговы суд прысудзіў да смяротнага пакарання. Іх павесілі ў двары Мінскага турэмнага замка (зараз тэрыторыя следчага ізалятара № 1 па вуліцы Валадарскага) пад кіраўніцтвам ката Піліпа Ласянкі. Астатнія асуджаныя атрымалі па дзесяць гадоў катаржных работ.

А жыццё барысаўскай турмы працягвалася. Падчас вайны з палякамі ў 1920 годзе, калі лінія фронту праходзіла па Бярэзіне, сцены і дах турмы былі моцна папсаваныя снарадамі. Потым будынкі аднавілі і выкарыстоўвалі па прызначэнні яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў, у тым ліку і ў часы сталінскіх рэпрэсій. Да нашага часу ад турэмнага замка засталася толькі частка будынка і цаглянай агароджы. ◆


ФОТА OLEXANDR MINIAILO

**Рэшткі Барысаўскага турэмнага замка.**

На ўсходзе Мінска ёсць раён Уручча. А ў глыбіні яго хаваецца ўнікальная мясціна — Парк валуноў. Там мала хто бываў. А дарма, піша студэнт гістфака БДУ Юрый Тамковіч.

# Цуд ва Уруччы



## Беларускі парк, якому няма аналагаў у Еўропе

Калі б мы пабывалі ва Уруччы гадоў сто таму, мы б яго не пазналі: так змяніла гэту мясцовасць урбанізацыя! Раней тут размяшчалася некалькі вёсачак (Уручча, Копішча, Азярышча), якія належалі розным шляхецкім родам. Побач ішоў Старабарысаўскі тракт (гэта значыць, старая дарога на Барысаў) — цяперашняя вуліца Скарыны. Забалочаныя нізіны — тут пачыналася рака Слепня — перамяжоўваліся з лясістымі ўзгоркамі. Некаторыя з іх захаваліся да сёння. У 20–30-я непадалёк быў пабудаваны вайсковы гарадок, які захаваўся (там месціцца 120-я механізаваная брыгада).

Забудова гэтага раёна пачынаецца ў 1970–1980 гадах. У канцы 60-х стала зразумела, што беларускім навукоўцам не хапае прастору для дзейнасці ў цэнтры горада, і было вырашана пабудаваць Акадэмгарадок непадалёк ад вёскі Уручча. Планы былі грандыёзныя. Адным з самых вялікіх аб'ектаў павінен быў стаць Дом вучоных з гандлёвым цэнтрам, кінатэатрам, спарткомплексам і заламі для навуковых канферэнцый. Але праз недахоп грошай гэтыя праекты не рэалізаваліся. Узвялі толькі шэраг навуковых інстытутаў, а пазней, у часы незалежнасці, тут размясціўся Парк высокіх тэхналогій — наша «сіліконавая даліна».

Што ж да самой вёскі Уручча, то яна ў канцы 70-х увайшла ў склад горада і за наступнае дзесяцігоддзе істотна змянілася: узніклі новыя вуліцы, школы, дзевяціпавярховікі. Раён набыў сучасныя рысы. Ад былой вёскі Уручча нічога не засталося, акрамя вясковых могілак і некалькіх пладовых дрэў... Уручча — яркі прыклад шалёнай мінскай урбанізацыі, адной з найбольш імклівых у Еўропе. Як казаў адзін са старажылаў раёна, Аляксандр Валяр'янавіч: «Памятаю, у 60-я прыязджаў сюды карасёў лавіць». Цяпер пра тое толькі ўспаміны.

ФОТА ЮРЫЯ ТАМКОВІЧА

На старых надмагіллях часта не рабілі ніякіх надпісаў, **зрэдку выбівалі крыж**.

### Стварэнне цуду

Адной з самых аўтарытэтных постацяў беларускай навукі 1970-х быў акадэмік, доктар геолага-мінералагічных навук Гаўрыла Гарэцкі.

Гаўрыла Іванавіч быў прадстаўніком першай хвалі беларускіх навукоўцаў, што працавалі ў наваствораней БССР. Нарадзіўся будучы акадэмік у 1900 годзе ў вёсцы Малая Багацькаўка на Мсціслаўшчыне ў шматдзетнай (пяцёра дзяцей) сялянскай сям'і. Адзін з яго братоў, Максім, стаў знакамітым беларускім пісьменнікам.

Просты сялянскі хлопчык Гаўрыла аказаўся вельмі здольным да навукі — спачатку адвучыўся ў школе, потым паступіў у Горы-Горацкі земляробчы інстытут


ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

**Абрысы парку паўтараюць абрысы Беларусі.** У цэнтры самы высокі пункт краіны — гара Дзяржынская.

(1914–1919), а пасля ва Уфімскі інстытут народнай адукацыі (1919–1920) і Маскоўскую Пятроўскую сельскагаспадарчую акадэмію (1920–1924). Ён адзіны ў сям'і атрымаў вышэйшую адукацыю.

Пасля вучобы Гарэцкі вяртаецца ў Беларусь, і пачынаецца яго кар'ерны ўзлёт. Ён выкладае ў альма-матэр — былым Горы-Горацкім інстытуце, а на той момант Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Потым становіцца членам Інбелкульта, членам яго прэзідыума. Ён ездзіць па камандзіроўках у Польшчу, Данію і Нямеччыну. У 1928 годзе Гарэцкага прызначаюць кіраўніком Беларускага навукова-даследчага інстытута лясной і сельскай гаспадаркі, а праз год — у 29 гадоў! — абіраюць членам Акадэміі навук. Так ён становіцца самым маладым у беларускай гісторыі акадэмікам.

Але хутка пачынаюцца цёмныя часы. У пачатку 1930-х Масква вырашае вынішчыць беларускую інтэлігенцыю, арыштоўваюць і Гарэцкага. Яго аб'яўляюць кіраўніком контррэвалюцыйнай «Працоўнай сялянскай партыі» і прысуджаюць да расстрэлу, які замяняюць канцлагерам. У 1934 годзе акадэміка вызваляюць, каб потым зноў некалькі разоў арыштаваць. Калі б Гарэцкі быў пісьменнікам ці настаўнікам, яго б чакала смерць. Але інжынераў у Савецкім Саюзе было мала, і яму захоўваюць жыццё, каб ён працаваў на сістэму. Гаўрыла Іванавіч працуе інжынерам-геолагам у ГУЛАГу на будоўлі Беламорска-Балтыйскага канала, розных гідратэхнічных і абарончых аб'ектаў, а пасля вайны ўдзельнічае ў стварэнні шэрагу ГЭС ва Украіне і Расіі.

## Святая, а не Дзяржынская

Да 1958 года самы высокі пункт Беларусі, гара Дзяржынская, насіла назву Святая гара. Яна знаходзіцца ля вёскі Скірмунтава Дзяржынскага раёна, за 30 км на захад ад Мінска. Гара — частка Мінскага ўзвышша, яе вышыня складае 345 метраў над узроўнем мора.

Пасля смерці «правадыра народаў» акадэміка рэабілітуюць, і ён да канца жыцця займаецца навукай. Гарэцкі напісаў каля 160 навуковых прац па эканамічнай геаграфіі, інжынернай геалогіі, дэмаграфіі, эканоміцы лясной і сельскай гаспадаркі, нават па этналогіі і археалогіі. Памёр 20 лістапада 1988 года.

Менавіта Гаўрыла Гарэцкі прапанаваў стварыць Парк камянёў на вольнай плошчы ля Акадэмгарадка. Яму балела, калі бачыў, як людзі выкарыстоўваць вялікія камяні на розных будаўнічых работах. Трэба штосьці рабіць, падумаў ён, бо гэта ж помнікі геалогіі, прынесеныя сюды яшчэ ледавіком у першабытную эпоху! ▸


ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

**Межы парку** выкладзеныя з камянёў і паўтараюць абрысы Беларусі.




Камень **са старажытнымі знакамі** (ляжаў у вёсцы Стайкі Лагойскага раёна).

▶ Ахова такіх камянёў тады была наладжана слаба — законам абараняліся толькі 52 валуны па ўсёй Беларусі. І акадэмік Гарэцкі прапанаваў паміж раёнам Уручча і Акадэмгарадком (у пойме былой ракі, ля вуліц Купрэвіча і Шугаева) стварыць музей камянёў, каб выратаваць валуны ад знішчэння.

Ідэя была падтрымана ў найвышэйшых колах (самім ЦК КПБ, які ўзначальваў Пятро Машэраў), і ўжо ў сярэдзіне 1970-х быў распрацаваны план музея, а Акадэмія навук прыняла пастанову аб стварэнні «Эксперыментальнай базы ледавіковых валуноў». Да 1982 года на месца музея прывезлі 2 000 камянёў (цяпер іх тут 2 134), вага некаторых была больш за 15 тон! Да 1985 года работы скончылі.

У 1989 годзе Парк валуноў стаў помнікам прыроды рэспубліканскага значэння, а вось музеем ён не стаў да гэтага часу. Хоць звычайна яго так называюць, і нават прыпынак грамадскага транспарту носіць такую афіцыйную назву.

## Каменная карта Беларусі

Парк задумваўся як вялікая фізічная карта Беларусі, у маштабе 1 метр да 2 кіламетраў сушы. Рэльеф мае іншы маштаб: 1-метровае ўзвышша роўнае 100 метрам у вышыню.

Цікавая ў музеі сістэма абазначэнняў розных аб'ектаў. Напрыклад, сцежкі — гэта беларускія рэкі, крушні — гарады, пагоркі — узвышшы (самыя вялікія пагоркі пад 3,5 метра абазначаюць найвялікшыя горы Беларусі: Дзяржынскую і Лысую), тры елкі (праўда, не паўсюль іх колькасць захавалася) — абласныя цэнтры, забетанаваныя ямы — вадаёмы (Заслаўскае вадасховішча і возера Нарач). Дзяржаўная мяжа пазначаная лініяй кустоў.

Гэтая каменная карта афіцыйна называецца цэнтральнай экспазіцыяй і, у сваю чаргу, падзяляецца на больш дробныя часткі, такія як Паазерскі край, Палескі край, Мінскае, Гарадоцкае ўзвышшы і г. д.




**Крыж Баторыя найлепш разглядаць зімой.**

Большасць валуноў на ўзвышшах прывезена з тых самых мясцін, якія яны пазначаюць.

Але цэнтральная экспазіцыя — гэта яшчэ не ўвесь парк, хоць і большая яго частка. У склад музея ўваходзяць «Жывільныя правінцыі», якія абазначаюць Балтыйскае мора з Фінскім і Батнічным залівамі — рэгіён, што ў часы ледавікоў «нажывіў» нашу зямлю камянямі. Алея валуноў складаецца з самых вялікіх камянёў, прывезеных з усёй краіны (тут, дарэчы, можна адшукаць зусім пляскатыя валуны, якія маглі служыць алтарамі, і камяні з выразнымі выемкамі — магчыма, старажытныя ахвярнікі). Ёсць экспазіцыі «Форма валуноў», «Петраграфічны збор», які паказвае камяні рознага геалагічнага паходжання... Але, як па мне, самым цікавым з'яўляецца экспазіцыя «Камень у жыцці чалавека».

## Крыж Баторыя

Гэта экспазіцыя прысвечана камяням, звязаным з культурай, дзейнасцю чалавека. З валунамі звязана ўся наша гісторыя: на іх маліліся і паганцы, і хрысціяне, на камянях рабілі розныя выявы, высякалі з іх крыжы. Нават цяпер беларусы любяць паставіць камень ля лесу пры дарозе і напісаць на ім фарбай штосьці накшталт «Агонь — вораг лесу».

Тут ёсць камяні-следавікі (людзі верылі, што ямінкі на іх — сляды Бога ці Божай Маці), камяні са старажытнымі знакамі, жорны ад старых млыноў, надмагілле пачатку XIX стагоддзя, межавы камень з надпісам «1842», пастаўлены на мяжы ўладанняў шляхціца Адама Галдакоўскага. У 1842 годзе ён набыў зямлю ў вёсцы Бярозаўка цяперашняга Маладзечанскага раёна, пабудаваў там сядзібу.

Знаходзіцца ў гэтым зборы і велічэзны Сцяпанаў камень, з якім звязаная легенда пра краўца Сцяпана і яго дзяўчыну Вялляну, якая ператварылася ў раку Вяллю (так беларусы называюць Вілію).

Некалькі цікавых гісторый звязана з каменным крыжам, які завецца крыжам Стэфана Баторыя. Прыехаў ён сюды ў 1988 годзе з-пад вёсак Асінавік і Сасноўка Докшыцкага раёна. На крыжы выбіты рыцар са шчытом і мячом, над якім карона, а знізу літары R.S.B. (Rex Stefan Batory). Яшчэ ніжэй высечана кола, якое інтэрпрэтуюць як талерку караля.

Дарэчы, у Докшыцкім раёне стаяла яшчэ некалькі падобных крыжоў — адзін у вёсцы Барсукі, а другі ў вёсцы Рапяхі, — але ім пашанцавала менш. У савецкі час іх проста скінулі ў ямы і закапалі.

## Дзед, які дагэтуль робіць

Яшчэ адзін цікавы камень — Дзед, мінская славутасць. Дзед гэты стаяў на паганскім капішчы на Ляхаўцы. Капішча месцілася ля Свіслачы, на колішняй вуліцы Лодачнай непадалёк ад сучаснай Ульянаўскай, за цяперашнім рэстаранам «Старое рэчышча».

Капішча складалася з валуна, алтара, вялікага дуба і вогнішча, якое падтрымліваў мясцовы «старац». Людзі прыходзілі і прыязджалі сюды маліцца, пакланяліся валуну, пакідалі ахвярапрынашэнні. Як казалі, асабліва добра камень лячыў ад бясплоднасці. Працягвалася ўсё гэта і ў XIX стагоддзі, калі тутэйшым жрацом быў Севасцей. Праваслаўнай царкве гэта не падабалася, і да 900-годдзя хрышчэння Русі Севасцея пакаралі, агонь затушылі, дуб спілавалі, а камень застаўся. Сынам Севасцея, дарэчы, пазней займаліся чэкісты...





Прынашэнні да Дзеда прыносяць штодня.

ФОТА ЮРЫЯ ТАМКОВІЧА

Камень жа працягваў выконваць сваю функцыю, пакуль яго не вывезлі ў Парк валуноў, дзе ён стаіць і цяпер. Народ не забыў яго, і нават сёння па пратаптанай сцяжынцы (Дзед стаіць убаку ад астатніх камянёў), цукерках і манетках бачна, што людзі часцяком да яго ходзяць.

**Народ не забыў пра Дзеда. Яшчэ і сёння да каменя прыносяць цукеркі і манеты**

У стваральнікаў праекта Музея валуноў было шмат планаў: хацелі зрабіць пляцоўкі для адпачынку, каменныя скульптуры жывёл ледніковага перыяду і г. д. Аднак пасля распаду СССР парк аказаўся нікому не патрэбны і зарастаў пустазеллем ды хмызняком. Музей тут не зрабілі і па сёння, але ўжо сталі, прынамсі, дбайна даглядаць, чысціць. Нядаўна паставілі шмат указальных знакаў і шыльдаў. Цяпер любы можа разабрацца, у якой частцы Беларусі зараз знаходзіцца і якія цікавыя камяні бачыць. Таксама добра, што пачалі сюды вадзіць экскурсіі — на Фэст экскурсаводаў ці пастаянна, як гэта робіць экскурсавод Павел Дзюсекаў.

Спадзяюся, што парк наш некалі стане ўлюбёным месцам адпачынку не толькі для ўручанцаў, але і для ўсіх мінчукоў. Сюды, дарэчы, можна смела прыводзіць і іншаземцаў: такога парку няма больш нідзе. ◆

# Кава з бурака, ігрушы, тапінамбуру…

**У XIX стагоддзі кава на нашых землях стала сімвалам годнага жыцця. Узніклі свае спосабы прыгатавання і пэўныя цырымоніі ўжывання напою. Піша Людміла Жук з музея-запаведніка «Нясвіж».**

На мяжы XIX–XX стагоддзяў у Еўропе было зарэгістравана больш за 185 патэнтаў для кавамолак. Не ўсе з іх прыжыліся, аднак цяпер усе яны з'яўляюцца прадметамі калекцыянавання. У фондах Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Нясвіж» захоўваюцца кавамолкі і кухонныя млынкі, якія, мяркуючы па фізічным стане, выкарыстоўваліся ў хатняй гаспадарцы не адно дзесяцігоддзе.

Самы масіўны млынок (вышынёй 42,5 см) створаны ў 1928–1952 гадах у нямецкай зямлі Саксоніі. Ён выкарыстоўваўся ў вялікай хатняй гаспадарцы альбо ў кавярні. Млынок мацаваўся да стальніцы або масіўнай драўлянай дошкі. Жорны прыводзіліся ў рух вялікім колам. У цэнтры асновы раней знаходзілася драўляная шуфлядка для молатай кавы.

Як толькі на Беларусі з'явілася кава, людзі сталі шукаць танныя аналагі кававага смаку. Дыетычную каву варылі з карэння тапінамбуру, цыкорыі і ячменю. Асаблівы смак надавалі напою сушаныя буракі, насенне грушы, арэхі бука, ягады шыпшыны. Сыравіна патрабавала добрай апрацоўкі: абсмажвання і перамолу.

Такі млынок, выраблены ў Германіі ў 1941 годзе, выкарыстоўваўся для перамолу жалудоў. Эрзац-кава з жалудоў была папулярным напоем падчас Другой сусветнай вайны. Млынок падобны да механічнай мясасечкі, з той толькі розніцай, што замест шрубавага нажа ўсталяваныя жорны для перацірання зерня. Вынаходнікам падобнай канструкцыі быў Міхаэль Фрыдрых, які ў 1866 годзе заснаваў «Першую фабрыку кавамолак Рэмшайда». Фрыдрых увесь час імкнуўся дабіцца драбнейшага памолу, даўгавечнасці і, галоўнае, захавання водару. Таму практычна штогод ён выдаваў патэнты на ўдасканаленне млынкоў. Да пачатку 1930-х вынаходнік выrabляў свае млынкі пад назвай E.R.E.K.A, а затым пад уласным прозвішчам. Млынкі Рэмшайда выrabляліся да 1959 года.




А гэтая ручная кавамолка атрымала назву «турэцкая». На жаль, на прадмеце няма клеймаў. Падобныя кавамолкі выраблялі многія краіны, у тым ліку і Расійская імперыя, у першай палове XX стагоддзя. Несумненнай вартасцю іх была кампактнасць і наяўнасць складной ці нават здымнай ручкі, якую можна захоўваць унутры корпуса. Такім кавамолкам не было роўных для дробнага памолу. Відаць, падобныя кавамолкі былі і на кухні нясвіжскіх Радзівілаў. Але ў 1939-м усё гэта прапала. Цяперашняя нясвіжская музейная калекцыя куплена нядаўна ў прыватных асоб. ◆







На млынку адліты надпісы **DRGM LEINBRUCK'S IDEAL. DRGM — абрэвіятура Дзяржаўнага патэнтнага бюро Германіі**, вядомая таксама як малы дзяржаўны патэнт. Малы патэнт гарантаваў базавую абарону аўтарскіх правоў на тэхнічнае вынаходніцтва на працягу трох гадоў, з магчымай пралангацыяй яшчэ на тры гады. Знак DRGM выкарыстоўваўся для маркіроўкі патэнтаваных вырабаў з 1891 па 1952 год. Leinbruck — назва завода-вытворцы, заснаванага ў 1868 годзе. Пачынаючы з 1928 года ўсе новыя мадэлі млыноў былі пазначаныя як «Ideal».

Больш пра традыцыю спажывання кавы ў Беларусі чытайце ў артыкуле **Аляксандра Белага «Славутая беларуская кава і хто яе піў»** (№ 4/2018).

# СУПЕР-БЕЛАРУСЬ,

## АБО НЕЙМАВЕРНЫЯ ПРЫГОДЫ МАЛАДОЙ СЯМ'І ПРАГРАМІСТАЎ

### ЧАСТКА 3



















КРЫХУ ПАЗНЕЙ...
ТАК, ДАДЗЕНЫЯ ЁСЦЬ... ВІТОЛЬД КНЯЖЭВІЧ, ПАРУЧНІК АСОБНАГА АТРАДА БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ...
БЫЎ АРЫШТАВАНЫ ЧК У МІНСКУ. ПРАЗ ПЭЎНЫ ЧАС РАССТРАЛЯНЫ...


МЕЎ Я РАЗМОВУ З ГІСТОРЫКАМ...
ЯНА КАЗАЛА, ШТО РАССТРАЛЯЛІ ЯГО!..


А, ШТО ТОЙ РАССТРЭЛ! ТАКІЯ, ЯК МЫ, МОГУЦЬ АДНАЎЛЯЦЦА. ВОСЬ МЯНЕ, ПАМЯТАЮ, ПАД ОРШАЙ У 1514-М НА КАВАЛКІ МАСКОЎЦЫ ПАСЕКЛІ!
І ШТО? ЖЫВЫ-ЗДАРОВЫ! БАЛЮЧА БЫЛО, КАНЕЧНЕ, АЛЕ АДНАВІЎСЯ Ж...
ДЗІВА, ДЫ Й ТОЛЬКІ!.. АЛЕ ІМЯ ЯМУ ПАСЛЯ РАССТРЭЛУ, ПЭЎНА, ДАВЯЛОСЯ ЗМЯНІЦЬ, ЯК ЖА ІНАКШ? А ПОШУКІ ПА ФОТА НІЧОГА НЕ ДАЮЦЬ ПАКУЛЬ...


РАПТАМ...
МАКСІМ, МЫ З МАРТАЙ ПАЕХАЛІ. ПАКАРМІ ДАМІНІКА.
УГУ!
О, СЛАВА, ПРЫВІТАННЕ! ЯК ТЫ МАЕШСЯ?
ЗДАРОЎКІ! ДЫ ЯК ЗАЎЖДЫ, ПРАЦУЕМ ПАТРОХІ!..


ШТО, ТАК І ДУМАЕ, ШТО Я - ВАШ НОВЫ АДМІН?
ТАК... НЕ ВЕДАЮ ПАКУЛЬ, ЯК ЁЙ УСЁ РАСКАЗАЦЬ...


НУ, ДОБРА ТАДЫ, КАЛІ ШТО, Я ЗАЎЖДЫ НА СУВЯЗІ! ПОСПЕХАЎ!
АГА, ДЗЯКУЙ! ПАКУЛЬ!


ЭХ, ЦЭЛЫ МЕСЯЦ - КАТУ ПАД ХВОСТ!
ДЗЕ Ж ЯГО ШУКАЦЬ ЦЯПЕР?


ТАК, ЧАКАЙЦЕ...
І ЧАГО Я РАНЕЙ ІХ НЕ ЗАЎВАЖЫЎ?
АПОШНІЯ Ў КРАІНЕ НЕДАСЛЕДА-ВАНЫЯ СТАРЫЯ ФОТКІ!..


ТАК, ЗАРАЗ ПАГЛЯДЗІМ...


ЦЯПЕР ЗАКІНЕМ ФОТКІ Ў НАШУЮ ПРЫЛАДУ, ХАЙ ПРАСКАНУЕ, МО ЗНОЙДЗЕ КАГОСЬЦІ... ЦІ НЕ...


ЧОРТ! ЗНАЙШЛА КАГОСЬ!
знойдзена супадзенне!


ТАК, ГЛЯДЗІМ... КАЛІ ПРАГРАМА НЕ ПАМЫЛІЛАСЯ, А ГЭТА НАЎРАД ЦІ, ГЭТЫ ХЛАПЕЦ - БЫЛЫ ГАСПАДАР НАШАЙ ХАТЫ... ТУТ ЯМУ ПЯЦЬ ГОД...
ТЫСЯЧА ДЗЕВЯЦЬСОТ ТРЫЦЦАТЫ ГОД... ХТО З ІМ ПОБАЧ? НЕВЯДОМА...
8/IX 1930


ТАК, А НА ГЭТЫМ ЗДЫМКУ ЯМУ ЎЖО ДВАЦЦАЦЬ... І ЗНОЎ ПОБАЧ З ІМ ГЭТЫ ДЗЯДЗЬКА. ДАРЭЧЫ, ДВАЦЦАЦЬ ГОД АМАЛЬ ПРАЙШЛО, А ДЗЯДЗЬКА І НЕ ЗМЯНІЎСЯ ЗУСІМ... МОЖА...
У ЯГО БАЯВЫЯ ЎЗНАГАРОДЫ - ВАЯВАЎ, ЗНАЧЫЦЬ! ТО-БОК, ЯГО ПАВІННЫ ВЕДАЦЬ У МЯСЦОВЫХ ОРГАНАХ ЯК ВЕТЭРАНА...


КУДЫ Б ЛЕПЕЙ ЗВЯРНУЦЦА ПА ЗВЕСТКІ АБ ІМ?
УЛАДЫ МЯСЦОВЫЯ ТУРБАВАЦЬ НЕ ХОЧАЦЦА, АД СЛОВА "ЗУСІМ"...
НУ КАНЕЧНЕ Ж! ТРЭБА ПАЙСЦІ Ў РАЁННЫ МУЗЕЙ ВАЙСКОВАЙ СЛАВЫ! ТАМ АБАВЯЗКОВА ПАВІННЫ ВЕДАЦЬ!
НІК! ЗБІРАЙСЯ ХУТЧЭЙ, ПАЕДЗЕМ РАЗАМ У МУЗЕЙ!


ТАТА, А Ў ЯКІ МУЗЕЙ ПАЕДЗЕМ?
ВАЙСКОВАЙ СЛАВЫ, СЫНКУ! ТАНКІ, ГАРМАТЫ... ПАГЛЯДЗІШ, ЦІКАВА БУДЗЕ...


НУ, ВОСЬ МЫ І НА МЕСЦЫ...


У МУЗЕі...
ДОБРЫ ДЗЕНЬ!
ВіТАЮ! Я - КРАЯЗНАЎЦА, ХАЧУ ПА ФОТАЗДЫМКУ ВЕТЭРАНА ЗНАЙСЦі...
ЁН НЕДЗЕ ТУТ ПОБАЧ ЖЫЦЬ ПАВіНЕН, ВОСЬ ЗДЫМАК, НЕ ПАГЛЯДЗіЦЕ?


ТАК... НЕ, ТАКОГА ВЕТЭРАНА Ў НАС НЕ ЗНАЧЫЦЦА...
НЯЎЖО НЯМА?
?


ЧАКАЙ! Я ЯГО ПРЫГАДВАЮ!
АЛЕ?
БЫЎ НА ВАЙНЕ, АЛЕ...


АЛЕ ПОТЫМ ПАСАДЗіЛі: ЗАБіЎ ЧАЛАВЕКА. А ЯК ВЫПУСЦіЛі, ПЛЯМЕННіК ТАГО, ЗАБіТАГА, ЯГО ПРЫТУЛіЎ.
ЗРАЗУМЕЎ!
ВЯЛіКі ВАМ ДЗЯКУЙ!
ВО ДЗЕ СВЯТЫ ЧАЛАВЕК! У ХАЛУЯХ ЯНЫ ЖЫВУЦЬ!


і ВОСЬ - ХАЛУі...
ВОСЬ ГЭТА ВЁСКА! ДАЖЫНКі ПА ЁЙ ПЛАЧУЦЬ...
ХАЛУі


ТАТА, Я ТАКіХ СТРАШНЫХ ВЁСАК ЯШЧЭ НЕ БАЧЫЎ!
і НЕ КАЖЫ, ЯК ДЗіРКА ЧОРНАЯ. НАВАТ ГАЛАВА БАЛіЦЬ.
ХТО Б ПАДКАЗАЎ... О!
ВіТАЮ, Я - КРАЯЗНАЎЦА, У ВАС ТУТ, КАЖУЦЬ, ВЕТЭРАН ЖЫВЕ?..
ГА?!
А, ТЫ ДЗЕДА ШУКАЕШ?..


У ВіЦЬКі ХАЛУЁВАГА ЖЫВЕ ЁН, САМАЯ ВЯЛіКАЯ ХАТА! АДРАЗУ ЎБАЧЫШ, А ЯШЧЭ РАНЕЙ - ПАЧУЕШ...
і ГЭТА... ДАЙ, НУ... ЗА ДАПАМОГУ, НУ... ТРУБЫ ГАРАЦЬ, РАЗУМЕЕШ?


НАРЭШЦЕ...
И ПОЛЕТЯТ, "МОСКВА-МАГАДАН", ПОСЫЛОЧКИ, ПОСЫЛОЧКИ...
НЕПАДОБНА, КАБ ДЗЯДУЛЯ ГЭТКАЕ СЛУХАЎ...


Пачатак комікса шукайце
ў папярэдніх нумарах часопіса.
Зорачка развязала вяроўкі.


Наша Пластыляндыя
З варагаў у грэкі
Ты наша выратавальніца!


А цяпер забяром наш карабель у разбойнікаў!


Але ў нас
няма зброі.
І няма на
чым плысці.


Танака змайстраваў каменную сякеру.


Ты калі гэтаму навучыўся?
У Каменным веку!
цюк!
Ух ты!

Ну, цяпер трымайцеся, разбойнікі!

Сонца ўжо заходзіла, калі Танака і каманда кінуліся ў пагоню на самаробным плыце.

Вечарэ. Трэба спыніцца на начоўку.

Разбойнікі расклалі вогнішча на беразе ля Чорнага Лесу.







Прэч адсюль, казюркі!

О вялікі Лесавік! Забірай нашую зброю і карабель, толькі пашкадуй нас!
















Працяг будзе...



# Ці магло Вялікае Княства Літоўскае выстаяць супраць Расіі?

Гісторык **Мікола Волкаў** напісаў у фэйсбуку допіс, які выклікаў дзясяткі каментароў і перапостаў. Аказваецца, у сярэдзіне XVI стагоддзя адбылася самая маштабная ў гісторыі ВКЛ акцыя па забеспячэнні зброяй памежных замкаў.

«З 1551 па 1566 год з Вільні ў 45 памежных замкаў Вялікага Княства і 20 інфлянцкіх было выслана 3 087 гакаўніц, 1 079 ручніц і 171 гармата. Для параўнання, у 93-х гарадах Маскоўскай дзяржавы ў 1626–1647 гадах было 1 257 гакаўніц і 1 380 гармат. Такім чынам, уся сістэма памежнай абароны ВКЛ была грунтоўна мадэрнізавана, а арсеналы замкаў за кароткі час павялічыліся ў некалькі разоў. У Полацку колькасць гармат вырасла ў два разы, а стрэльбаў — у сем. А ў Оршы запасы зброі павялічыліся ў пяць разоў.

Маштаб высілкаў Вялікага Княства мяне, насамрэч, уражвае. І гэта далёка не адпавядае вобразу няшчаснай дзяржавы, якая нібыта пастаянна "адграбала" ад усходняга брата», — піша Волкаў.

Важную крытычную заўвагу да напісанага зрабіў гісторык **Алесь Казакоў**: «Лічбы сапраўды ўражваюць, але трэба ўлічваць розніцу паміж "было даслана" і "што засталося" з дастаўленага праз пэўны час». Ён прыводзіць пару характэрных выпадкаў. Так, у 1508 годзе ў Віцебску знайшлі толькі дзве гарматы з шасці, што былі дасланыя туды на год раней. Але гэта яшчэ можна спісаць на вайну. А вось як быць з 1533 годам? (Найбліжэйшая вайна скончылася ў 1521-м.) «Жыгімонт ве-е-ельмі здзівіўся, што ў Магілёве была выяўлена ўсяго адна гармата. Раней магілёўскі намеснік Васіль Саламярэцкі казаў толькі пра недахоп боепрыпасаў. "Где ~~деньги~~ пушки, Василий?"».

Волкаў, аднак, нязгодны: «Па маіх пракідках (параўнанне з пазнейшымі інвентарамі), зброя даходзіла і яе не раскрадалі па дарозе. У 1514 годзе ў Полацк выслалі 40 гакаўніц. А да паставак з Вільні ў 1552 годзе іх было 29. Гэта значыць, большасць захавалася, ну а некаторыя ці паламаліся, ці іх у меншыя замкі перасланлі. Дый у першай палове XVI стагоддзя агняпальнай зброі ўсё-ткі было вельмі мала, таму не дзіва, што ў Магілёве была адна гармата».

Цікавыя звесткі дадаў **Максім Макараў**: аказваецца, у Суражы і Уле нават праходзілі судовыя працэсы за расплавы гармат. «Замак цалкам згарэў разам з гарматамі, і пайшлі абвінавачанні, што нехта на расплаўленых гарматах хоча нагрэцца».

Калі б у ВКЛ было такое добрае ўзбраенне, ці ўзяў бы Іван IV (Жахлівы) Полацк, іранічна пацікавіўся архітэктар і рэканструктар **Аляксандр Пінчук**. «На момант падыходу арміі Івана IV у Полацку было 279 гакаўніц, 11 кіеў і 46 гармат. Для параўнання, у Пскове, які ў 1581–1582 гадах вытрымаў аблогу вялікай арміі Стэфана Баторыя, а ў 1615 годзе — Густава Адольфа, у 1633 годзе налічвалася 287 гакаўніц і 111 гармат. У Смаленску, які на працягу 1609–1611 гадоў стрымліваў пад сваімі мурамі армію Рэчы Паспалітай, налічвалася каля 170 гакаўніц і 100 гармат. Такім чынам, не такі і слабы быў Полацк, а прычыны яго падзення трэба шукаць у іншым», — адказвае Волкаў.

Дыскусія перайшла на іншае: ці мог Полацк выстаяць перад Іванам Жахлівым у час Інфлянцкай вайны. «Полацку дапамагла б толькі дэблакада, гэта значыць, дзеянні палявой арміі. Нават калі б яго ўмацаванні былі на парадак лепшыя, без такой дапамогі здача — толькі пытанне часу», — мяркуе **Максім Лепушэнка**.

«Полацк быў асуджаны, — катэгарычна лічыць расійскі гісторык, аўтар кнігі пра Аршанскую бітву **Аляксандр Лобін**. — Пад яго сцены была сцягнута магутная артылерыя, якая метадычна выносіла ўсе ўмацаванні перад сабой, а калі Давойна перайшоў у замак — гарматы прысунулі да замка. Гэта было ўсяго толькі пытанне часу».

«Маю ўражанне, што не такі і благі быў Полацкі замак і яго зброя. А прычына поспеху Івана IV была ў неверагоднай ваеннай мабілізацыі і нечаканасці нападу. Сцены Полацка ў любым разе разнеслі б, гарнізон быў не такі вялікі і маральна не гатовы "легчы пад нож". А сабраць моцную армію ў кароткі тэрмін для дэблакавання крэпасці ў гетманаў не было магчымасці», — падвёў вынікі дыскусіі МіколаВолкаў. ◆





































## Калі часопіса не засталося ў «Саюздруках» і на поштах, пытайцеся яго ў кнігарнях

**Мінск**
«Акадэмкніга» (пр.Незалежнасці, 72, метро «Акадэмія навук»)
Symbal.by (пр. Машэрава, 18)
Філіял «Акадэмкнігі» на вул. Багдановіча, 46
Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 41–42 і 44–45
«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)
«Мой модны кут» (Цэнтр «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро «Плошча Якуба Коласа», пр. Незалежнасці, 58)
Кніжны кірмаш па вул. Даўмана, 23 (субота 00.00–14.00), месца 78б
«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)
«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)
«Светач» (пр. Пераможцаў, 11)
«Цэнтральная кнігарня» (пр. Незалежнасці, 19)
«Кнігі і кніжачкі» (пр. Незалежнасці, 14)
«Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз Halijafy.by, Knihi.by, Kniger.by, Akademkniga.by

**Гродна**
«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).
«Кругагляд» (б-р Ленінскага камсамола, 29а)
«Раніца» (вул. Маставая, 33)

**Брэст**
«Князь Вітаўт» (вул. Савецкая, 55)
«Асвета» (пр. Машэрава, 57)
«Дружба»(б-р Касманаўтаў, 120)
«Іскра» (вул. Пушкінская, 4)

**Гомель**
«Кніжны свет» (пр. Леніна, 45)

**Віцебск**
«Светач» (вул. Кірава, 10)
«Глобус» (вул. Замкавая, 21–30)

**Магілёў**
«Гасцінец» (Віцебскі праспект, 48)

**Бабруйск**
«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

**Баранавічы**
«Кнігі» (вул. Савецкая, 73)

**Маладзечна**
«Спадчына» (вул. Прытыцкага, 7)

**Ліда**
«Кніжны свет» (пр. Перамогі, 33)

**Наваполацк**
«Дом кнігі» (вул. Маладзёжная, 145)
«Усход» (вул. Кірава, 4)

**Пінск**
«Мой модны кут» (вул. Леніна, 31)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.

# EGCG



## Korean Green Tea Catechin

antioxidant protection

Серыя касметыкі EGCG KOREAN Green Tea Catechin на аснове канцэнтраванай сілы 4 кампанентаў зялёнага карэйскага чаю:

- *BioGenic EGCG-200*
- *Ферментаваны экстракт зялёнага чаю*
- *Гідралат зялёнага чаю*
- *Экстракт ствалавых клетак зялёнага чаю*

*а таксама:*

- *Натуральны японскі зялёны чай Matcha*






УЗМАЦНЯЕ АБАРОНУ СКУРЫ АД НЕГАТЫЎНАГА ЎЗДЗЕЯННЯ:




Белита-М®
COSMETICS